# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

28 КРАСАВІКА 1995 г. № 17 (3789) Кошт 400 руб.


## ЗОНА

*Леаніду ДРАНЬКО-МАЙСЮКУ*

Я у зоне жыву: галава у пяску каля Брагіна,
Каля Хойнікаў сэрца у засені хворых дубоў,
Пад Нароўляю ногі у Прыпяць
бяссільна апушчаны
Ужо дзевяць гадоў,
ужо дзевяць страшэнных гадоў.

І па мне мурашамі нукліды злавесныя поўзаюць,
Бессаромна залазяць у вушы і нават у рот,
Гаспадараць у кожненькай тканцы,
у кожнай крывіначчы,
У пячонцы і нырках, як шашаль,
прарэзалі ход.

Я у зоне жыву: і не хочацца рыбы мне з Прыпяці,
І пячонка лася мне нагадвае вадкі алей,
І зайцы да мяне ў безвыходнасці
жудаснай туляцца,
І, прыбіты хваробай, не свішча сябрук-салавей.

І чарніцы здзічэлі і разам з прывялай малінаю
Пазалезлі ў гушчар і крычаць:
"Не бяры! Не бяры!"
Баравыя грыбы пазбіраліся ў хворыя нерушы
І палкамі гніюць у маім наpаўлянскім бары.

Я у зоне крычу: дзе вы, дзе, мудрацы-акадэмікі?!
Ля чыіх дысертацый карпееце тлумна гады?!
Расшчапіце, як атам, мне рукі,
Чарнобылем сцятыя,
І устаўце у іх поўны кубак нябруднай вады.

Я б уцёк за далёкія горы і моры бясхмарныя,
Але тут мне памерці, дзе родны пясочак і глей.
Ды й вартуе бяссонна у зоне каманда пачварная —
Прапар Цэзій, палкоўнік Плутоній
і Стронцый-старлей.

**Уладзімір ВЕРАМЕЙЧЫК**

## МАКСІМ, НЕ ВЯРТАЙСЯ...

Ад хросных пакутаў, ад здзеку і гвалту,
як Нёман спрадвечны, змялеў радавод...
— Максім, не вяртайся з далёкае Ялты —
цябе не пазнае тутэйшы народ.

Бо й сёння — сляпы ён, з нішчымнай душою,
як калісь, калі ты пра гэта казаў...
Яму непатрэбна ні слава Пагоні,
ні бел-чырван-белы крывіцкі штандар.

Цяпер разумею Чарнобыля кару...
Хоць вый ваўкалакам, хоць каняй крычы —
Валошку тваю — Беларусь, нашу мару —
вось-вось янычарскія скосяць мячы!?

**Эдуард АКУЛІН**



# "ВЕЧАРЫ З MINSK ORCHESTRA"

А ўсё-ткі крыху трывожна ад гэтай радасці — ад радасці, што з'явіўся ў нашай краіне аркестр, які не мае канкурэнтаў сярод айчынных музычных калектываў. Трывожна, таму што лепшыя беларускія музыканты з надзеяй глядзяць на яго й толькі на яго і ўжо многія без асаблівага жалю развіталіся са сваімі пачэснымі, ды малааплатнымі месцамі ў шырокавядомых дзяржаўных аркестрах...

Аказваецца, такое бывае і ў нас. Праўда, грашавітых "прарокаў", здатных убачыць перспектыву ў падтрымцы сур'ёзнага мастацтва, у сваёй айчыне пакуль што не аказалася, як ні прыкра гэта прызнаць. Ініцыятыву — стварыць новы аркестр на Беларусі — выказаў нямецкі дырыжор Вільгельм Кайтэль ды ўладальнік польскага канцэртнага агенцтва "Musik Art" Славамір Савуля. Вось і з'явіўся першы прафесійны недзяржаўны калектыў, па складзе сваім малы сімфанічны, — "Minsk Orchestra". Летам 94-га ён пасяхова правёў канцэрты на трох фестывалях у Германіі, прычым на адным з іх прысутнічаў сусветна вядомы музыкант Егудзі Менухін, які, уражаны выступленнем маладога мінскага аркестра, запрасіў яго на свой фестываль. Імпрэза гэтая мае адбыцца ў Швейцарыі сёлетнім летам.

Няўжо ж лепшыя беларускія музыканты, якія прыйшлі (ці перайшлі) у прыватны калектыў, мусяць працаваць выключна "на экспарт"? На шчасце — не. Мяркуецца чынны ўдзел "Minsk Orchestra" ў канцэртным жыцці Беларусі. Дарэчы, пры канцы мінулага года была прэзентавана вялікая праграма з твораў Дж. Расіні, падрыхтаваная аркестрам супольна з Акадэмічным тэатрам оперы і балета. І вось нядаўна ДАВТ запрасіў публіку на другі канцэрт цыкла "Вечары з Minsk Orchestra". Хто прыйшоў — не пашкадаваў.

Тэатральная ўлётка заваблівa паведамляла: "Калі вы аматар оперы і калі вы дасюль не чулі камічную оперу Дж. Пергалезі "Служанка-пані", дык у вас ёсць выдатны шанц: у І аддзяленні адбудзецца канцэртнае выкананне оперы. Мяркуюць, што з гэтай камічнай мікраоперы, поўнай цудоўных чуллівых нот, выйшаў увесь тэатр XVIII стагоддзя. У цэнтры камедыі — перамога беднай служанкі як прадстаўніцы свайго класа і як жанчыны, а яшчэ — гумарыстычныя назіранні над грамадствам і ягонымі норавамі..."

Гэтая аднаактоўка некалі была ў рэпертуары ДАВТа, і ў ролі старога буркатлівага гаспадара Уберта зіхацеў камедыйны талент В. Чарнабаева. Менавіта ён выканаў ролю Уберта і ў канцэртным прадстаўленні оперы. Партнёркай знанага артыста была чароўная маладая салістка В. Курбацкая (Серпіна). У ролі "бясслоўнага" Веспонэ гледачы пабачылі С. Гаўрыленку, які паставіў і аформіў "Служанку..." у гэткім дасціпным тэатральна-канцэртным варыянце. Дзея разгортвалася побач з аркестрам, які пачуваўся поўнаўладным гаспадаром сцэны.

Пасля антракта гучала аўстрыйская класіка: В. Моцарт, Ф. Шуберт. Саліравала В. Курбацкая. А калі на сцэне заставаўся толькі аркестр з маэстра В. Кайтэлем, гледачы міжволі ўглядаліся ў твары музыкантаў і пазнавалі шмат знаёмых, у тым ліку й ганараваных конкурснымі лаўрамі. Скрыпачы Г. Фукс, А. Жарэга, габаістка С. Сергяенка, флейтыст С. Картэс, фагатыст А. Даннік, альтыст А. Хахлоў, ударнік У. Судноўскі, — ах, якія вядомыя імёны!.. Ці трэба казаць, што выкананне было выдатнае, што атмасфера была натхнёная, што публіка была ўдзячная? І зразумела само сабою, што "Minsk Orchestra" іграў на "біс"...

**С.ВЕТКА**

*Фота Віт. АМІНАВА*

*На здымках: дыпламант міжнароднага конкурсу Вікторыя КУРБАЦКАЯ ды народны артыст Беларусі Віктар ЧАРНАБАЕЎ у оперы "Служанка-пані"; "Minsk Orchestra" пад кіраўніцтвам Вільгельма КАЙТЭЛЯ.*



# ЛІТ КОЛА ДЗЁН

***Не верыцца, што да выбараў у парламент, да рэферэндуму, засталося крыху больш за два тыдні, разбітыя, зняверчаныя святамі. На Беларусі стаіць такая ціша, што вушы закладвае. Дзе вы, кандыдаты-добраахвотнікі? Чаму не чуваць вас і пра вас? Маўчаць радыё і тэле, маўчаць газеты. Аб'яўлена, што на адно дэпутацкае месца прэтэндуе ў сярэднім больш за дзесяць кандыдатаў. Прыйдзем мы на выбарчыя ўчасткі, прачытаем спіс незнаёмых прозвішчаў, падумаем: каго выбраць? А нечы галас ужо цяпер падказвае: нікога... "Все равно обманут..." Крылатыя словы. Бо прагучалі яны з вуснаў на абы-каго, а самога прэзідэнта. Так, будуць выбары ці не будуць, адбудзецца рэферэндум ці не адбудзецца — якая розніца. Ад нас, рахманых і законапаслухмяных, нічога тут не залежыць: "Все равно обманут..."***

## ВЫСАКАРОДНАСЦЬ ТЫДНЯ

Журналісты "Знамени юности", у адрозненне ад іх калег з іншых выданняў, адкрыта выказалі сваю нязгоду з указамі прэзідэнта аб змене рэдактара газеты. Сапраўды, такое магло адбыцца хіба што ва ўталічным творы альбо прысніцца ў благім сне: калектыў рэдакцыі толькі з вечаровай тэлеперадачы даведаўся, што прызначаны новы "шэф" газеты. Голас журналістаў не быў пачуты. З першых дзён кіравання наш прэзідэнт прыслухоўваецца толькі да падказак "уласнага сэрца" і гне сваю лінію, не зважаючы ні на што. Такім чынам, з мінулае пятніцы на Беларусі стала яшчэ на адну цікавую і ўмеру аб'ектыўную газету менш. Затое СС "Белая Русь", магчыма, займее свой цэнтральны орган.

## ЗАКАНАМЕРНАСЦЬ ТЫДНЯ

З пятага траўня рэзідэнцыяй прэзідэнта стане будынак былога ЦК КПБ. Вярхоўнаму Савету прадпісана тэрмінова высяліцца з цэкоўскіх апартаментаў. Пабудова прэзідэнцкай вертыкалі лагічна завяршаецца. Раней побач з савецкай уладай у нас існавала партыйная, цяпер яе месца заняла зверху да нізу — прэзідэнцкая. Зважаючы на гэта, а таксама на вяртанне "свята" 7 лістапада, прапанову аб змене гістарычных сімвалаў на "чырвона-крывавыя", можна зрабіць вывад пра тое, што справа Леніна на Беларусі жыве і перамагае, і што прэзідэнт упэўнена бярэ курс на пабудову камунізму у адной асобна ўзятай краіне з разлікам, што ён (камунізм) перакінецца потым і да суседзяў.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Кожны грамадзянін вольны сам вырашаць, ісці яму на выбары, альбо не. Але пры гэтым варта разумець, што калі ён і іншыя выбаршчыкі не прыйдуць на выбарчыя ўчасткі, галасаванне не адбудзецца, новы парламент не будзе выбраны... І цяперашні склад ВС працягне работу да тых часоў, пакуль не выберам новы парламент".

*(Словы старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах Аляксандра АБРАМОВІЧА, "Рэспубліка", 22 красавіка г. г.)*

## ЗАБАРОНА ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі 21 красавіка падпісаў указ "Аб забароне камерчай дзейнасці ў Міністэрстве абароны, Міністэрстве ўнутраных спраў, Камітэце дзяржаўнай бяспекі, Галоўным упраўленні памежных войскаў, Упраўленні чыгуначных войскаў". Удумайцеся, як абсурдна гучыць: камерчая дзейнасць супрацоўнікаў КДБ (альбо міліцыі і інш.). Чыя разумная галава дала дазвол на гэта? Хто і калі дасць "ацэнку" таму беззаконню, што тварылася ў камерцызаваных войсках і міліцыі ва ўмовах абсалютнае беспакаранасці? Гэты ўказ прэзідэнта можна было б назваць рашучым і разумным, калі б не меркаванні некаторых палітыкаў, якія лічаць, што дарадцы прэзідэнта, рыхтуючы да подпісу чарговы ўказ, часцей думаюць пра "свае" інтарэсы, а не інтарэсы дзяржавы.

## ПРАПАНОВА ТЫДНЯ

Актывісты польска-беларускага літаратурнага таварыства ў Беластоку на сваёй справаздачна-выбарчай канферэнцыі прынялі рэзалюцыю аб вылучэнні Васіля Быкава на атрыманне Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Як паведаміў тыднёвік "Фемида", у беларускім войску зараз служыць 39 генералаў (зусім нядаўна было 51). Афіцэраў жа налічваецца — 22 тысячы. З іх 6800 (кожны трэці!) служыць у сталіцы. Непакрыўджаны і астатнія: большасць з іх жывуць у абласных і буйных раённых цэнтрах. Ці не таму некалі выпускнікі вайсковых вучылішчаў лічылі за шчасце патрапіць служыць у БВА. Сёння ж, у адрозненне ад расійскіх войскаў, у нас няма не толькі Чукоткі ды Забайкалля, няма і Чачні з Таджыкістанам... Не служба, а маліна. Вось толькі, скардзяцца вайскоўцы, плацяць ім мала. Камандзір узвода атрымлівае не на шмат больш за звычайнага прафесара: ад 900 тысяч рублёў у месяц і вышэй...

## СЮРПРЫЗ ТЫДНЯ

Традыцыйны, трэці фестываль беларускай песні і паэзіі сёлета ў Маладзечне не адбудзецца. Пра гэта паведаміў Міністэрству культуры і друку новы мэр горада С. Татарыновіч. Па-першае, у горада няма матэрыяльных магчымасцей прыняць фестываль, а па-другое, футбольная каманда "Маладзечна" "вельмі знакамітая" і канцэрты, якія праходзяць на стадыёне, перашкодзяць футбалістам у падрыхтоўцы адказнейшых матчаў... Вы ўсміхнуліся? А аргкамітэту фестывалю не да смеху. Пакуль на ім вырашана, што фестываль абавязкова адбудзецца, і, як і меркавалася, у чэрвені. Але — у Мінску. Нарэшце апошняга можна пашкадаваць. У любым райцэнтры гэты фестываль стаў бы найвялікшым святам, а ў сталіцы будзе чарговым мерапрыемствам.

## ПЫТАННЕ ТЫДНЯ

Куды падзець атрыманыя чэкі "Маёмасць"? Дзейнасць інвестыцыйных фондаў прэзідэнт прыпыніў. Ашчадбанк, выдаючы чэкі коштам 2500 рублёў, тут жа прымае іх, але па 600 рублёў. Фінансавыя кампаніі прапануюць 700—900 рублёў за чэк, але выручаная сума ледзь пакрывае расходы на афармленне чэкаў. "Дык ці варта тады абіваць парогі ўстаноў, каб потым атрымаць паперкі, якія амаль нічога не каштуюць?" — пытае газета "Рэспубліка". Не варта, адкажам мы, "все равно обманут..."

# АБАРОНІМ РОДНУЮ МОВУ

## ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Людзі зямлі беларускай!

14 мая на рэферэндуме мы павінны будзем выказаць свае адносіны да моўнай палітыкі. У самыя змрочныя часы, у перыяд сталінскай беззаконнасці Вярхоўны Савет БССР ужо хацеў унесці змены ў Канстытуцыю, зацвердзіць у Беларусі дзяржаўнасць рускай мовы. Спасылаючыся на "требования самих трудящихся", улады змагаліся тады з "врагами народа, которые насильно хотели оторвать белорусскую культуру от русской" ("Правда", 27 июля 1938 года). Нешта падобнае нам цяпер прапануюць зрабіць уласнымі рукамі.

Палітыка занядбання беларускай мовы ў апошнія дзесяцігоддзі прывяла да таго, што сфера яе ўжывання звузілася да небяспечных памераў. К канцу 80-х гадоў у гарадах Беларусі не засталося ніводнай беларускай школы, зусім не было беларускамоўнага выкладання ў ВНУ. У 1987 годзе выдавецтва "Полымя" выпусціла беларускамоўнай літаратуры ў 382 разы менш, чым рускамоўнай; выдавецтва "Ураджай" — у 533 разы.

Але ж хіба ў беларускай вёсцы беларусаў жыве ў 533 разы менш, чым рускіх? Хіба ўсе яны выракліся роднай мовы? Не. У 1989 годзе беларускую мову назвалі роднай 80% беларусаў, а таксама 29 885 рускіх, 266 790 палякаў, 17 016 украінцаў, 2388 яўрэяў.

Неабходнасць абараніць родную мову, выратаваць яе прывяла 5 гадоў таму назад да прыняцця Закона аб мовах. Падобныя законы былі зацверджаны ў 1989—1990 гадах ва ўсіх без выключэння рэспубліках Савецкага Саюза.

Падтрымліваючы эканамічныя адносіны з Расіяй, ні Украіна, ні Казахстан, аднак, не прызналі ў сябе афіцыйнага статуса за рускай мовай. У з'яднаным еўрапейскім супольніцтве не ставіцца пытанне аб агульнай мове; наадварот, і французы, і шведы, і галандцы, і іншыя народы вельмі цэняць сваю непаўторнасць. Імкненне захаваць свае родныя мовы ўласціва ўсім народам свету.

А што ж мы, браткі-беларусы? Хто ў нас возьмецца абараніць мову, якая гучыць на нашай зямлі спрадвеку? Няўжо беларуская мова — гэта нешта **не наша**? А тады **чыё**?

Усе мы хацелі б жыць, як "ва ўсім цывілізаваным свеце". Але ці здольныя мы — як ва ўсім цывілізаваным свеце — умець пастаяць за **сваё**? Ці разумеем мы, што **першы пункт рэферэндуму вызначае будучыню беларускай, а не рускай мовы? Няўжо ў нас знаходзіцца ў небяспецы руская мова?**

Вырашаць шляхам галасавання лёс роднай мовы — амаральна. Гэта тое самае, як абмяркоўваць "праблему", ці трэба любіць і шанаваць сваіх старых і нямоглых бацькоў. Яны ж, можа, таксама "неперспектыўныя". Чаму б і іх будучыню не вызначыць пры дапамозе выбарчых бюлетэняў?

Напярэдадні рэферэндуму некалькі разоў было парушана існуючае заканадаўства. У адпаведнасці з 3-м артыкулам Закона аб народным галасаванні пытанне аб мове не можа выносіцца на рэферэндум. 148-ы артыкул Канстытуцыі не дазваляе Вярхоўнаму Савету змяняць яе на працягу апошніх шасці месяцаў сваіх паўнамоцтваў. Заплюшчым на гэта вочы? Але ці не прывядзе ў будучыні наш маўклівы дазвол парушаць законы да новых, яшчэ больш сур'ёзных парушэнняў? Жадаючы рухацца наперад, ці не вернемся мы назад, у 1938-ы год?

Падумаем: каму выгадна правядзенне рэферэндуму?Наляўна, яго ініцыятару — Прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку. Але калі Прэзідэнта сапраўды цікавіць наша думка, то чаму ён не хоча запытацца ў нас, што мы думаем пра выкананне ім сваіх галоўных перадвыбарчых абяцанняў?

Шаноўныя суайчыннікі! Абаронім беларускую мову і паспрыяем захаванню згоды і міру ў нашым грамадстве.

**ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦЫШКА СКАРЫНЫ**

*25 красавіка 1995 года*

# ШЛЯХАМ ПАРАЗУМЕННЯ І ЗГОДЫ

Не так шырока, як раней, не гэтак афішыравана, як у часы, калі пастаянна дэкляравалася дружба народаў, прайшлі Дні беларускай культуры ў Маскве. І ўсё ж, думаецца, яны пакінуць добры, прыкметны след у душах тых, хто пераканаваны — могуць быць розныя палітычныя стасункі, але ніколі не лішняя на зямлі згода, любоў, узаемаразуменне. Асабліва, калі гэта тычыцца кантактаў і адносін між суседзямі.

Афіцыйную дэлегацыю Рэспублікі Беларусь узначальваў міністр культуры і друку А. Бутэвіч. У яе ўваходзілі саветнік прэзідэнта С. Посахаў, прадстаўнікі трох творчых саюзаў: пісьменнікаў — В. Зуёнак, кінематаграфістаў — А. Красінскі, мастакоў — Г. Буралкін.

Асноўны вынік Дзён — падпісанне А. Бутэвічам і міністрам культуры Расіі Я. Сідаравым пратакола аб супрацоўніцтве паміж двума міністэрствамі на 1995—1996 гады. У ім называюцца канкрэтныя мерапрыемствы, у якіх прымуць удзел абодва бакі. У прыватнасці, мяркуецца, што іх аднолькава зацікавяць такія папулярныя фестывалі мастацтваў, як "Беларуская музычная восень" і "Славянскі базар". З'явіцца і новы фестываль, прытым штогадовы — "Славянскія тэатральныя сустрэчы", месцам правядзення якога стануць па чарзе Гомель, Бранск, Чарнігаў. На наступны год запланавана правядзенне двух пленэраў. Абодва пройдуць у Віцебску. Адзін з іх прысвячаецца памяці М. Шагала. Другі, дзіцячы, будзе насіць імя І. Рэпіна. У тым ж 1996 годзе арганізоўваецца выстаўка "Традыцыйнае мастацтва чарнобыльскай зоны". Расійскія калектывы не абмінуць Міжнародны фестываль фальклору, традыцыйны рэспубліканскі фестываль "Звіняць цымбалы і гармонік", а яны, як вядома, стала прапісаліся на Беларусі.

Змястоўнай была і праграма саміх Дзён. У Дзяржаўным музеі музычнай культуры імя М. Глінкі прайшоў канцэрт пад назвай "Маладая Беларусь". Масквічы і госці сталіцы Расіі пазнаёміліся з новымі мастацкімі стужкамі беларускіх кінематаграфістаў — "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апаведаннях" В. Турава, "Эпілог" І. Дабралюбава, "Кветкі правінцыі" Д. Зайцава. Агаворана стварэнне сумеснага фільма "Бацька і сын", прысвечанага знакамітым акцёрам з дынастыі Яроменкаў.

Шмат наведвальнікаў прыцягнула кніжная выстаўка рэтраспектыўных выданняў. Паколькі яна, як і самі Дні, праходзіла пад эгідай 50-годдзя Вялікай Перамогі, то асаблівае месца на ёй занялі выданні, якія раскрываюць веліч усенароднага подзвігу ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Адгалоскі

# ШТО ЗАМІНАЕ НАВУЦЫ?

Артыкул дактароў фізіка-матэматычных навук прафесараў Л. Тамільчыка і Я. Талкачова "Наука пут не приемлет!" у газеце "Советская Белоруссия" за 13. 01. 1995 г. з'яўляецца, на мой погляд, узорам "навуковай" антыбеларускасці. Асноўная ўвага ў ім фармальна надаецца раскрыццю сутнасці "ідэолегем", якія нібыта запавольваюць развіццё беларускай навукі. Але гэта толькі зачэпка, скажам так, а што складае змест артыкула? Запазычыўшы каланіяльна-імперскае азначэнне Беларусі як "лапатнай і бульбяной", аўтары з прафесарскай зацятасцю пачынаюць рушыць асноўную "ідэялагему" нашага часу. У якасці апошняй выступае не проста слова (як вечная тайна і загадка быцця), а менавіта слова беларускае, якое, на думку навукоўцаў, з'яўляецца істотнай перашкодай у развіцці фундаментальных навук. Нават нязграбнае "белашвейства", вынесенае ў загаловак, спатрэбілася ім толькі для метафарычнага ўзмацнення здзеку і іроніі над нашай гісторыяй, традыцыямі і моўнай адметнасцю.

З асаблівым смакаваннем аўтары спрабуюць ажывіць у грамадскай памяці трагічныя вынікі справакаваных камуністычнымі ўладамі БССР дзвюх так званых "беларусізацый" у 20-х і 50-х гадах. Думаецца, што экскурс у гісторыю спатрэбіўся дактарам навук толькі для таго, каб і сёння запалохаць людзей, якія рупяцца пра адраджэнне Бацькаўшчыны. І адначасова паставіць саміх сябе, абцяжараных навуковымі ступенямі і званнямі, у якасці арыенціру і прыкладу для пераймання.

Робіцца аж ніякавата за ўзнёслы цынізм аўтараў, якія пішуць, што "аб энтузіястах выкладання вышэйшай матэматыкі на беларускай мове ў ВНУ не засталося і слядоў памяці". Але ж гэта драма народа і тых канкрэтных людзей, якія сталі ахвярамі бальшавіцкіх "ідэалагем", а

# АДКРЫЎСЯ НОВЫ МУЗЕЙ — ЧАРНОБЫЛЬСКІ



*Віктар Шматаў — стваральнік і кіраўнік музея*

Калі шаснаццаць гадоў назад стварылі ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі Музей старажытнабеларускай культуры, першая экскурсія была праведзена для групы маскоўскіх вучоных на чале з акадэмікам Аляксандравым — "бацькам" чарнобыльскага рэактара. Па дзіўнай іроніі лёсу цяпер побач з тым музеем, толькі на іншым паверсе, адчыніўся новы — Музей чарнобыльскай зоны...

Справа стварэння гэтага музея распачыналася супрацоўнікамі сектара старажытнабеларускай культуры і асабіста яго кіраўніком доктарам мастацтвазнаўства Віктарам Шматавым яшчэ з 1991 г. Праўда, у цывілізаванай дзяржаве можна было б сказаць — толькі ў 1991 г. Для прыкладу, суседняя Украіна прыкладала дзяржаўныя, падкрэсліваю, дзяржаўныя намаганні, каб захаваць помнікі забруджанай зоны. А на Беларусі экспедыцыі наладжваліся адзінкамі-энтузіястамі, якіх проста ўсхвалявала знікненне вялізнага і багацейшага пласта культуры Палесся. Ужо пазней ім дапамагала створаная чарнобыльская экспедыцыя па выратаванні культурных каштоўнасцей небагатымі грашыма ды аўтобусамі, у якія, бывала, не ўлазілі знойдзеныя куфры, ступы. Апошнім жа часам супрацоўнікі сектара ездзілі сумесна з Музеем народнай архітэктуры і побыту.

Экспедыцыі аб'ехалі 59 вёсак, самая бліжэйшая з якіх ад рэактара — за 18 км. Патроху збіраліся экспанаты, складваліся ў калідоры. Ды і цяпер той фонд, гучна абвешчаны на адкрыцці, толькі закутак на лесвіцы, дзе складзены найбольш забруджаныя рэчы. Ды і само памяшканне для чарнобыльскага музея — частка калідора — адваёўвалася з боем у камерцыйнай структуры, адной з тых, што ў Акадэміі навук бойка гандлююць канапамі, карцінамі альбо адзеннем. І ўсё ж музей здолеў адбыцца — камерным па сваёй сутнасці, як утульная сялянская хата з абразамі, ручнікамі, посцілкамі, драўлянымі хатнімі прыладамі. І ў кожным куточку — здымкі інтэр'ера той пакінутай хаты, адкуль узяты рэчы. І дзівішся, якая багатая культура сабрана тут і якое жахлівае разбурэнне прынесла радыяцыйная навала. Самі супрацоўнікі музея не лічаць сябе героямі, хоць штогод працавалі на Брагіншчыне, на Магілёўшчыне, хадзілі па вёсках, аглядалі хаты, "адмывалі" ад радыяцыі экспанаты. Гэта адтуль прывёз В. Шматаў сваю вядомую чарнобыльскую серыю.

Але галоўнае, што нарэшце мы маем музей. Першымі, пры ўсіх неймаверных складанасцях. І будзем спадзявацца, што праіснуе ён доўга, хоць дасюль не знойдзены сродкі на ахову экспанатаў. Парадокс...

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*Фота А. МАЦЮША*



*Пісьменнік Барыс Сачанка*

*В. Шматаў. "Палессе". Карціна знаходзіцца ў інтэр'еры музея*

# СМУТАК ХАЙ ЗЬМЕНІЦЦА Ў РАДАСЬЦЬ



Ніхто зь людзей ня ведае, якімі гадамі пазначаны нашы зямныя межы.
Пакуль мы тут, імкнемся жыць, сьпяшаемся ў заўтра,
і кожная вясна чаруе нас паэзіяй быцьця.

...Пралескі ўзыйшлі з-пад зямлі. Углядаюцца ў сьвет мноствам сініх, як неба, вачэй.

Радаўніца!..

Тых, каго ўжо няма з намі, каго любілі бацькі бацькоў нашых,
каго любілі мы, — цяпер любім памяцьцю.
Дзень памінаньня — гэта і ёсьць тая яднаючая нітка часоў,
якая зьвязвае нас ня толькі са сваім родам,
але й з надзеяй уваскрэсеньня да жыцьця вечнага.

Dainova

# НАСУСТРАЧ ПЕРШАМАЮ-95

**Міжвольна сёння**
**ўспамінаю,**
**Якія лозунгі ў руках,**
**Якія заклікі ў радах**
**Раней гучалі Першамаю.**

**А сёння галасы цішэй**
**І знізу ўверх, і зверху ўніз,**
**І нават той,**
**хто ўлез вышэй,**
**Не кліча больш у камунізм...**

**Так, нас пазбавілі ад "раю",**
**Яго не сталі больш чакаць,**
**Народ тых дзён не забывае,**
**Хоць і не думае вяртаць.**

**Вядома, сёння час не той**
**І шэсці майскія не тыя,**
**Ды ўсё ж дружней папоўнім строй,**
**Хоць на трыбунах не святыя.**

**Я веру: прыйдзе адраджэнне,**
**На то і майская пара,**
**І будзем, як раней, з натхненнем**
**Крычаць: "Няхай жыве!", "Ура"**

**Наш юбілей — Сцяг Перамогі,**
**Нічым яго не замяняй!**
**Забудзем пра бяду, трывогі —**
**Няхай жыве Дзевяты Май!!!**

**Якаў ЛІФАНАЎ**

*г. Мінск*

не прадмет для зларадніччання. Не верыцца, што Леў Мітрафанавіч і Яўген Аркадзьевіч, жывучы ў асяроддзі беларускага народа, не ведаюць трагічных старонак яго гісторыі. Бясспрэчна, павінны ведаць яны аб першым прафесары матэматыкі Савецкай Беларусі Іване Багаяўленскім (1869—1930 гг.). Рускі па нацыянальнасці, ён у 1919 годзе перайшоў з МДУ на працу ў Горацкую сельгасакадэмію, авалодаў беларускай мовай і вёў выкладанне на ёй. А хіба аўтары могуць не ведаць пра акадэміка Тэлістыяна Бурстына (1888—1938), галіцкага яўрэя, выпускніка Венскага універсітэта, які з 1929 г. быў загадчыкам кафедры вышэйшай матэматыкі БДУ, дырэктарам Фізіка-тэхнічнага інстытута АН БССР. Ён падзяліў лёс бальшыні беларускай інтэлігенцыі 30-х гадоў, сустрэўшы сваю смерць у падвалах Мінскага НКУС.

І калі фізікі-лінгвісты заклапочаны, што "переводныя эквиваленты с русского только мешают в работе", трэба згадаць ім, што амаль уся навуковая тэрміналогія, у тым ліку і ў дакладных навуках, прыйшла не з рускай мовы, а з латыні, старажытнагрэчаскай і сучасных заходнееўрапейскіх моў. А "косноязычие" беларускамоўных тэрмінаў, якое нібыта ўзнікае як вынік перакладу, ёсць з'ява не моўная, а ацэначна-ідэалагічная.

Каб не складалася ўражанне, што пункт гледжання Л. Тамільчыка і Я. Талкачова характэрны для ўсёй фізіка-матэматычнай эліты Беларусі, неабходна сказаць, што прафесары, дактары фізіка-матэматычных навук Васіль Бернік, Якаў Радына, Эдмунд Звяровіч і іншыя чытаюць лекцыі, пішуць метадычныя распрацоўкі, складаюць слоўнікі, ствараюць энцыклапедыі па-беларуску. Напрыклад, толькі на кафедры вышэйшай матэматыкі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і электронікі 10 выкладчыкаў працуюць на дзяржаўнай мове. Крыху меншы гэты паказчык у Беларускай політэхнічнай акадэміі.

У свой час адзін з аўтараў артыкула вельмі настойліва папярэджваў аб пагрозе псеўданавукі, якая паразітуе ва ўсіх сферах фізікі і біялогіі. Ён таксама раскрываў сутнасць "артэфактаў" — з'явішчаў, створаных штучным шляхам. Дык вось, хацелася б сказаць, што гэтая перасцярога не лішняя. "Артэфакты" ў наяўнасці, і ёсць пагроза, што яны могуць трансфармавацца ў грамадскую варажнечу.

P. S. Пакуль я чакаў публікацыі свайго водгуку ў "СБ" (якой так і не дачакаўся), "любімая" газета стала распаўсюджваць іншыя пахі палітычнай кухні: з'явіўся матэрыял пад назвай "Притча об языцех, или Зачем сталкивать языки лбами".

На артыкуле С. Маліноўскага няма сэнсу спыняцца асобна, бо ён уяўляе сабой не лепшы ўзор журналісцкай адпрацоўкі хлебадаўцу. Дарма аўтар ушчувае асобных "ушлых аппаратчиков", которые "просекли", што веданне беларускай мовы карыснае. Не менш "ушлый" журналіст "просек", што ганьбаваннем яе можна спадабацца самаму галоўнаму ў нас антыбеларусу. Такога роду феномен называецца канфармізмам, ці, прасцей кажучы, прыстасавальніцтвам. Адзінае, з чым можна пагадзіцца са сп. Маліноўскім, дык гэта з агучанай ім агульнавядомай ісцінай аб тым, што "прырода не церпіць гвалту над сабой". Думаецца, што аўтар, які, па яго словах ("СБ", 5. 04. 95), "гады чатыры назад не прапускаў ніводнага мітынгу БНФ" (праўда, невядома з якой нагоды), якраз і вылучыўся вялікай блізкасцю да прыроды. Дзе-небудзь у пушчы яму б не было цаны. "Советской Белоруссии" не зашкодзіла б адкрыць курсы для сваіх супрацоўнікаў і давесці ім, што, апроч жорсткіх законаў прыроды, у чалавечым грамадстве ёсць такія тонкія матэрыі, як культура і мараль, а, значыць, і звычайнае сумленне.

**Мікола АНЦЫПОВІЧ**

## ЗВЫЧАЙНАЕ ЯЙКА І... ЦЭЛЫ СВЕТ

**Па-свойму яркі, прывабны і непаўторны. А ўпэўніцца ў гэтым лёгка, калі наведаць выстаўку "Вялікдзень. Традыцыі і мастацтва", арганізатарамі якой сталі Беларускі Саюз майстроў народнай творчасці і Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі. Ён жа і прадаставіў месца для экспанатаў — дэкараваных курыных яек. А тым самым для наведвальнікаў з'явілася магчымасць далучыцца да яшчэ адной даўняй народнай традыцыі, звязанай з Вялікаднем.**

**На жаль, з цягам часу многія з нас пра яе забыліся, а калі і памяталі, дык у лепшым выпадку звязвалі з тым, што яйкі на гэтае свята фарбуюць у чырвоны колер.**

**Што фарбуюць — ніхто не сумняваецца. Але ж здаўна іх не толькі фарбавалі, а і па-мастацку аздаблялі, ствараючы традыцыйныя пісанкі-васкаванкі. Дарэчы, пры жаданні, на выстаўцы можна даведацца, як гэта зрабіць і самому. Дастаткова ўзяць курынае яйка, памыць яго ў цёплай мыльнай вадзе, а затым, абмакнуўшы шпільку ў растоплены пчаліны воск, нанесці кропачкі, каб з іх атрымліваўся які-небудзь ўзор. Скажам, кветачка, сонейка, лісток...**

**Пасля гэтага яйка з узорам апускаецца ў фарбавальнік. Затым прасушваецца, падаграваецца над агнём, а воск сціраецца анучкай. У выніку "засвеціцца" ўзор з белых кропачак. Кажуць, што цэлае яйка пасля гэтага можа захоўвацца не гады, а дзесяцігоддзі, паколькі бялок і жаўток у ім хутка засохнуць.**

**Паспрабаваць самому, канечне, не лішне, але лепей паглядзець на тое, што зроблена майстрамі сваёй справы. Тым больш, што на выстаўцы можна ўбачыць не толькі натуральныя яйкі, а і выробленыя з дрэва, гліны, іншых матэрыялаў. Па-майстэрску.**

**Адным словам: звычайнае яйка і... цэлы свет.**

**Н. К.**

## КУРС — ВЫШЭЙШЫ, МОВА — БЕЛАРУСКАЯ

**Пакуль тыя, хто забывае, што ён на гэтай зямлі перш за ўсё беларус, імкнуцца зрабіць дзяржаўнай мовай рускую, сапраўдныя адраджэнцы рупяцца, каб яна пачувала сябе годна і ўпэўнена ў сваёй суверэннай дзяржаве. А такіх свядомых людзей, як бачна, нямала і ў выдавецтве "Вышэйшая школа". Гэта дзякуючы ім пабачыў свет падручнік для прыродазнаўчых і тэхнічных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў Рэспублікі Беларусь "Курс вышэйшай матэматыкі".**

**І, вядома ж, каб матэматыка "загаварыла" па-беларуску, парупіліся самі аўтары — Валянцін Русак, Людміла Шлома, Віктар Ахраменка, Алесь Крачкоўскі. Хоць пры гэтым і мелі немалыя цяжкасці — усё ж матэматычная тэрміналогія пакуль належным чынам не распрацавана. Але адначасова ім працавалася і спорна. Бо ўсім гэтым спадарам беларуская мова ніколі не была чужой, і ўжо некалькі гадоў яны выкладаюць у розных ВНУ Мінска вышэйшую матэматыку на роднай мове.**
**Дарэчы, гэта толькі пачатак важнай справы. Неўзабаве мусіць выйсці другі том згаданага "Курса...", на 1996 год запланаваны трэці...**

## МАЙСКАЯ АФІША ДОМА ЛІТАРАТАРА

**На 4 мая запланавана творчая вечарына пісьменніка Мікалая Чаргінца.**

**Вечар, прысвечаны 50-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, пройдзе 5 мая.**

**11 мая будзе паказаны спектакль "Крыж ля чорнага тракта" па матывах аповесці Адама Мальдзіса "Восень пасярод вясны" ў пастаноўцы Барысаўскага гарадскога тэатра "Відарыс".**

**Беларуская школа пеўчых выступіць 15 мая. Назва вечара — "Пакуль жыве між нас яднанне".**

**Завітайце ў Дом літаратара і 17 мая. Гэтым вечарам адбудзецца прэм'ера мастацка-публіцыстычнага фільма рэжысёра Віктара Аслюка "Слёзы блуднага сына" (аўтары сцэнарыя В. Аслюк і Генадзь Сагановіч).**

**35-годдзе з дня ўтварэння Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва адзначае 31 мая.**

**Усе гэтыя мерапрыемствы пачынаюцца ў 19 гадзін.**

**А вось "круглы стол" па тэме "Праблемы гуманітарнай адукацыі ў школе" пачне сваю работу 29 мая ў 15 гадзін.**

# А ГІМН, ПА-СУТНАСЦІ, ЁСЦЬ!

## ПАСТАНОВА

### КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АДУКАЦЫІ, КУЛЬТУРЫ І ЗАХАВАННІ ГІСТАРЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ ПА ПЫТАННІ АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ ГІМНЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Абмеркаваўшы пытанне аб новым Дзяржаўным гімне Рэспублікі Беларусь, Камісія п а с т а н а ў л я е:

1. Лічыць, што для Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь у вышэйшай ступені падыходзіць песня М. Равенскага на верш Н. Арсенневай "Магутны Божа".

2. Для азнаямлення насельніцтва Рэспублікі Беларусь з названым творам М. Равенскага і Н. Арсенневай (каб яно магло выказаць сваю думку), прасіць Кабінет Міністраў забяспечыць на працягу бліжэйшых трох месяцаў штодзённую трансляцыю гэтай песні па рэспубліканскім радыё ў харавым выкананні ў зручны для праслухоўвання ранішні час.

3. Унесці пытанне аб новым Дзяржаўным гімне Рэспублікі Беларусь ("Магутны Божа", верш Н. Арсенневай, музыка М. Равенскага) на наступную сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Камісіі Н. С. ГІЛЕВІЧ**
*20.04.95 г.*

## МАГУТНЫ БОЖА

### ДЗЯРЖАЎНЫ ГІМН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*Тэкст Н. Арсенневай*
*Муз. М. Равенскага*

**Магутны Божа! Ўладар сусветаў,
Вялізных сонцаў і сэрц малых,
Над Беларусяй ціхой і ветлай
Рассып праменне свае хвалы.**

**Дай спор у працы будзённай, шэрай,
На хлеб штодзённы, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
У нашу праўду, у прышласць — дай!**

**Дай урадлівасць жытнёвым нівам,
Учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай
Краіну нашу, і наш народ!**

## МАТЫВІРОЎКА ВЫЛУЧЭННЯ ПЕСНІ М. РАВЕНСКАГА І Н. АРСЕННЕВАЙ "МАГУТНЫ БОЖА" НА ДЗЯРЖАЎНЫ ГІМН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Пытанне аб Дзяржаўным гімне Беларусі мае сваю ўжо немалую гісторыю. Вялікія сыны Бацькаўшчыны, якія напрадвесні 1918 года стварылі Беларускую Народную Рэспубліку, думалі, вядома ж, і пра гімн сваёй дзяржавы. Прапановы былі розныя. Але да адной думкі прыйсці тады не паспелі. Не зацверджаныя афіцыйна, доўгі час на пэўных тэрыторыях Беларусі ў якасці нацыянальных гімнаў гучалі песні: "А хто там ідзе" (сл. Я. Купалы, муз. Л. Рагоўскага), "Не пагаснуць зоркі ў небе" (сл. Я. Купалы, муз. М. Янчука), "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" (сл. М. Краўцова, муз. М. Тэраўскага), "Беларуская марсельеза" ("Адвеку мы спалі і нас разбудзілі", сл. У. Галубка, аўтар мелодыі невядомы). Пасля другой сусветнай вайны, у сярэдзіне 50-ых, афіцыйным Дзяржаўным гімнам БССР была зацверджана песня Н. Сакалоўскага на словы М. Клімковіча "Мы, беларусы..." З канца 1991 года гучыць толькі музыка гэтага гімна, паколькі яго тэкст не вытрымаў праверкі часам. Многія грамадзяне, несумненна — па наіўнасці, спрабуюць зрабіць гімн Рэспублікі Беларусь, спалучыўшы мелодыю Н. Сакалоўскага з новым тэкстам. Спробы гэтыя ніякага плёну даць не могуць, бо мелодыя былога гімна, хоць і выразная, і запамінальная, — аднак таксама вытрымана ў духу таго казённага, парадна-фанфарнага аптымізму, якім вызначаўся і гімн СССР "Союз нерушимый республик свободных". Адышла тая эпоха — адышоў і часовы гімн нашай Бацькаўшчыны, які не адлюстроўваў запаветных дум і спадзяванняў беларускага народа. Беларусь стала незалежнай дзяржавай, явіла ўсяму свету свае новыя дзяржаўныя сімвалы — Герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы Сцяг; паўстала пытанне і аб новым Дзяржаўным гімне.

На вялікі жаль, стварэнне новага Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь вельмі зацягнулася. Аб'ектыўныя прычыны — надзвычайная складанасць творчай задачы, якая была пастаўлена перад паэтамі і кампазітарамі рэспублікі. Па-першае, гімн павінен мець у сабе выразныя адзнакі гэтага жанру — і ў вершы і ў мелодыі. Па-другое, такі твор павінен быць высокаталенавітым і дасканалым у мастацкіх адносінах — і як паэзія, і як музыка. Па-трэцяе, зместам гімна павінны быць перш за ўсё думы, мары і клопат народа аб сваёй долі-нядолі, усё тое, што складае ідэю народнага лёсу. Апрача таго, вельмі пажадана, каб твор ужо доўгі час жыў у народзе, у народнай свядомасці, каб ён ужо меў пэўную біяграфію, чым багацейшую — тым лепш.

Праведзены ў 1992—1993 гг. конкурс на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь, на думку журы, такога твора не выявіў. Дадатковы конкурс толькі для кампазітараў (на верш Я. Купалы "Маладая Беларусь") у 1994 г. завяршыўся тым, што журы прапанавала ўраду Рэспублікі Беларусь разгледзець у якасці магчымага гімна песню А. Багатырова на названы тэкст Я. Купалы. Прайшло восем месяцаў, як журы конкурсу зрабіла гэту прапанову і склала з сябе паўнамоцтвы, аднак урад да гэтага часу нават не наладзіў праслухоўванне песні А. Багатырова насельніцтвам рэспублікі, з чаго можна зрабіць выснову, што прапанова журы адхілена (канкрэтнага адказу дабіцца, пры многіх спробах, не ўдалося). Улічваючы, што выдатны сам па сабе верш Я. Купалы пэўнымі асаблівасцямі паэтычнай формы і стылістыкі не зусім адпавядае жанравым патрабаванням гімна, можна пагадзіцца з тым, каб гэту песню на Дзяржаўны гімн не прапаноўваць.

Камісія па адукацыі і культуры лічыць, што ў Беларусі ёсць твор, які мае поўнае права стаць Дзяржаўным гімнам Рэспублікі Беларусь. Гэта — песня М. Равенскага на верш Н. Арсенневай "Магутны Божа", — выдатны, цудоўны твор, слуханне якога ў харавым выкананні абуджае ў душы кожнага шчырага беларуса вялікае хваляванне. Дзякуючы сваёй жыццёвай змястоўнасці, глыбіні і скандэсаванасці думкі, прастаце і даступнасці паэтычных вобразаў, магутнай і чароўнай мелодыі, песня гэта ўжо даўно палюбілася многімі грамадзянамі Беларусі, выконваецца шматлікімі прафесійнымі і самадзейнымі пеўчымі калектывамі. Дарэчы, на першым этапе конкурсу яна была прапанавана грамадскасцю на годнасць Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь, але, на вялікі жаль, большасцю членаў журы был адхілена як нібыта твор не свецкага, а рэлігійнага гучання. Хто ўважліва чытаў тэкст, а тым больш душою і сэрцам слухаў песню, — наўрад ці пагодзіцца з такою высновай. Свецкая гэта песня, безумоўна, свецкая! А што ў ёй сёе-тое ёсць і ад Неба, ад традыцый канфесійнай песнятворчасці, — дык для нацыянальнага гімна гэта яшчэ і лепш, асабліва для гімна такога народа, з такім гістарычным лёсам, як беларусы. Гэта не павінна нікога з нас, у тым ліку і перакананых атэістаў, бянтэжыць. Зваротам да Бога пачынаюцца дзяржаўныя гімны многіх краін, дзе таксама жыве нямала атэістаў.

Даводзілася чуць і такія пярэчанні супроць прыняцця гэтае песні за наш Дзяржаўны гімн, што яна, маўляў, не тымі аўтарамі напісана, што яе стварылі беларусы ў далёкім замежжы, людзі глыбока драматычнага лёсу, адарваныя ад роднай зямлі, ад Бацькаўшчыны. Дык ізноў жа гэта толькі пацвярджае правільнасць нашага выбару, бо такія творы, як нацыянальны гімн, распешчанымі шчаслівчыкамі лёсу не ствараюцца, тым больш гімн народа, які сам шчаслівчыкам сярод іншых ніколі не быў. Толькі марыў пра гэта:

**Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай
Краіну нашу і наш народ!..**

Можна не сумнявацца, што калі не цяпер, то праз некалькі гадоў, хай сабе і праз дзесяць ці дваццаць, гэта народжаная на мяжы геніяльнасці песня стане нашым нацыянальным гімнам. Абавязкова стане! Аднак жа лепш, каб гэта адбылося цяпер — каб і мы з вамі, шаноўныя грамадзяне, спрычыніліся да гэтай вялікай патрыятычнай акцыі.

**Ніл ГІЛЕВІЧ,**
**Старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны**

Рыгор БАРАДУЛІН

# ДУРНОТЫ

### РЫКАШЭТАМ

**Ахінуты кумачом
Ён пад іншых роў лычом
Рыў з імпэтам.
Быў адданым стукачом
І паэтам
Рыкашэтам.**

### ХТО ШТО

**Апантаны, шалёны
Спірт глушыць зялёны,
А памяркоўны
Сок цэдзіць маркоўны.**

### КОНКУРС

**Паўдзён бугаём зароў
І каб настрой не скіс,
Праводзіць конкурс кароў
Miss гіз.**

### КОРМЯЦЦА

**Крычыць з іх кожны,
Што ён апальны,
Шчырэе кожны
Ў жыццёвым ціры.
І нацыянальны,
І сексуальны
З ідэі кормяцца рэкеціры.**

### УСЕ ЭПОХІ

**Як вошы, грошы,
Капейкі — блохі.
Іх кожны хоча лавіць
Хоць трохі.
Пхай у кішэні,
Кладзі ў панчохі —
Грашыма пахнуць
Усе эпохі.**

### ДЗЕ?

**Скажыце-ткі, ў якіх краях
Ці ў страшных снах,
Ці ў смешных казках
З патайнай мінай у мазгах
Шукаюць след
Сабакі ў масках,
Каб не пазналі без пары
Выжлятнікаў гаспадары.**

### ВЫЛУЧНА

**Вядзьмарачы на неразведзенай вадзе,
Даводзіць ісціну
Пра хмельнасць квасу,
І з небам гутарку
Спектакліста вядзе
Паэт-аскет
Вылучна цераз касу!**

### КАБ

**Яшчэ рухавы дзядок
Бяссонна
Да дэпутацкай ірвецца лавы,
Каб кукарэкаць ля мікрафона,
Каб пахавалі за кошт дзяржавы.**

### А ПАСЛЯ

**Трэба нашармачка як след
Наканьячыцца ды набрэндзіцца,
А пасля,
Як Вярхоўны Савет,
Прэзідэнціцца,
Рэферэндзіцца.**

### ПРАЧНУЎСЯ

**Прачнуўся ў пэўным месцы сверб,
Каб замяніць спаконны герб.
Дух бальшавіцкі,
Ён жыве
З ідэяй —
Лёгкай дамаю:
Бі молатам па галаве,
Махай сярпом па самыя...
Што ж, хочаш жні,
А хочаш куй,
А ці ў парламенце такуй!**

### ВІДАЦЬ

**Відаць, нас мала перылі,
Што цягне да імперыі
Пад сцягам мусульманістым
З палітбюро іваністым.**

### НЕ ТРЭБА

**Не трэба ветэранскіх слоў багата,
Хоць замаўкай,
Хоць, як бугай, раві.
Так, сапраўды,
Кастрычніцкае свята
Чырвонае,
Ды ад чыёй крыві?**

### З ДАЎНЯГА САЦЫЯЛЬНАГА ЗАКАЗУ

**Ходзяць камсамолачкі,
Ай-я-е!
Палавой праполачкі
Не стае.
Разяваюць ляпачкі
Да пляча,
Ім усё да лямпачкі
Ільіча!**

Паэт і час

*Калі – і "Хто я?", і "Дзе я?" –*
*Пытанні карцяць, як асцё... –*
*Тады яшчэ ёсць надзея,*
*Яшчэ не згублена ўсё...*
*Васіль ЗУЁНАК*

***Яно зразумела, што асаблівасці біяграфіі, духоўнага свету, лірычнага "я" паэта — у яго вершах. Але ж, пагадзіцеся, з мастаком, творы якога звычайна чытаеш не з ваўкавыйным сумам, а з душэўным утрапеннем і суперажываннем, карціць пазнаёміцца як мага бліжэй. У такім выпадку для цябе ўяўляе цікавасць амаль усё, што датычыць яго асобы, ладу жыццядзейнасці і інш. Да таго ж, досыць часта ў працэсе гэтага чытання да аўтара — творцы і чалавека — узнікае яшчэ больш пытанняў, чымся было дагэтуль. Прыкладам — адносна яго поглядаў на тую ці іншую тэарэтычную праблему, нейкую асаблівасць нацыянальнага літаратурна-мастацкага развіцця, адносна ўзнікнення задумы пэўнага твора, закладзенага ў ім праблемна-тэматычнага зместу і г.д. І ўсе яны вымагаюць адказу...***

***Прыкладна гэта ў першую чаргу і передумовіла маю гутарку з вядомым беларускім паэтам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі Васілём ЗУЁНКАМ.***

# У ВЫСОКАЙ НЯБЕСНАЙ "ЗАЗЕМЛЕНАСЦІ"



**— Васіль Васільевіч, якія думкі выклікаюць у вас апошнія грамадска-сацыяльныя пераўтварэнні? Прызнацца, я задаваў гэтае пытанне шмат каму з пісьменнікаў. Адказы былі, як правіла, досыць катэгарычныя...**

— Сацыяльна-грамадскія пераўтварэнні, можна іх як-небудзь па-іншаму называць, — натуральны стан грамадства. Калі няма гэтых самых "пераўтварэнняў", то спыніцца, пагрузне ў балоце застою само грамадства. Іншая справа: куды, у які бок скіраваны гэты рух — наперад ці назад? Вось тут ужо трэба падумаць... Адназначна аб сённяшніх закліках і лозунгах сказаць нельга. Калі захады робяцца ў кірунку адраджэння нацыянальнай свядомасці, нашай, беларускай, — значыць, іх трэба вітаць, яны ў рэчышчы развіцця зямной цывілізацыі (можа, гэта гучыць насуперак агульнаўсталяваным пастулатам, — але гэта, па маім перакананні, так, бо цывілізацыя ўзбагачаецца духоўна праз канкрэтныя праявы канкрэтных носьбітаў нацыянальнай ідэі, а не праз агульныя дэкларацыі).

**— Апошнім часам багата гавораць пра беларускі нацыянальны дух. Якія яго характэрныя рысы, на вашу думку?**

— У беларускім нацыянальным духу, відаць, найбольш значная рыса — нязломная трываласць і жывучасць; колькі б ні таптал і беларуса, а ён усё паўстае перад светам і сведчыць, кажучы словамі У. Караткевіча: "Быў. Ёсць. Буду..."

**— У нашым грамадстве ідуць надзвычай супярэчлівыя працэсы. Змяняецца жыццё, шмат у чым змяняецца і чалавек. Якія істотныя якасці духоўнага вобліку нашага сучасніка вы маглі б адзначыць?**

— Зламаць маральна-духоўны стрыжань, выкарчаваць у адначассе каранёвыя рысы народа не так ужо і дадзена ці наканавана тым "надзвычай супярэчлівым працэсам"... Народная сутнасць, у цэлым, катэгорыя ўстойлівая. Наша спаконвечная працавітасць, міралюбства, гарманічная ўладкаванасць з прыродай, самавітасць, разважлівасць, добрая, незласлівая іранічнасць — у адносінах да сябе і суседзяў, — гэтыя рысы трымаюцца ў нас, беларусах, пакуль што трывала. І не дай бог, каб расхісталі іх розныя халугі ды "ўрвіцелі" сваімі памкненнямі да валадарства матэрыяльнага...

**— Васіль Васільевіч, вы дастаткова даўно працуеце ў літаратуры, добра ведаеце многіх нашых пісьменнікаў, у сувязі са службовымі абавязкамі мусіце часта кантактаваць і са старэйшымі з іх, і з тымі, хто нясе сёння "галоўную службу" ў літаратуры, і з маладымі. Ці задумваліся вы над пытаннем: у чым заключаецца своеадметнасць беларускіх паэтаў і іх творчасці?**

— Здаецца, ужо не раз гаварылася, і тут я наўрад ці змагу да гэтага дадаць штосьці істотнае, — аднак яшчэ раз падкрэслю: моц і адметнасць беларускіх паэтаў — антэеўская, — у лучнасці з роднай зямлёй, у высокай нябеснай "заземленасці". Чаму так "цяжка" і неарганічна прыжываюцца на нашай паэтычнай глебе розныя "ізмы"? Ды таму, што яна адштурхоўвае іх. І не таму, што "чужародныя", а таму, што падсвядома, арганічна адчувае іх неперспектыўнасць. Праўда, у гэтай "несумяшчальнасці" той-сёй схільны бачыць пэўную "ущербность", а мне думаецца, што тут — карані трываласці нашай паэзіі.

**— Якія працэсы ідуць у сённяшняй нашай літаратуры? Многіх зусім слушна хвалюе той факт, што па-сапраўднаму яна пакуль так і не адгукнулася на змены новага перыяду нацыянальнай гісторыі...**

— Пэўна, у сённяшняй нашай літаратуры ідуць працэсы назапашвання, тая акумуляцыя духоўнай энергіі (як і ў грамадстве), якая абавязкова, неадваротна дойдзе да "крытычнага" ўзроўню — і выбухне. Хвалепадобны рух літаратурнага працэсу — з'ява натуральная. І калі азірнуцца назад, то гэта пабачыцца дужа выразна: узлёты "на грэбень" чаргуюцца са спадамі, а то і з "мёртвым штылем", што, аднак, неабавязкова супадае, а часцей ідзе "ў разнабой" з узлётамі і спадамі ў жыцці грамадства. Такое "адхіленне" ў такце — "зуб на зуб" — відаць, яшчэ мацней абвастрае ўспрыманне мастацкай выявы грамадствам, узмацняе яго рэзананс.

У літаратурным жыцці найбольш важным сёння ўяўляецца захаванне пераемнасці. Адмаўленне папярэднікаў — гэта мы ўжо, як кажуць, "праходзілі". Які б вопыт ні быў, яго трэба класці на шалі гісторыі і ісці далей. Набываючы новае, узбагачаючы ўчарашняе.

**— Пасля доўгага перапынку сёння на Беларусі працуе не адна пісьменніцкая арганізацыя. Што вы можаце сказаць пра дзейнасць і перспектывы альтэрнатыўнага Саюзу пісьменнікаў Таварыства вольных літаратараў? У якіх формах мяркуе ладзіць супрацоўніцтва з ТВЛ Саюз пісьменнікаў?**

— З'яўленне Таварыства вольных літаратараў (як быццам астатнія ўсе — заняволеныя...) падзея, калі можна гэта назваць такім гучным словам, у літаратурным жыцці зусім натуральная, — гэта, дарэчы, засведчана і Статутам Саюза пісьменнікаў Беларусі, дзе дэкларуецца поўная свабода на ўтварэнне ў рамках саюза самых розных творчых аб'яднанняў і асацыяцый. Калі ласка — арганізацыйная прастора ёсць: аб'ядноўвайцеся па інтарэсах, схільнасцях, захапленнях, — тварыце!.. Так сталася ў свой час з "Тутэйшымі": задзірыстае самавызначэнне дапамагло маладым "намацаць" свае сцежкі, — пашумелі, многія адсеяліся, а самыя здольныя неўзабаве — і зусім лагічна — сталі сябрамі СПБ. "Таварыства вольных літаратараў" таксама магло знайсці сваю "вольную" нішу ў нетрах Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аднак група гэтая вырашыла дзейнічаць "зусім самастойна". Што ж, вольнаму воля... Толькі ці ёсць гэта "альтэрнатыва" Саюзу пісьменнікаў Беларусі? Пытанне патрабуе доказу. Альтэрнатыва сцвярджаецца творчасцю, а не дэкларацыямі. Прыгадаем, колькі было заяў, і крыклівых, і памяркоўных, у нашым літаратурным станаўленні 20-х гадоў. А ўсё, урэшце, вырашылася тым, хто што і як напісаў. Творы засталіся. А гучныя дэкларацыі патанулі ў плыні часу...

Дай Божа творчага плёну сябрам ТВЛ. А што ёсць там (ці будуць) здольныя людзі, сумнявацца не выпадае...

**— Шмат што ў літаратурна-творчым жыцці грамадства заўсёды залежала ад крытыкі, яе ўзаемадзеяння з асноўнымі родамі і жанрамі літаратуры. У якой меры і ступені сучасная беларуская крытыка ўплывае на літаратурны працэс? Чаго ёй, на ваш погляд, не стае?**

— Бяда сучаснай літаратурнай крытыкі ў яе "некрытычнасці" — не ў вузкім разуменні гэтага слова, не ў ацэнках канкрэтна таго ці іншага твора, а ў стаўленні да жыцця, да яго крытычнага аналізу.

Прызванне крытыка — не "вучыць" творцу, як пісаць, а праз прызму напісанага ім адкрываць чытачу і твор, і жыццё (у сцвярджальным ці адмоўным плане, — гэта ўжо залежыць ад твора). Крытыка — таксама мастацтва (таму яна і мастацкая!). Толькі робіць яна філасофскую "прэпарацыю" жыцця, хай гэта трохі і натуралістычна гучыць, "скальпелем" літаратурнага твора.

**— Васіль Васільевіч, вы, бадай, як ніхто ў нас, багатыя здабыткі маеце ў сцвярджэнні паэмнага жанру. Зразумела, што ёсць даўно ўсталяваныя яго класічныя нормы і ўзоры, на якіх усе мы выхоўваліся. Скажыце, калі ласка, што ёсць паэма для вас? Якой, на вашу думку, яна павінна быць сёння, у эпоху вялікіх духоўна-грамадскіх зрухаў?**

— Што ёсць паэма? Шчыра кажучы, калі пісаў сам "у гэтым жанры", ніколі не задумваўся над "вызначэннямі" (і патрэбы такой не было). Як па мне, дык форма сама павінна "вырастаць" (як Венера з марской пены) са зместу. І самае горшае — слепа трымацца "класічных нормаў і ўзораў", эксплуатаваць адпрацаваныя "формы".

Падазрэнні ўзніклі аднойчы ў мяне, калі чытаў аднаго празаіка: здаецца, спачатку ён вызначыў для сябе тэарэтычна, што такое раман, а потым па "класічных узорах" пачаў канструяваць свае творы, — дужа пакутлівае, скажу, было гэта чытанне, не даведзенае, аднак, да апошняй старонкі...

Не трэба забываць, што адна "паэма" была тады, калі яшчэ ішло станаўленне "празаічнага" рамана, другой яна стала, калі гэты раман "перацягнуў" на сябе многія "літаратурныя функцыі". Абавязковы сюжэт, скажам, з героямі, характарамі, — навошта яны ў паэтычным творы, калі ўсё гэта можа лепш, глыбей і грунтоўней "запраграмаваць" і вырашыць твор празаічны?..

Ды і сам раман — "празаічны", — хіба ён такі сёння, якім быў у тым, "класічным", выяўленні? Раман Сервантэса, раман Дзюма, раман Талстога, раман Дастаеўскага, раман Кафкі, раман Маркеса... Якія далягляды, які шлях!..

І таму — форму трэба "ацэньваць" і трактаваць толькі ў лучнасці са зместам — канкрэтнай эпохі, канкрэтнай творчай асобы.

Было ў маіх сціплых "стасунках" з паэмай такое: пасля выхаду ў людзі "Сялібы" прэтэндэнтка на кандыдацкае званне Л. Смальянава тэарэтызавала наконт недастатковай распрацоўкі "вобразаў меліяратараў". А я, прызнацца, і не думаў пра гэта: у мяне быў на мэце ўсяго толькі мой, асабісты, роздум, выкліканы падзеямі, звязанымі з сённяшнімі стасункамі: "чалавек і прырода", "прырода і чалавек". Меліярацыя гэтая (і меліяратары) была толькі штуршком ці кантрапунктам, і не больш. Астатняе ўсё — лірычнае ворыва і сяўба (час і жыццё — праз маё "я": хоць у "жанравым вызначэнні" стаяла "дыялог праз гады і ростані" — гэта быў дыялог "з самім сабой", што прыйшлося — дзякуючы і Л. Смальянавай — спецыяльна падкрэсліць у наступных выданнях паэмы, бо ў першым выданні гэтая "завязанасць" на "я" была выказана не дужа катэгарычна). Галоўны тут вобраз — "я". Усё працуе на гэтага "героя"...

Як мне здаецца, паэма сёння павінна шукаць шляхі асваення, пазнання свету праз тое самае "класічнае", "лірычнае" "я". Зрэшты, прыгадаем "Боскую камедыю" Дантэ — хто і што там галоўнае? А ўявім "Яўгенія Анегіна" без "лірычных развагі адступленняў" (хоць гэта ўжо і "роман в стихах"), — які "хадульны", банальны "сюжэт" застанецца...

**— Вашу паэму "Маўчанне травы" крытыка і літаратуразнаўства зусім абгрунтавана называе ў ліку самых лепшых твораў гэтага жанру на сучасным этапе развіцця нашай літаратуры. Чым было абумоўлена ўзнікненне задумы твора? У якой ступені прысутнічае ў ім аўтабіяграфічны элемент?**

— Цяпер, калі ўжо мая таемная задума быццам бы ажыццявілася (як? — у вартасным плане, — гэта ўжо іншае пытанне), можна сказаць: "паэма лёсу" "Маўчанне травы" — толькі частка (можа, асноўная) у кнізе паэм "Пяцірэчча" (пяць паэм). Завяршыла гэтую працу "Падарожжа вакол двара" (паэма смутку і надзеі). А яшчэ былі "Сяліба", "Прыцягненне", "Лукам'е", якія склалі (толькі ў іншай трошкі паслядоўнасці) "паэму Радзімы" — "Агонь і сонца". Хацелася праз вобразы і малюнкі роднага краю, што прайшлі праз маё сэрца, сталі сутнаснай маёй часцінкай, праз маё ўспрыманне іх і асэнсаванне, выявіць лёс майго народа і мяне ў гэтым лёсе. Таму, зразумела, аўтабіяграфічны пачатак тут — дамінуючы (як і геаграфічны, і гістарычны).

**— Што б вы маглі сказаць пра суадносіны класічнага і свабоднага вершаў у нашай літаратуры? У якім напрамку, на ваш погляд, пойдзе развіццё беларускай паэзіі?**

— "Пра суадносіны класічнага і свабоднага (а што: "свабодны" — гэта ўжо адлучаны ад "класікі"?) вершаў", пра напрамак, якім "пойдзе развіццё беларускай паэзіі", можна было б адказаць словамі, сказанымі пра паэму. Аднак можна праясніць маё стаўленне да "пытання" і вось гэтай маёй, па тэрміналогіі паэта Леаніда Галубовіча, "зацемкай з левай кішэні" (праўда, "зацемкай" — ад "зацяміць" ці "зацямніць"? — але сказана не мною...) пра адзін верш Міколы Купрэева "Мышынае вочка", — чаго ў ім больш — "класічнага" ці "свабоднага", і якім шляхам яны, гэты верш і гэты паэт, ідуць?..

Звычайна пішаш ці, прынамсі, ёсць нейкі, ледзь не падсвядомы, сігнал сказаць пра таго альбо пра тое, што зрабілася ўжо часцінкай тваёй душы.

Не скажу гэта пра Міколу Купрэева. Ведаю: паэт. Ведаю: таленавіты. Ведаю: з нялёгкім, блытаным лёсам... Усё так. Але не настолькі блізкія мы з ім па тым, як молімся паэтычнаму небу, што і на гэты раз мог бы прачытаць жменьку новых вершаў Міколы, адзначыўшы тое-сёе для сябе з чыста рамесніцкім інтарэсам. І толькі. І толькі — калі б не гэтае "мышынае вочка"...

"Прощай, немытая Россия"... Адзін радок — і стагоддзе спрэчак, развагі, доказаў сцверджання і адмаўлення. З аднаго радка вырастаюць артыкулы, даследаванні, філасофскія трактаты...

Паэзія — загадка не на мігатлівыя стагоддзі: яна — на тысячагоддзі, на вечнасць.

Разгадваюць яе — кожная эпоха, кожнае пакаленне — па-свойму, грунтуючы на ёй сваё светаўспрыманне, сваё светасцверджанне ці светаборства.

І гэта паўсячаснае духаваладарства паэтычнага слова вырастае як бы з імгненнага яго прамаўлення, усяго-наўсяго з канкрэтнага, аднаразавага, здавалася б, яго прызначэння, адрасна-будзённай скіраванасці, з аднае ўспышкі, выбуху сонечнага пратуберанца ў душы паэта...

Але зараз я, усё ж, не пра адзін радок, а пра адзін верш: "Яма ў канцы XX стагоддзя" ("ЛіМ" ад 15 ліпеня 1994 года).

Дык вось:

**Па чыгунцы стагоддзя гудзе і**
**грыміць аграмада,**
**і я свой вагон прычапіў**
**да пачвары праклятай,**
**кідае ў бакі мой вагон,**
**і за намі масты**
**рушацца з грукатам**
**страшным у бездань...**

Заўважаю адразу ёмісты, змястоўны гукапіс: стаГОДДЗЯ — ГУДЗЕ, ГРЫміць — АГРАмада, прыЧАПіў — ПАЧвары (з гэтай люстраной, як рэха, адваротнасцю, вяртаннем наадварот: чап — пач, — як, дарэчы, і не такое прыкметнае "перасяленне", "пераскок", гукавы і, пэўна ж, не бязмэтны, часцінкі "ры" з пачатку аднаго слова на заканчэнне другога...)

А далей — верш-метафара разгортваецца, вырастае...

"На крутым павароце"... "упаў мой вагон у глыбокі адхон, і душа раз'ядналася з целам"...

*(Працяг на стар. 7)*

## "ЮНАЦТВА": УЧОРА, СЁННЯ, ЗАЎТРА

**Мінулы год для выдавецтва "Юнацтва" быў, бадай, самым удалым у творчым плане. Завершана выданне унікальнай 15-томнай бібліятэкі дзіцячай літаратуры народаў былога Савецкага Саюза, пачаты выпуск 10-томнай "Бібліятэкі беларускай дзіцячай літаратуры" і 30-томнай "Бібліятэкі замежнай дзіцячай літаратуры". І хаця, можа, эканамічныя паказчыкі (па незалежачых ад выдавецтва прычынах) не зусім задавальняюць кіраўніцтва, выдавецкаму калектыву ёсць чым ганарыцца — дзесяткі кніг атрымалі станоўчую ацэнку крытыкаў і чытачоў, на адрас "Юнацтва" прыходзяць шматлікія водгукі ад бібліятэчных работнікаў.**

**Добры старт узяты і сёлета. За першы квартал пабачыла свет 26 кніг (з іх 21 па дзяржаўным заказе), у тым ліку і шэсць кніг серыі "Школьная бібліятэка". А гэта — тры тамы У. Караткевіча ("Каласы пад сярпом тваім", "Зямля пад белымі крыламі" і "Дзікае паляванне караля Стаха"), аднатомнік, у якім сабраны лепшыя творы А. Мрыя і А. Гаруна, і іншыя кнігі. Асобнымі выданнямі выйшлі "Бадзірог" В. Зуёнка, "Расказы боцмана Краба" В. Мысліўца, "Мы купілі кракадзіла" А. Бадака і В. Шніпа.**

**І вось у кнігарні паступіў тэматычны план "Юнацтва" на 1996 год. У ім значыцца 115 пазіцый. Безумоўна, пра ўсе кнігі сказаць немагчыма, таму згадаем асобныя з іх. Спачатку пра папулярныя серыі. "Бібліятэка беларускай дзіцячай літаратуры" папоўніцца зборнікамі "Згукі Бацькаўшчыны" (творы ад сярэдневяковага часу, пачынаючы ад Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага і да пачатку XX стагоддзя) і "Цудоўная дудка" (п'есы З. Бядулі, В. Вольскага, А. Вярцінскага, В. Лукшы, А. Вольскага і іншых). У "Бібліятэцы замежнай дзіцячай літаратуры" ўбачаць свет кнігі "Снежная каралева" Х. К. Андэрсана, "Брэменскія музыкі" братоў Грым, "Легенды і міфы старажытнай Грэцыі". У "Бібліятэцы прыгод і фантастыкі" плануецца выпусціць кнігі М. Паўлавай (дарэчы, яна прафесар Мінскага медыцынскага інстытута) "У гасцях у Белага Карліка", Ю. Татарынава "Чарадзейныя яблыкі", зборнік прыгодніцка-дэтэктыўных твораў "Кітайскі папугай", Ж. Клейна "Зорны гамбіт", Г. К. Чэстэртана "Апавяданні". У "Школьнай бібліятэцы" выйдуць "Споведзь" Л. Геніюш, "Фаўст" Ё. Гётэ ў перакладзе В. Сёмухі, "Праклятая любоў" А. Жука і "Апошнія і першыя" Б. Сачанкі, "За морам Хвалынскім" В. Іпатавай, "Галуба" В. Карамазава, "Сымон-музыка" і "Новая зямля" Я. Коласа, "Дабрасельцы" А. Кулакоўскага, "Зона маўчання" С. Гархоўскага, "Грот афаліны" П. Місько і іншыя. Чытачы пазнаёмяцца з выбранымі творамі В. Лукшы ў двух тамах.**

**"Юнацтва" прытрымліваецца прынцыпу: выдаваць толькі самае лепшае. Не выключэнне і план наступнага года. Дашкольнікам і малодшым школьнікам адрасаваны кнігі Г. Багданавай "Чароўны абрус", П. Броўкі "Жаўрук", І. Бурсава "Тры вязкі па тры казкі", М. Бусько "Шасікрылец Хмарагон", А. Вялюгіна "Вада і вуда", І. Галубовіча "Янотавы абяцанкі", В. Гардзея "Зайкава балалайка", С. Грахоўскага "Я ўсё ўмею", Х. Гурыновіча "Птушыная азбука", М. Дуксы "Нябесны карнавал", В. Зуёнка "Па ельнічку, па бярэзнічку...", К. Камейшы "Дожджыкава лічылка", К. Крапівы "Загадкі дзеда Кандрата", С. Лобач "Птушкі п'юць журавіны" і В. Лапціка "Хвалі гамоняць пра легенды", М. Маляўкі "Запрашаем на калядкі", У. Марука "Ведзьміна ноч", У. Машкова "Наследны прынц Андруша", М. Пазнякова "Шые вожык кажушок", Г. Пашкова "Легенды Прыпяці", А. Пісьмянкова "Ласуны-веселуны", П. Прыходзькі "Дзе начуе вецер?", Э. Скобелева "Новыя незвычайныя прыгоды Арбузіка і Бябешкі", М. Скоблы "Камень-перунок", М. Танка "Жураўель і Чапля", Р. Тармолы-Мірскага "Казка за казкай", Я. Хвалея "Пацеркі расы", Г. Чарказяна "Казкі дзеда Ганала"...**

**Найперш сярэдняму і старэйшаму школьнаму ўзросту адрасаваны чарговы выпуск зборніка гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына", аўтабіяграфічная трылогія І. Навуменкі "Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва", кніга Г. Далідовіча "Кліч роднага звона", асноўны змест якой складае аднайменная гістарычная аповесць, што вяртае ў далёкае XIII стагоддзе, беларускія народныя легенды і паданні "Млын на сямі колах", сабраныя і апрацаваныя І. Масляніцынай, зборнік эсэ, нарысаў А. Марціновіча "Зерне да зерня" (гісторыя ў асобах) і іншыя.**

**Навукова-пазнавальная літаратура прадстаўлена нарысам А. Краўцэвіча "Вялікі князь Вітаўт", штогоднікам "Эўрыка", кнігай А. Лозкі і М. Панасюка "Гульні і забавы нашага дзяцінства", кніжкамі-расфарбоўкамі**

***Мы аб'ядналі на адной паласе чатыры розныя чытацкія водгукі. Усе яны так ці інакш тычацца Андрэя Федарэнкі — ці яго ўласнай пісьменніцкай творчасці, ці артыкула ў "ЛіМе", ці меркавання "Нашай нівы" пра яго творы. У дасланых лістах перад намі раскрываюцца цікавыя неардынарныя асобы, і гэта, мабыць, не менш важна, чым слушнасць тых ці іншых высноў.***

***Заўважце, што "рэзануюць" пакуль нелітаратурныя колы. Літаратурныя — як і ў многіх іншых выпадках — маўчаць. І не таму, што не маюць думкі або сваёй пазіцыі... Можа, не час для "ўнутраных" разборак?***

# ІМ СТРАШНА Ў ЦЕМРЫ...

Кажуць, што ў пакутах нараджаецца дзіця, наогул усё новае. А хто гэта гаворыць? Часцей мужчыны, якія па прыродзе сваёй нараджаць не могуць. Адкуль ім ведаць, што роды — гэта вельмі цяжкая праца? Я пайду далей, сказаўшы, што гэта, можа, й падмурак таго Храма, што мусіць быць пабудаваны рукамі чалавечымі. Гэта я імкнуся выказаць свае думкі Андрэю Федарэнку (а можа, й не аднаму яму), хоць і стаіць на мне кляймо "среднего специального образования". Затое я — жанчына, мікрачасцінка Космасу, і толькі на гэтай падставе, як мне здаецца (выбачайце за самаўпэўненасць), бліжэй да ісціны.

Мне спадабалася апавяданне "Бляха", дзіцячая казка ў "Вясёлцы", а вось кніга "Смута"... нешта не тое. А думаю, пісаць трэба аб тым, што перажыў ці добра ведаеш сам. Вось я, напрыклад, тры разы нараджала і кожны раз у мяне было новае пачуццё, і толькі шчасця я не спазнала, хоць шмат чула пра гэта. Была проста палёгка, але я не зблытаю яе з імгенным, вельмі моцным (быццам крылы за спіной выраслі!) адчуваннем радасці, што даецца Небам за ўчынак, упадабаны Богам.

Калі я нараджала першы раз — я адчувала страх, нават не страх чакання болю (боль я вытрымлівала, мяне заўсёды хвалілі за цярплівасць), а страх чагосьці новага, невядомага. Я крычала, рабіла нешта непрыстойнае. Дзіця яшчэ не нарадзілася, душа яшчэ не з'явілася на гэты свет. Гэта быў страх душы. Мне здаецца, што я разумею тыя сілы на чале з нашым "prioram". Ім таксама страшна ў цемры, яны яшчэ не нарадзіліся для новага, яно іх пужае. Яны робяць брыдкае несвядома. Абы суняць гэты страх!

Другое дзіця я нараджала ўжо "прафесійна". Нават сказала персаналу, што пачаліся патугі, чым выклікала ягонае раздражненне супраць маёй асобы: маўляў, самі бачым, знаем. Расплата за "прафесійнасць" прыйшла пасля родаў, калі мяне пачало трэсці бы ў ліхаманцы. Я прасіла, каб мяне накрылі як мага цяплей. Ды стамлёныя, мабыць, больш за мяне акушэркі суха адказвалі, што ў палаце 30° С і што трэба проста ляжаць. І я цяпер думаю, што гэта вельмі добра, калі пры нараджэнні дзіцяці прысутнічаюць прафесіяналы, якія дасканала ведаюць (а значыць, і сапраўды любяць) сваю справу. Дзякуй ім!

А трэці раз мяне падвяла біялогія. Мне ўжо было за 30. Было фізічна цяжка, як ніколі. Я так змучылася, што мне было ўжо ўсё роўна, хто народзіцца і ў якім стане. Абы хутчэй скончыліся гэтыя пакуты. І такіх вось, змучаных, абыякавых — нас, мабыць, большасць. Я ім спачуваю, але і сваім розумам, і сваёй душою ведаю (не спрачаюся, не сумняваюся — **ведаю**), што гэта надзвычай добра, калі існуе гармонія паміж парадзіхай і дзіцем, паміж тымі, хто нараджае, і тымі, хто стаіць ля вытокаў.

Скажаце, а пры чым тут Федарэнка? Па-першае, паўтараю, я не аднаму яму ўсё гэта кажу. Па-другое, Андрэй, ва ўступе вы пішаце, што не змянілі ні слова ў сваіх нататках пасля азнаямлення з рэцэнзіяй "Нашай нівы". І гэтым як бы ганарыцеся. А чаму не змянілі? Няўжо ў вас ніякай **новай** думкі не з'явілася? А мая думка вось якая. Нашто вы дзеліце нас на хрысціян і нехрысціян? Людзі й самі дзеляцца, выбачайце, што тыя авечкі, на католікаў, праваслаўных, пратэстантаў і г. д. "Вы вечно молитесь своим богам, и Ваши боги все прощают Вам". Царква, касцёл, малітоўны дом (хоць апошні, як сцвярджаў адзін святар, далёка ад царквы, і, на маю думку, бліжэй да Бога) даруюць грахі верніку, а Бог, які ў душы чалавечай, ці дарue Ён? Так думаю я, хрышчоная каталічка. Бог, душа — яны існуюць незалежна ад таго, верыць у тое чалавек ці не. "Христос говорил: не в храме, но в духе будете молиться" ("Живая этика"). Мне здаецца, разгадка тут, калі ўжо дзяліць нас на "новых" і "старых". А болей мне і сказаць няма чаго.

**Л. КОЙДАНАВА**

# КУДЫ МЫ ХОЧАМ ПРЫЙСЦІ?

— Куды мне адсюль ісці? — пытаецца дзяўчынка Аліса, разгубіўшыся ў Краіне Цудаў. І чуе ў адказ: — Гэта ў многім залежыць ад таго, куды ты хочаш прыйсці.

Так і мне здаецца: ведаем, што адсюль трэба ісці, але ці ведаем — куды?

Нарэшце! — такой была мая першая думка пасля прачытання артыкула А. Федарэнкі "Новыя" і "Старыя" ("ЛіМ" за 24.04 г. г.). Нарэшце з'ява, якая ўжо пачала пераходзіць межы прыстойнасці, атрымала належны розгалас. Нарэшце наша ўвага звернута, прама і недвухсэнсоўна, на самае галоўнае. Глыбокая ўдзячнасць (упэўнены, не толькі мая) — аўтару гэтага артыкула ў газеце, дзе ён быў надрукаваны. "ЛіМ" не толькі гаворыць пра свабоду і дэмакратыю, але і сам паказвае прыклад сапраўднага дэмакратызму, даючы слова не толькі "сваім", але ўсім, каму баліць, каму ёсць што сказаць.

"Змаганне вядзецца паміж пісьменнікамі хрысціянскага кшталту ("старыя"), з аднаго боку, і нехрысціянскага і атэістамі ("новыя") — з другога" — такі асноўны вывад артыкула А. Федарэнкі. Думка настолькі глыбокая і тэма такая актуальная, што, на мой погляд, неабходна спрыцыніцца для ўдакладнення некаторых нюансаў. "Растлумачце значэнне слоў, і вы пазбавіцеся паловы памылак" (Р. Дэкарт). Слова, якое як мне падаецца, патрабуе тут некаторых тлумачэнняў, — хрысціянства. Калі, трапіўшы ў лабірынт і шукаючы выйсця з яго, сярод надпісаў на сценах мы пабачым слова "выйсце", то сэнс яго трэба зразумець дакладна, інакш не зможам выйсці з лабірынта.

У А. Разанава ёсць верш "Шыльдачкі": на кожнае дрэва павешана шыльдачка, людзі ідуць і глядзяць не на дрэвы, а на шыльдачкі. Так у нас і са шмат якімі паняццямі. Бо гэтак зручней. Але як жа без імкнення зірнуць за шыльдачку? Асабліва ў наш час. "Нашы часы — часы агульнай заблытанасці. Тое, што раней здавалася чыстым і светлым, штодзённа аплятаецца жыццёвым брудам і пылам. Так знікаюць праменныя ідэалы, пакідаючы роспач і безнадзейнасць" (І. Абдзіраловіч, "Адвечным шляхам"). Так было ў 1921 годзе, але сёння яшчэ горш. Знік сэнс, няма для чаго жыць. Хіба што для жыцця. Але ж жыццё для жыцця, як мастацтва для мастацтва, гэтаксама не мае ніякага сэнсу! Кола замыкаецца.

Але самае небяспечнае ў часы агульнай заблытанасці — гэта нашая заблытаная свядомасць: ніякіх крытэрыяў, ніякіх перакананняў, таму — ні пратэсту, ні падтрымкі, хто б ні звяртаўся — "у адказ — цішыня..." "Калі пад напорам падзей грамадства страчвае здольнасць імкнуцца да высакародных мэт і прытрымлівацца цвёрдых перакананняў, яно фатальна падначальваецца закону інерцыі і рухаецца наўздагад" (Н. К'ярмонці, "Парадокс гісторыі"). Такое адчуванне, што мы ўжо каторы год рухаемся менавіта так — наўздагад.

У такой сітуацыі адзінае выратаванне — яркі, высакародны ідэал, які б вогненным слупам пайшоў перад намі, як некалі рухаўся такі слуп перад габрэямі. І такі ідэал ёсць, гэта ідэал хрысціянства, дакладней — Хрыстос. Ад нас саміх залежыць — захочам мы ўбачыць гэты ідэал і пайсці за ім альбо не захочам.

Шаноўны А. Федарэнка лічыць хрысціянскімі пісьменнікамі тых, творам якіх уласціва "чалавекалюбства, суперажыванне, прастата ўспрымання". Але хрысціянства — гэта "не літара, а дух". Твор толькі тады будзе хрысціянскім, калі пісьменнік будзе мець у сабе гэты дух. Мая жонка прачытала нядаўна ў "Полымі" апавяданне, здаецца, М. Капыловіча, і была літаральна падаўлена прачытаным. Ці не такія пачуцці выклікае пераважная большасць таго, што зараз друкуецца ў нашых часопісах? Усё гэта мае мала агульнага з хрысціянствам.

Не ведаю, ці пагодзіцца са мною А. Федарэнка, але я так удакладніў бы зроблены ім вывад: нязгода існуе паміж пісьменнікамі, якія свядома ці падсвядома набліжаюцца да хрысціянства, і тымі, якія аддаляюцца ад яго. Па-іншаму: паміж тымі, што імкнуцца ствараць, і тымі, што робяць адваротнае. Паміж тымі, што працуюць, і тымі, што шумяць. Аднак "не вакол творцаў новага шуму, — вакол творцаў новых каштоўнасцей абарочваецца свет; ён абарочваецца нячутна" (Ніцшэ, "Так казаў Заратустра").

Чым, як не стварэннем новага шуму, з'яўляецца тое, што пішуць пра апошнія кнігі Я. Брыля і А. Федарэнкі аўтары "Нашай нівы"? (N 2, 1995). Адказваць на падобнае, канечне, ніжэй годнасці кожнага з гэтых пісьменнікаў. Каб можна было, я б толькі хацеў запытаць і А. Глобуса, і Андраніка: адкуль у вас столькі злосці? Напэўна, нават на экспарт яе можаце пастаўляць, калі там узнікне нястача.

Для мяне асабіста з'яўляюцца несумненнымі каштоўнасцямі, напрыклад, апавяданне І. Жарнасек "Гадара", апавяданне А. Федарэнкі "У гасцях", вершы В. Жуковіча... ("ЛіМ", 1995). Новы шум — гэта толькі шум, ён быў і знікне, новыя ж каштоўнасці прыўносяць у душу часцінку святла, адкрываюць нешта новае, проста прымушаюць радавацца іх з'яўленню. Яны і застануцца.

Але вышэйназванае — гэта толькі шлях, сродак, але не мэта. Куды мы хочам прыйсці праз прававую дзяржаву і з роднай мовай? Бо дасягнуўшы ўсяго гэтага, шчаслівейшымі мы не станем. Паглядзіце ўважліва на самастойныя дзяржавы, у якіх усе гавораць на сваёй мове. Шчаслівыя яны? Чаму ж тады працэнт самазабойстваў у іх не толькі не падае, а яшчэ і ўзрастае?! Значыць, нешта не тое... Так што ў рэшце рэшт усё залежыць ад таго, "куды мы хочам прыйсці".

**У. ПЯТРОЎСКІ**

*г. Маларыта*

# НА АЛІМПЕ ХОПІЦЬ МЕСЦА ЎСІМ

"Мішэль ляжыць на асфальце" — так называецца крытычны опус у газеце "Наша ніва" (N 2 за гэты год). Прачытаў і не магу не выказацца.

Бойкае пяро, ліхі кавалерыйскі наскок пры незвычайнай лёгкасці ў думках, як гаварыў славуты літаратурны герой. Праўда, Хлестакоў хоць і хлусіў, натхнёна і шчыра, але да паклёпу не апускаўся. А тут ён вытыркаецца амаль у кожным сказе: напісана прадузята, з непрыкрытай злосцю, як не пра сваё, не пра свайго, а як пра ворага, — быццам А. Федарэнка нечым нанёс вялікую крыўду асабіста яму, невядомаму аўтару, што схаваўся за псеўданімам "Андранік". Насцярожыў тон, характар крытычнага водгуку. Уважліва перачытаў яшчэ раз, зноў пагартаў кніжку А. Федарэнкі: не, не дае яна падстаў для тых хуліганскіх ацэнак, на якія, як на ржавыя цвікі, натыкаешся ў рэцэнзіі "Нашай нівы".

З месца ў кар'ер, з атэстацыі А. Федарэнкі (з нейкім дзіўным падтэкстам) як прадстаўніка афіцыйнай (?!) маладой беларускай літаратуры, пачынае Андранік сваю пашахонскую пагулянку па творчасці пісьменніка. Ён прызнаецца: "Прачытаў кніжку за адзін вечар". Цудоўна, так звычайна чытаюць, калі цікава або калі зачапіла. Але тут іншы вывад: "І яна мне не спадабалася". Чаму ж не спадабалася? Справа ў тым, тлумачыць Андранік, што кніга "проста кішыць вульгарызмамі, маскалізмамі, неапраўдана ці няўдала выкарыстанымі". Усё ў А. Федарэнкі "выходзіць... нацягнута й непрыгожа. Брыдка, як мат з вуснаў неразумнага дзіцяці". І далей: "Федарэнку сняцца лаўры Венечкі Ерафеева". Во які тэлепат — умее падглядзець нават чужыя сны! Цікава, а чые лаўры сняцца самому Андраніку? Не Лукаша Бэнды?

Выклікае гнеў рэцэнзента і тое, што Федарэнка "цытуе Талстога... набіваецца ў нашчадкі вялікага траважэрцы". А гэта для Андраніка "ізноў брыдка", карацей, усё ў А. Федарэнкі не "па-мастацку", "кісла, нецікава, брыдка", "дрэнь". А ці ёсць у творах А. Федарэнкі хоць што-небудзь вартае ўвагі? Ды што вы — абсалютна нічога!

Словам, няма пісьменніка А. Федарэнкі. У гэтай кароценькай, як дзіцячая кашулька, нататцы са здзеклівым перацісканнем сустракаешся на кожным кроку: "заклапочанасць на тэме алкагалізму выклікае... жаданне пайсці й напіцца насмерць". Відаць, Андранік наталіў-такі сваю нясцерпную смагу, а пасля ўзяўся пісаць рэцэнзію...

Быццам у цэкоўскія часы, аўтар абвінавачвае пісьменніка ў ачарненні рэчаіснасці, у тым, што ён нібыта "не любіць" сучасную моладзь. Невядомы, Андранік, здаецца, забыўся, што літаратура — гэта люстэрка, пранесенае па жыццёвай дарозе, і не віна мастака, што на ёй так многа калдобін.

Па сутнасці, гэтая рэцэнзія не мае ніякіх адносін да літаратурнай крытыкі. Нават не спасылаючыся на апавяданні А. Федарэнкі, рэцэнзент выносіць свой безапеляцыйны прысуд: "У Федарэнкі заўсёды атрымліваецца адно й тое ж". Што гэта за "адно й тое ж", мы ўжо ведаем з рэцэнзіі. Толькі верыць ёй не выпадае.

Каб не падалося некаму, што згушчаю фарбы, паслухайце яшчэ: "Калі б гэтая аповесць ("Сінія кветкі". — А. М.) была надрукавана ў расейскім часопісе "Молодая гвардия", я б зразумеў. Там і Талстога паважаюць і сучасную моладзь не любяць. Там бы Андрэю Федарэнку... й прэмію далі за лепшы твор года. А тут, у Беларусі, ні прэмій, ні разумення", — зласліва хіхікае з-за вугла Андранік.

А дарэмна. Ёсць і *першае — прэмія* ў конкурсе на лепшае апавяданне, што праводзіла газета "Звязда", ёсць і другое — ўвага чытача: вучнёўская, студэнцкая моладзь наладжвае канферэнцыі па творах А. Федарэнкі. Гэта магу засведчыць як выкладчык роднай літаратуры, які трошкі ведае прадмет размовы. Больш таго, заўважылі А. Федарэнку і за мяжой. У перакладзе на англійскую мову ў часопісе "Ікарус" (Нью-Йорк) змешчана апавяданне "Бляха" з вельмі прыязнай прадмовай і партрэтам А. Федарэнкі. Гэта пра штонебудзь гаворыць? Давайце разам парадуемся і павіншуем пісьменніка. Ён трывала стаіць на падмурку свайго несумненнага таленту ("Хвалу и клевету преемли равнодушно"!). А вось на чым стаіць рэцэнзент Андранік?

Нехта скажа: падумаеш, ну грызанулі — нязначны, прыватны факт. Але ў свой час Гегель пісаў, што сутнасць прасвечвае ў з'явах, у тым ліку і ў з'явах нязначных...

Пішу гэта без радасці, з болем у сэрцы і думаю: што кіравала, вадзіла пяром ананіма — зайздрасць, комплекс уласнай непаўнацэннасці? Не ведаю. Я далёкі ад літаратурных стасункаў. Калі гэта здагадка мае пад сабою аснову (а іншага тлумачэння не знаходжу), то хацеў бы сказаць: літаратурны Алімп *нікім не прыватызаваны*, там хопіць месца ўсім, хто таленавіта і сумленна працуе.

**Анатоль МАЙСЕЕНКА**

# ХТО НОВЫ І ХТО СТАРЫ?

Адразу засцерагуся, каб не сказалі, што я захацеў "убрыкнуць": па-мойму, звычайна аўтар літаратурнага тэксту піша "з вобраза", які складваецца ў ментальным полі паводле інфармацыі і адчуванняў, — паводле інтуіцыі. Думаю, што пісьменнік не мае такой завядзёнкі — месціць у гэту інсталяцыю каня, які выбрыквае. Тэма можа выбрыкваць і без адмысловага каня.

Але пара ўжо пераходзіць да практычнай часткі, і тут я, даруйце, шаноўны А. Федарэнка, звяртаюся да вашых тэкстаў. Не столькі таму, што, як кажуць, хто высунуўся, па тым і агонь, а хутчэй з-за іх адметнасці і паказальнасці.

Маю на ўвазе "Смуту". Спачатку я ўспрыняў тэксты з гэтай кніжкі цалкам станоўча, бо яны не маюць заімшэласці. Новыя? Потым асела адчуванне нейкай нязгоды, асабліва з тытульнай аповесцю. Потым яно выкрышталізавалася.

Што цікава: вы самі, па вашым азначэнні, павінны былі б адысці да "новых". Хрысціяне языкоў не праколваюць. ("Не ўчыні другому то, што ты не хочаш, каб учынілі табе".) Але ж яны ("новыя") вас пакуль што не прымуць, і вось чаму.

Занадта ўсё проста. Апісанне не дае разумення. Што навокал пануе плебейства — мы гэта ведаем. Вы ўбрыкнулі гэтае плебейства, замест таго, каб заглыбіцца і дайсці да люмпенскай яго прыроды.

Сапраўдныя "новыя" не брыкаюць ні хрысціян, ні каго-кольвечы ў сваіх творах. Я б у іх вусны хутчэй уклаў лозунг чэхаў падчас чэмпіянату свету па хакеі 1970 г.: "Вы нас пушкамі, мы вас клюшкамі". Замест клюшак у "новых" самавыяўленне вольных людзей.

"Старыя" свядома ці падсвядома апалагізуюць альбо брыкаюць, "новыя" ўдала ці цьмяна (але без спрашчэнства) будуюць свае парадыгмы (альбо працягваюць іх будаваць).

Таму мяне шчыра пацешыў у свой час згаданы вамі В. Аўраменка, які напісаў, што на Беларусі пры дэмакратычным развіцці, можа, нейкім чынам калькулююцца ля ўлады ліберальныя дэмакраты.

Дэмакратыя на Беларусі можа быць толькі нацыянальная. Ва ўсіх іншых варыянтах прыйдзецца падаўляць парадыгмы "новых", бо гэта адзінае, што не паддаецца прыручэнню і — па-культуроваму — дык павінна быць прынята. Лібералы ж проста не змогуць і не захочуць знайсці грошы на стратныя парадыгмы і саступяць націску плоймы культуртрэгераў на шэрых коніках і ў саламяных капелюшах.

Дзякуючы таму досведу, што ўсе мы памром, хрысціянін Босх стварыў такія абсалютныя шызы, якіх і камуністы з іх адноўленым Чырвоным Кастрычнікам не пераважылі.

Вобраз дзякуючы сродкам альбо герметычны, альбо агульназразумелы (але гэта не значыць, што ён лепшы), альбо плыткі, паверхневы, альбо глыбінны. Культура альбо ёсць, альбо няма, літаратура альбо добрая, альбо ніякая.

Вось адкуль, на мой погляд, трэба было б весці мяжу паміж новымі і старымі; шыфры да "новага" выдае не загадчык конефермы, і не Літфонд (як вы, *спадар*, Федарэнка, правільна заўважылі), і нават не апостал Павел.

Вольны дум маіх лёт. Хто іх адгадае?

**Яўген БЯЛАСІН**

*г. Брэст*

# У ВЫСОКАЙ НЯБЕСНАЙ "ЗАЗЕМЛЕНАСЦІ"

*(Пачатак на стар.5)*

Аднак:

**У крыві і асенняй гразі я сабраў сваё цела**
**і паклікаў душу — яна з поля азвалася ціха,**
**я на голас пайшоў —**
**пад халодным кустом трымцела,**
**шэпча: ў неба хацела —**
**цяжкія грахі не пусцілі...**

**Зноў душу я ўдыхнуў у сябе,**
**астудзіў ёю горла**
**і прыйшоў па разбітай дарозе**
**назад на радзіму,**
**пад вокнамі дзедавай хаты**
**палын вырас горкі.**
**І брыду я з рыдлёўкай**
**на ўзлесак счарнелы і дзікі...**

Безвыходнасць, пустэча. Апакаліптычная? Чарнобыльская? — адказу няма. Толькі капае чалавек яму. І зноў жа: сябе пахаваць? ці гэты зруйнаваны свет?.. Пытанні, пытанні... (У мяне, зразумела. І гэта добра: пытанні без гатовых адказаў — перадумова паэзіі, тое, што і чытача робіць сааўтарам: пытанні будзяць маё чытацкае ўяўленне, "уключаюць" у працу думку і душу).

І — "раптам шэрая мышка-палёўка глядзіць на мяне"... "маленькімі бубкамі-вочкамі"... "быццам пытае: "Вярнуўся? вярнуўся?.. У норках маіх — зернейка, зернейка, хопіць нам на дваіх"...

Як па мне, то, мабыць, і хапіла б для верша гэтага "мышынага вочка". Але ж нешта "пацягнула" паэта "на апошнюю страфу" — "зняць" мае чытацкія пытанні ці што? А можа, лепей было б, каб яны засталіся са мною?.. Аднак — пацягнула... Як на "апошнюю чарку", "аглаблёвую"... Быццам "ўсё выпіта", хоць і не дапіта, а яшчэ хочацца нешта "ўзяць для душы", дагаварыць, давесці, здаецца, самае галоўнае... А бывае, яно ўжо сказана? І не трэба высільвацца... Але ж — уздымны чад натхнення!.. Ды і, зрэшты, апошняе слова за паэтам. Астатняе — засведчана няхітрай мудрасцю аўтара (з творча-рэдактарска-цэнзарскага фальклору): "Ведаеш, як напісаць, то вазьміся і напішы. А маё не чапай..."

І яшчэ адно "адкрыццё", а дакладней, пра тое, як я "шукаў" у гэтым вершы рыфму. З самага пачатку і не думаў пра яе (сведчанне сапраўднай паэзіі, калі не заўважаеш "формы") — проста чытаў. А на апошняй страфе, спатыкнуўшыся на яе "патрэбнасці" ці "непатрэбнасці", раптам "адкрыў", што яна без рыфмы:

**Ля Ямнага выкапаў яму,**
**накрыў дзірваном —**
**ля сівых курганоў, ля пакінутых хатаў,**
**схаваўся ў ёй — не чуць і не бачыць,**
**як трашчыць і гарыць аграмада,**
**як падаюць рэйкі з неба...**
**Дзе ж ты, мышка?**
**Хопіць нам на дваіх.**

Ну, без рыфмы дык без рыфмы — што ж тут дзіўнага... Але вярнуўся да пачатку. І першая страфа без рыфмоўкі. Праўда, тут "працуюць" сугуччы, пра якія ўжо гаварылася — і, мабыць, не горш за рыфмы. У другой страфе першы радок "падаў" голас апошняму, чацвёртаму: "*ляцелі — целам*", другі і трэці радкі (як, здавалася, павінна было б "здарыцца") ад рыфмы "адмовіліся". У трэцяй страфе рыфма перакрыжавалася: першы радок перагукваецца з трэцім ды яшчэ з дадатковым падгалоскам у чацвёртым радку (унутранай рыфмай): "цела — трымцела — хацела"... Другі і чацвёрты радкі "ціхенькім" асанансам (Ціха — пусцілі) як бы рыхтуюць нас да страфы чацвёртай, дзе гэты прынцып рыфмоўкі загучаў "на ўвесь голас": "горла — горкі, радзіму — дзікі"...

Такое вось каларытнае рознагалоссе атрымалася: ад поўнай рыфмы да поўнай яе адсутнасці... Дзякуй паэту, дзякуй вершу!.. І — "мышынаму вочку"...

**— Сапраўды, каларытнае... Васіль Васільевіч, цікава ведаць, якім вам бачыцца месца Янкі Купалы і Якуба Коласа ў свеце літаратурнай творчасці?**

— Янка Купала — постаць, якая ўзвысілася — *геніяльна і заклічна* — не толькі на беларускім літаратурным даляглядзе, але, неадрыўна, і на шляхах нашага нацыянальнага Адраджэння, — адно як бы вынікае з другога ці, наадварот, другое з першага. Ён — выказнік беларускага духу, сапраўды: Народны паэт. І гэтым ён цікавы для ўсяго свету, і непаўторны ў ім.

Якуб Колас ішоў поплеч, той жа дарогай. Толькі спосабы выяўлення народнай духоўнасці былі ў яго іншыя: Янка Купала — найперш рамантык, Якуб Колас — рэаліст.

**— Уплыў Янкі Купалы на развіццё беларускай паэзіі. На ваш погляд, у чым ён выявіўся?**

— Уплыў Янкі Купалы на развіццё беларускай паэзіі — *ужо ў тым, што ён жыў*, тварыў, змагаўся. Вакол яго генія стваралася тая атмасфера Беларушчыны, якая захоплівала сэрцы, запальвала ў іх агонь барацьбы за нашую Долю і Волю.

Відаць, гэта, перш за ўсё, уздзейнічала і на маё светаадчуванне. У гэтым ён — Вялікі Настаўнік.

**— Што б вы маглі сказаць пра развіццё заходнебеларускай літаратуры, у прыватнасці, пошукі Наталлі Арсенневай, Валянціна Таўлая, іншых паэтаў?**

— Пра "заходнебеларускую літаратуру" можна ды і трэба гаварыць толькі ў сэнсе "беларускай літаратуры". Калі пісьменнік ёсць, дык ён ёсць — незалежна ад "захаду" ці "ўсходу". І таму: таленты Н. Арсенневай, В. Таўлая — несумненныя і несумненная іх значнасць на беларускай літаратурнай ніве.

**— Васіль Васільевіч, на якіх прынцыпах будуецца ваша пісьменніцкая праца?**

— Пішу тады, калі пішацца, не гвалчу і не прымушаю сябе, "выціскаючы" радкі і строфы...

**— Пасада старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, якую вы займаеце, звязана са шматлікімі клопатамі і складанасцямі...**

— Калі старшыня Саюза пісьменнікаў хоць трохі разумее, што абіраецца ён не дзеля таго, каб "кіраваць" і "накіроўваць", а ў межах сваіх сіл і магчымасцей дапамагаць творчым людзям, — тады справа не зусім безнадзейная...

**— Шчасце. У чым яго сутнасць для вас?**

— Каб ведаць, што такое шчасце, адказаў бы на гэтае пытанне, — сутнасць яго, пэўна, шукаюць і гукаюць усе паэты. Ці ўсе знаходзяць і ці ўсе дагукаліся?..

**— Ці лічыце вы сябе веруючым чалавекам?**

— Веру ў Найвышэйшую Сілу, якая не над Усім, а сутнасць і дух Усяго, не "кіруе" Светам, у нашым, людскім разуменні, а сама ёсць Свет.

**— Які ваш парадак дня, неабходныя ўмовы працы, што прыдае натхненне і г. д.?**

— Парадак дня — самы "беспарадкавы", бязладны: як набяжыць... А калі прыходзяць нейкія радкі, вобразы — ловіш іх, дзе б там ні было. Часцей такія шчаслівыя хвіліны (баюся гэтага боскага слова — "натхненне") здараюцца ноччу — пад раніцу, калі спакой і цішыня наўкола, і нішто не "выбівае" з настрою...

**— Чым вы любіце займацца ў свабодны ад асноўнай працы час?**

— "...Свабодны ад асноўнай працы час"?.. — *тая ж праца... А люблю збіраць грыбы.* І асабліва, калі ў лесе мала грыбнікоў. Толькі птушкі, дрэвы, і думкі...

**Гутарку вёў**
**Мікола МІКУЛІЧ**

Проза

— Ты ведаеш, дзядзька, — разгаварыўся неяк мой добры знаёмы за шклянкаю віна ў бары, што на Траецкім, — ужо столькі гадоў жыву ў Мінску, а не магу прывыкнуць. Не ляжыць душа і ўсё. Хоць ты што рабі...

Я люблю такія размовы, калі на вуліцы ад сонца пячэ ў вачах, і асфальт, здаецца, сплывае з Траецкае гары ў Свіслач, а шэрая аграмадзіна тэатра дыміцца ў струменях гарачага паветра, як няспечаны пірог. Тады тут, у мажных мурох былое габрэйскае каменіцы, паўзмрок і прахалода.

Рэдкія абібокі, якія забеглі ў бар з самае раніцы, цяпер ужо лянуюцца выпаўзці з яго на такую спёку і раз за разам пералічваюць грошы, баючыся, каб не скончыліся раней часу, і набіраюцца паціху рознымі спіртавымі мяшанкамі.

бацькі па гаражах з дырэктарам музыкалкі хапіла толькі на тое, каб мяне прынялі ў клас домры... Гэта як з тым жыццём. Заўсёды марыў жыць у Гомелі, а асеў у Мінску. І ўжо ні ўзад, ні ўперад.

Хадзіў я на гэтую домру, як з-пад палкі. Часам прапускаў урокі. Сядзеў дома і дзеравянеў ад страху, чакаў, што можа прыйсці выкладчыца і праверыць, што са мною. Але ж неяк вучыўся. І нават не так блага, пераходзіў з класа ў клас.

Кожны год бацька пытаўся ў мяне — ну што, будзеш вучыцца далей? І кожны год, сам не ведаю чаму, я ўпарта ківаў галавою.

Гэта было добраахвотнае катаванне. Я ненавідзеў школу, настаўніцу, домру, брыдзіўся сябе і ўвесь час зайздросціў баяністам — дзяўчынкам і хлопцам, якія адрозніваліся ад мяне толькі тым, што бацькі іхнія працавалі начальнікамі ўчасткаў ды цэхаў... Гэта як з настылаю клямкаю на марозе. Ведаеш, чым гэта скончыцца, але

ка, а можа, і маладзейшая за мяне.

Баян ёй быў завысокі, так што ёй даводзілася нават задзіраць галаву — падымаць падбароддзе.

І ты ведаеш, я аслупянеў. Мяне як выцяла токам. Яе вузкія плечы, нацёртыя лямкамі пад лёгкаю блюзкаю аж да чырвані. Брэцелькі станіка з зашпілкаю-гузікам, які выпіраў на спіне. Гэтая тонкая шыя з далікатнымі пухіркамі пазванкоў. Роўны носік, крыху ўзняты ўгору, і дробныя кропелькі поту на ім. І светлая чупрынка над ілбом з вільготнымі пасмачкамі. Сонечны прастакутнік вакна падаў на яе.

Я запомніў яе на ўсё жыццё. Валасы ў яе былі колеру ліпавага мёду. Не люблю жоўты колер. Але тут ад іх ішло нейкае цяпло і святло адначасова. Яна была як дзьмухавец, і лепшага я не бачыў ніколі.

Я падышоў бліжэй і ўбачыў зусім жаночыя ногі з сінімі пісягамі вышэй каленяў ад мяхоў баяна.

трывожная пульсуючая мелодыя з загадкавай назваю.

Тады я яшчэ ні разу не спытаў шампанскага, а толькі бачыў у тэлевізары, як'яго разліваюць па келіхах гладкія мужчыны і прыгожыя кабеты, здавалася б, з іншага свету, і як яно весела буркацідь і пырскае над келіхамі маленькімі вадзянымі салютамі.

Мне нясцерпна хацелася пацалаваць яе ў празрыстую жылку, якая, як спалоханае птушанё, білася то мацней, то цішэй.

Я быў папраўдзе як п'яны ад гэтых "Пырскаў шампанскага" і ад яе.

За тыдзень мы не сказалі ні слова, а пацалаваць яе мне так і не хапіла смеласці.

Сябра мой замоўк, падпёр бараду рукою і задумліва паглядаў на адчыненыя цёмныя дубовыя дзверы бара, з-за якіх на блага вымеценую, у палосах пылу і пяску падлогу падаў спякотны бліскучы квадрат.

Пазяхаючы, як рыбкі, раскрытымі ратамі, у бар заскочылі дзве распараныя ружовыя маладзічкі з індыйцам у белым гарнітуры і бэзавым пакойніцкім тварам, па якім сцякалі пот і тлушч.

Лена паднялася кельнерка, падаючы кактэйлі, коку і бутэрброды. Усё зноў сцішылася і самлела ў павевах гарачыні, якою часам патыхала з вуліцы.

— Ты ведаеш, — працягваў мой знаёмы, — я зараз думаю, што яна сапраўды была прыгожаю дзяўчынкаю. Маленькая такая, але ладная і зграбная, як статуэтка.

— Як кошачка? — перапытаўся я, каб хоць штосьці сказаць за гэтую гадзіну.

— Як ліска, — удакладніў ён падумаўшы. — Баян ёй быў патрэбны так, як мне домра.

Гэта я цяпер разумею, што яна тады так і не навучылася добра іграць свае "Пырскі шампанскага". Але хадзіла, рэпетавала, бо гэтага, мусіць, хацелі яе бацькі.

А затым выйшаў на працу яе выкладчык, і я не мог ужо заходзіць у клас. У любым іншым месцы спатканне з ёй для мяне губляла сэнс. А затым па яе пачаў прыходзіць нейкі прыкінуты жлоб. Я, не давучыўшыся трох месяцаў, кінуў музыкалку. Мяне як асвятліла, што мне болей няма чаго там рабіць...

Мой прыяцель адкінуў доўгія валасы з ілба, пасміхаючыся сам сабе, паглядаў праз шклянку ці то на віно, ці то на ўвесь свет, пафарбаваны ў чароўны колер віна.

У яго была густая і, як належыць сапраўдным рок-бандыту, трохі зблытаная грыва валасоў.

Ягоныя сола, ці як іх называлі — "салякі", якія ён "выпільваў" на гітары ў адным з мінскіх гуртоў, электрызавалі залу і падкідвалі з крэслаў нават трыццацігадовых.

Ён быў сапраўдным маэстра, гэты мой прыяцель. Але зараз я думаў не пра яго і не пра ягонае даўняе каханне, якое мне было так цяжка ўявіць па гэтай гарачыні.

Мне думалася, хоць я зусім і не хацеў, пра старога ў пераходзе каля ГУМа, які стаяў там у клятчастым летніку і зашмальцаваных штанах. Скрынка ад акардэона з адкінутым вечкам ляжала побач, і чырвонае аксамітнае нутро яе збірала рэдкія пакамечаныя паперкі.

Стары іграў, прыгорбіўшыся на адзін бок і прытоптваючы ў такт нагою. Тудысюды пахістваўся ягоны зоб, як пракаўтнуты тэнісны мячык, і шчэць мякка серабрылася на ягоных шчаках і на шыі ад слабых люмінісцэнтных лямпаў.

Мне здавалася, што я сапраўды бачыў яго там. А, можа, мне гэта толькі здалося?

Алесь БЯЛЯЦКІ

# "ПЫРСКІ ШАМПАНСКАГА"



АПАВЯДАННЕ

Спяшацца не трэба — нас таксама не адпускае гарачыня, і мы сядзім за ліпкім яшчэ з учарашняга столікам, пацягваем чырвонае балгарскае, ад якога ўдзень не так баліць галава.

Я люблю такія размовы, калі не трэба спяшацца, калі наперадзе ўвесь дзень і можна нічога не гаварыць, а толькі сядзець і слухаць, ківаючы галавою ў паўзах, калі знаёмы пераводзіць дых і адхлёбвае рубінавага напою, які так нагадвае чалавечую кроў.

— Але люблю хадзіць каля ГУМа, — працягвае мой знаёмы, — бывае, нават выходжу з метро і сядаю далей на тралейбус, каб прайсці ў пераходзе і паслухаць старога, які часта грае там на акардэоне. Ён заўсёды ў заношаным клятчастым летніку і зашмальцаваных нагавіцах, выцертых на каленях да бляску, у старым разлезлым капелюшы ў сетачку. Такі стары, што ледзь трымае свой акардэон.

Ён грае заўсёды адно і тое, прытопваючы нагою і згінаючыся ў плячах. Ён грае "Пырскі шампанскага" і ў такт у яго ёкае, ківаецца туды-сюды зарослы густой сэрэбранай шчэццю пад барадою вялікі і круглы зоб.

Калі я хадзіў у школу і жыў у адным з гэтых новых, пабудаваных Машэравым гарадоў, дык надта хацеў навучыцца граць на баяне. Трохі навучыўся ў аднаго музыкі дома, хутка дайшоў да "Перапёлачкі", а затым той параіў бацьку аддаць мяне ў музычную школу.

Нічым у дзяцінстве я так не захапляўся, як баянам. Але школка была элітнай, а мае бацькі — простыя рабацягі. Суседства

ж прыкладаеш да яе язык, каб адчуць, як ён намёртва прыкіпае да жалеза, і з балючай асалодаю рванучы, пакідаючы на метале латку скуры.

Так было аж да пятага, апошняга ў музыкалцы класа, калі ў звычайнай школе я хадзіў ужо ў восьмы.

І вось неяк, калі была фортка паміж спецыяльнасцю і сальфеджыа, я бадзяўся па цёмным, прапахлым каніфоллю калідоры і разглядаў выцвілыя партрэты кампазітараў. Потым я ціха пабрынькаў сабачы вальс на пыльным піяніна, загнаным у кут каля гардэроба, пакуль мяне не шуганула тэхнічка, тоўстая, як тумба, цётка Маня, бо ў класах ішлі заняткі. І я зноў пацягнуўся па калідоры, прыслухоўваючыся да тых гукаў, якія прабіваліся з-пад зачыненых дзвярэй.

Пазвонькалі цымбалы, сакатала балалайка, нейкае беднае дзіцяня выціскала гаму з фартэпіяна. У маім класе цілінькала домра. Ну што ж там цікавага можна было пачуць!

І раптам я адчуў, як мароз прабег па маёй скуры. Смутнае і вясёлае адначасова галашэнне баяна спыніла мяне. Там, за дзвярыма класа, адбывалася штосьці незвычайнае. Баян, мой любімы баян ірваў маё сэрца на кавалкі...

Прыяцель спыніўся на момант, сілячыся згадаць тое, што ён адчуў тады, пад дзвярыма музычнага класа.

— І не вытрымаў, — працягваў ён, дапіваючы са шклянкі віно, — адчыніў дзверы і зазірнуў.

І можаш уявіць сабе, за баянам сядзела такая невялікая дзяўчынка, мая аднагод-

За вухам у яе палахліва білася празрыстая жылка.

Яна не спынілася. Яна працягвала іграць, злёгку скасіўшы на мяне цёмныя блакітныя вочы.

А я стаяў, захоплены і музыкай і дзяўчынкай, якая магла рабіць вось такое, і ў мяне халадзела сэрца і хацелася плакаць...

— Ты ведаеш, — крыху памаўчаўшы, працягваў знаёмы, — я быў тады сапраўды шчаслівым чалавекам. Можа, і варта было чатыры гады хадзіць у гэтую музыкалку, мучыцца, зайздросціць, каб урэшце адчуць вось такое.

Ніколі ў жыцці потым я нічога падобнага не перажываў. Ні грошы, ні кабеты, ні вядомасць — нішто мяне не задавальняла. Заўсёды нечага не хапала. Я дабіваўся аднаго і адразу ж забываўся пра гэта, а наперадзе паўставала штосьці іншае.

А тады гэта быў, кажучы па-простаму, поўны кайф.

Ты ведаеш, музыка, баян, на якім я так хацеў навучыцца іграць, і дзяўчынка — амаль незямная істота.

Яна іграла танга "Пырскі шампанскага". Я стаяў каля яе, як зачараваны, і слухаў.

Яе выкладчык — не стары яшчэ, пузаты дзядзька з сінім носам і лысінаю, якую ён закрываў ад вуха да вуха доўгімі пасмамі, захварэў, і цэлы тыдзень яна паслухмяна прыходзіла ў свае гадзіны і грала-рэпетавала гэтыя "Пырскі".

Таксама прыходзіў і я. Як у сне станавіўся ззаду і слухаў, і глядзеў на яе празрыстую, далікатную жылку за вухам.

Вялікі канцэртны баян у яе руках і гэтая

---

Волі вольнаю стратаю: —
"За якія грахі нам такою расплатаю?"

У разлеглай цішы,
паміж стогнаў ды жаляў
Хто адкажа: "Як быць?!" —
на старонках скрыжаляў
Нам, сляпым і глухім,
што засталіся самі. —
Бо прарокі ўсе спяць пад тымі крыжамі.

Будуць новыя дні,
прыйдуць новыя людзі.
Ды таго, што было, ужо болей не будзе.
І за днём прыйдзе ноч,
але ночка не тая,
Пакуль будзе цярпець зямля наша святая.

Мікола МІНЧАНКА

## ШАНЦ НА АДКРЫЦЦЁ

Не плачуць мужныя,
калі любоў прайшла.
Вясна бурліць. Але за ёю лета.
А там глядзі — і восені прыкмета.
Яна сцяжыну да цябе знайшла.

Ўсяму свой час. То радасць,
то журба —
На нашу долю выпала багата.
Працоўны будзень, але ён,
як свята,
Калі ідзе за праўду барацьба.

А нам за праўду бой на ўсё жыццё.
І без яе наш дзень не пасвятлее.
І чалавек жыве, пакуль надзея
Дае хоць нейкі шанц на адкрыццё.

Хведар ГУРЫНОВІЧ

•

Басанож па гальцы, па асоту,
Па яшчэ нязлоснай асацэ...
Залатыя хвалі, быццам соты,
Вір перабірае па рацэ.

Гэты вір, глыбокі, нібы памяць,
Са шкляным гадзіннікам на дне.
Сыплюцца пясчынкі, і вяртаюць
У дзяцінства даўняе мяне.

Ранічкай з арэхавым вудзільнам
Пераходжу рэчку нашу ўброд.

Не спыняй, пясочны мой гадзіннік,
Гэтых дзён прасветлых калаўрот.

Покуль я жыву на белым свеце,
На пяшчотнай гальцы ля вады
Не сатруць ні дождж, ні снег, ні вецер
Босых ног шчаслівыя сляды.

Мне рака дзяцінства часта сніцца,
Дзе ліні жыруюць пад травой,
Дзе бруяць зіхоткія крыніцы
З іх вадой гаючаю, жывой.

Гэтымі крынічкамі, вірамі
Я з гадамі трызню ўсё часцей,
Бо рака дзяцінства памірае,
Быццам маці на вачах дзяцей.

І ні стогну ў бедняе, ні гуку.
Пэўна, смерць у кожнага свая.
Божа мой, але ж якая мука
Над смяротна хвораю стаяць!

Што з душою робіцца маёю!
Крыўдна і балюча, хоць крычы.
Я схіляся ў роспачы над ёю
І не знаю, чым дапамагчы.

Фелікс ШКІРМАНКОЎ

## ВЯЧЭРНІ ЗВОН...

Дырэктары саўгасаў,
калгасныя старшыні
Пашыліся ў палітыкі,
ў дзяржаўных дзеячоў.
І кожны пры машыне,
пры дэпутацкім чыне,
На кнопкі націскаюць
адзін за аднаго.
А самы галасісты
здзівіў і камуністаў,
Калі яны пачулі заяву ад яго,
Што хутка мафіёзі
ўсе будуць у астрозе,
Што ён пра ўсіх раскажа,
хто дзе і што украў,
Што ён даведкі мае
пра ўсіх, хто раскрадае
Употай і адкрыта
Дзяржаву Беларусь.
Усё гэта цікава.
Куды ж паверне справа?
Бо нешта многа звону,
Аж галава баліць...

## У ПАМЯЦЬ ПРА ЦІТОВІЧА

**Шэсць гадзін працягваўся конкурс на свяце беларускай народнай песні "Спадчына", прысвечаны 85-годдзю з дня нараджэння слыннага нашага музычнага дзеяча Генадзя Цітовіча. Конкурс адбыўся ў Рэспубліканскім Палацы культуры прафсаюзаў. Перад журы выступілі больш за 20 калектываў Мінска, якія абавязкова выконвалі творы, запісаныя ці апрацаваныя Генадзем Іванавічам. Была і ўрачыстая частка свята: успамінамі пра сустрэчы і працу з гэтым простым і вельмі адукаваным чалавекам падзяліліся прафесар М. Дрынеўскі, музычны кіраўнік аркестравай групы Акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча М. Сірата, навуковец Васіль Ліцьвінка, спявачка Ганна Бакуновіч, якая, дарэчы, была адзначана журы дыпломам 1 ступені. Дыпломамі адзначаны і восем лепшых самадзейных калектываў — удзельнікаў конкурсу свята песні "Спадчына". Як госць удзельнічаў у свяце Дзяржаўны народны хор, які стварыў і на працягу 23 гадоў узначальваў Г. Цітовіч. Прысутнічалі таксама жонка Генадзя Іванавіча Вольга Мацвееўна і дзве дачкі.**

**Конкурс арганізаваў і правёў Цэнтр адраджэння і развіцця беларускай культуры УК Мінгарвыканкама.**

**Пятро ГАРДЗІЕНКА**

## У МЯДЗЕЛІ, НА "ПОЛІ"...

**... Песні загучаць! Так, менавіта на Мядзельшчыне будзе наладжана рэспубліканскае свята пад назвай "Пеўчае поле", прысвечанае Дню вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Праводзяць яго Міністэрства культуры і друку рэспублікі, упраўленне культуры ды інфармацыі Мінскага аблвыканкама, Мядзельскі райвыканкам. Мэта гэтай імпрэзы — прапаганда і развіццё беларускай песеннай творчасці, павышэнне выканаўчага майстэрства, узбагачэнне рэпертуару, выяўленне і выхаванне народных талентаў. 1—2 ліпеня (у гэтыя дні з'явіцца на Мядзельшчыне "Пеўчае поле") з'едуцца на свята лепшыя харавыя калектывы з усяе краіны, а ўжо лепшыя з лепшых будуць адзначацца памятнымі прызамі, каштоўнымі падарункамі, спецыяльнымі дыпломамі. На "Пеўчым полі" можна будзе пачуць магутнае гучанне зводнага хору, для якога зацверджаны абавязковы рэпертуар ("Песня пра Нарач" М. Наско на вершы М. Танка, "Зорка Венера" С. Рак-Міхайлоўскага на вершы М. Багдановіча, беларускі кант "Нова радасць стала"). Галоўным дырыжорам свята зацверджаны народны артыст Беларусі М. Дрынеўскі. Аргкамітэт узначальвае начальнік упраўлення культуры ды інфармацыі Мінскага аблвыканкама В. Гедройц.**

**Н. К.**

## "АДГАДАЙ МЕЛОДЫЮ"

**Перадачы пад такой назвай ужо месяц як з'явіліся ў праграме 1-га канала Расійскага тэлебачання. "Ці мала што!" — падумае сабе чытач, недасведчаны і не ў гуморы. Для пашырэння дасведчанасці ды падтрымання добрага настрою раім яму хоць разок глянуць на экран. І не з тым, каб адгадаць мелодыю, што будзе гучаць у аркестравым выкананні. А з тым, каб усцешыцца ўдалай "раскруткай" беларускіх музыкантаў, бо менавіта з іх удзелам — з удзелам Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхала Фінберга — і адбываецца гэтае тэлевізійнае шоу пад назвай "Адгадай мелодыю". Ідэя запрашэння ў новую маскоўскую праграму менавіта нашага вядучага музычнага калектыву належала Уладзіславу Лісцеву: гэта быў яго апошні праект, ажыццяўленне якога пачалося пасля ўжо таго трагічнага стрэлу...**

**С. Б.**

## МАСТАКА НАТХНЯЕ ПАЛЕССЕ

**Трыццаць пяць год жыве ў Гомелі і актыўна працуе мастак заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Мікалай Казакевіч. Каму са школьных год невядомы яго работы "Юнацтва", "У тыле ворага", "На родных прасторах"? І зараз мастак поўны ідэй. Ён многа ездзіць па замежжы, наведаў Венгрыю, Польшчу, Чэхію, Славакію, Карэлію, Крым... З апошніх твораў М. Казакевіча складзена выстава, што працуе ў Гомелі. У экспазіцыі пераважна ўключаны пейзажы ("Над Дняпром", "На Прыпяці", "Восень"). Яны натхнёны велічнай прыродай палескага краю.**

**А.ШНЫПАРКОЎ**
**г. Гомель**

***"Фабрыка інфармацыйных тэхналогій" — вядомая тэлекампанія "ФІТ" — пачыналася з маленькага пакойчыка ў гаражы, з адным тэлефонам і адным сталом. Сваёй камеры не было. Быў часовы бухгалтар і два рэжысёры — Андрэй Астравух і Сяргей Равункоў. Вучні майстроў Віктара Карпілава і Уладзіміра Бокуна. Астравух восем гадоў прапрацаваў рэжысёрам рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм, Равункоў змяніў іх (рэдакцый) пяць ці шэсць. Калі дзьмухнулі гарбачоўскія вятры перамен і рэжысёры толькі пачулі пра тое, якія ноўшасці выпадае ім перажыць, дык... свядома пахавалі свае спадзяванні на нягеглую дзяржаўную тэлесістэму. Трэба было выбіраць ізноў. Астравух з Равунковым абралі незалежнасць і арганізавалі знаны цяпер "ФІТ".***
***У памянёным гаражным пакойчыку з адным сталом, тэлефонам ды часовым бухгалтарам. Да рэжысёраў далучыўся яшчэ адзін калега, Аляксандр Парфянцоў, тады — студэнт інстытута фізкультуры. На трох было і адно жаданне: давесці прафесійную і чалавечую годнасць разам з уласнымі поглядамі на тэлебачанне. А погляды гэтыя вылучаліся тым, што, паводле іх, адметных, тэлебачанне — гэта вытворчасць, якая можа сабе дазволіць незалежнасць ад дзяржаўнай кішэні і пры гэтым паспяхова канкурыраваць з тымі, хто толькі ад гэтай адзінай кішэні і залежыць. Пачалі з тэлевізійнай дошкі аб'яў: з такой маленькай "дзірачкі" ў эфіры, якую закрывалі радкамі абвестак. Да лета 1993 года з'явіўся "Астрапрагноз", а потым амаль кожныя тры месяцы ў тэлевізійны свет выпраўляўся цэлы цыкл. "ФІТ" дагэтуль не мае ніводнай гандлёвай здзелкі (гэта, мяркуюць Астравух з Равунковым, было б самым простым і самым заганным шляхам), нічога не перапрадае (хоць у іхніх або нашых агульных умовах, пагадзіцеся, гэта ці не самы лёгкі шлях). У свой час, яшчэ перад маленькім пакойчыкам у гаражы, стваральнікі сабе пастанавілі: важкі і падставовы прыбытак мусіць даваць рэклама. Усё астатняе будуць вырашаць... іхнія галовы і рукі. Чым болей будзе іх — такіх, хто за ўласны кошт будзе вырабляць праграмы, тым менш давядзецца шнырыць па кішэнях падаткаплацельшчыкаў, — для так званага дзяржаўнага тэле. Увесь свет трымаецца на тым, што незалежныя вытворцы прапануюць, а дзяржава кантралюе, выбірае, заахвочвае. Дарэчы, прыклад Астанкіна, якое робіцца акцыянерным, красамоўны: нават Расіі не па кішэні фінансаваць усе забавы ды цікавосцтвы сваіх гледачоў. Дзяржава фінансуе толькі тое, што не можа быць камерцыйным: культуру, адукацыю ды дзяржаўную палітыку. Усё астатняе ва ўсім свеце дае прыбытак, а ў нас, па большыні сваёй, нават на канцэрты грошы дастаюць з бюджэту. Тэлебачанне можна і трэба супаставіць толькі з вытворчасцю — высокатэхналагічнай, энергаёмістай і г. д., але — вытворчасцю! А па ўсім свеце вядома, што робяць, калі яна стратная...***
***"Фабрыка інфармацыйных тэхналогій" запрацавала два гады таму; пасля наладкі і пробных, мовім так, вырабаў, была ўтворана пасада, якая недвухсэнсоўна прадугледжвала адказнасць за іхні эстэтычны ўзровень: мастацкага кіраўніка. Заняць яе прапанавалі рэжысёру УЛАДЗІМІРУ БОКУНУ: праз колькі часу настаўнік ды вучні з'адзіночыліся як калегі. І, ужо як калега-"фітавец", мастацкі кіраўнік ласкава пагадзіўся адказаць на нашы, лімаўскія пытанні***

# АДНОЙЧЫ ПАСТАВІЎШЫ НА ПРАФЕСІЙНІКАЎ

**— Уладзімір Віктаравіч, у чым сутнасць стратэгіі незалежнай тэлекампаніі, — бо пачыналі, як вядома, менавіта з яе выпрацоўкі?**

— Калісьці, у 1976 годзе, папулярны амерыканскі часопіс замовіў даслед, каб высветліць, што такое тэлебачанне ў Амерыцы, на якім месцы яно ў жыцці кожнага з грамадзян. І ўжо зусім нечаканай сталася выснова пра тое, што тэлебачанне... нібыта нікому ўсур'ёз і не трэба. Праграмы, якія прапаноўвалі да ўжытку, былі "праграмамі ўвогуле": для ўсіх. А, значыць, ні для кога. Найпершым глядацкім папрокам быў наступны: я, маўляў, гляджу тэлепраграмы, але яны не для мяне. Астравух і Равункоў задаваліся такімі самымі пытаннямі, працуючы на дзяржаўным тэлебачанні. На "ФІТ" я з'явіўся год таму. Тады, калі хлопцы якраз высвятлялі: які наш глядач? Як зрабіць праграмы, адрасаваныя яму, гэтаму пэўнаму гледачу? Варта цяпер зірнуць на нашы праграмы, скажам, на "Праспект", "Эканамікст", "Аўтапарк", "Абібок" усе маюць пэўны, хоць і неаднолькавы адрас. Першая вартасць! Мы цяпер дакладна ведаем, хто глядзіць "Астрапрагноз", а хто — "Вясёленькі уік-энд" (аўдыторыя — велізарная). Бо іх тэматычныя нішы доўга пуставалі...



*Таццяна Сокава і Уладзімір Бокун рыхтуюцца да запісу "Эканамікста".*

**— Кампанія "ФІТ" яшчэ не дужа вялікая...**

— Таму, натуральна, мы яшчэ не можам утрымліваць сваю службу апытання (сацыялагічную), але нядаўна такі падлічылі: робім чатырнаццаць гадзін адметнага вяшчання штомесяц. Мы не перапрадаём замежныя фільмы, музычныя кліпы і да іх падобнае! Чатырнаццаць гадзін — гэта нямала! Пакуль што арыентуемся на сацыялагічныя службы дзяржаўнага тэлебачання і... заахвочваем у саміх сабе гледачоў...

**— Напэўна, таму такую папулярнасць маюць вашы праграмы "Праспект", "Эканамікст". Але я даведалася, што якраз яны — стратныя...**

— Стратныя і вельмі перспектыўныя. За нашымі спінамі няма грашовых магнатаў. Няма заможнікаў-дабрадзеяў, якія б нас утрымлівалі. І мы гэта кажам шчыра. Што да дзяржавы, дык мы мусім плаціць ёй і за тэлеэфір, і за ўсё, што трэба для вырабу нашых праграм. І гэта — натуральна. Нас утрымлівае рэклама; пакуль без яе, прыкметы спраўных рынкавых дачыненнях — нікуды.

**— Аднойчы, суправаджаючы замежнага госця ў вашу сядзібу, — непрыбраны, засмечаны двор арандаванага дзіцячага садка, — пачула: "О!.. Гэта... не Галівуд...". Затое спраўныя якасці кампаніі былі ацэнены зусім іншымі словамі...**

— Вядома, напачатку мы думалі, скуль браць грошы для існавання (пра развіццё тады гаворкі не было). Першаю праграмаю зрабіўся "Астрапрагноз": ён, штодзённы, не вымагаў вялікіх выдаткаў, але высокі рэйтынг займеў адразу. Штодзённая рэклама ў гэтай перадачы дапамагла нам падняцца на ногі.

**— Існаванне кампаній кшталту вашай не раздражняе Дзяржтэлерадыё?**

— Мы ўяўляем, што дзяржаўнае тэлебачанне, — уладар нацыянальнага канала, — магло б сёння існаваць прасцей. Прасцей — гэта значыць, размяркоўваць свае заказы сярод незалежных тэлекампаній. А само — каардынаваць, ствараючы нам здаровую канкурэнцыю. Не выседжвалі б рэдактары-манапалісты (як, перапрашаю, куры на яйках) свае шматлікія "творы", не цягнулі б гуму вядучыя, марнуючы хвіліны... Манапалізм згубны. Манапалізм, урэшце, стратны. Калі б дзяржава размяркоўвала свой эфір (на, магчыма, ільготных умовах), спавядаючы дзяржаўную, нацыянальную палітыку на нацыянальным канале, мы б былі з ёю нароўні. Нароўні, напрыклад, з рэдакцыяй грамадска-палітычных праграм, з інфармацыйным вяшчаннем... У іх ёсць свае прывілеі, нас яны, вядома, не дужа шануюць. Мы ім нібыта супрацьпастаўлены. Але было б і больш разумна, і больш сумленна ўзаконіць нашу канкурэнцыю. Перад усімі маючы на ўвазе гледачоў...

**— Сённяшняя незаможнасць дзяржаўнага тэлебачання спараджае эстэтычнае,**



*Павел Шарамет. Аўтар і вядучы "Праспекта"... на праспекце.*

**ідэйнае, мастацкае жабрацтва. Спецыялісты-рэжысёры, замест таго, каб дбаць пра пастаноўкі, серыялы і г. д., фільмуюць, напрыклад, навіны культуры, пераймаючы інфармацыйныя праграмы...**

— У такім становішчы, ашчадзіўшы на тым, што можам рабіць ды робім мы, можна



*У мантажнай. Прагляд адзнятага: наздыма-алі...*

было б больш сродкаў даваць на культурныя праграмы, на падтрымку мастацтва... На нацыянальныя серыялы, скажам. Мы не можам паскардзіцца на складаныя або канфліктныя дачыненні з кіраўніцтвам Дзяржтэлерадыё: яны бачаць і, мяркую, цэняць нашы вартасці. Ім было б неразумна адмаўляцца ад нашых праграм. Дарэчы, нам здаецца, што на дзяржаўнае тэлебачанне прыйшлі людзі, якія шчыра хочуць змен да лепшага...

**— Вашы ўласныя, фітаўскія прынцыпы арганізацыі працы вылучаюць вас сярод шматлікіх незалежных тэлекампаній. Я, праўда, гэтых прынцыпаў не ведаю, але вынік, як той казаў, на экране майго хатняга тэлевізара штодня...**

— Яшчэ тры-чатыры гады таму калегі-незалежнікі больш за ўсё клапаціліся як набыць самае лепшае, самае сучаснае абсталяванне. "Усё астатняе — потым," — чулі мы. А што — астатняе? Мы не шукалі звыштэхнікі. У нас, кажучы па шчырасці, і дагэтуль няма сяго-таго, чым валодае частка мінскіх (і не адно мінскіх) тэлекампаній. Валодае, а далей? Дзе яны, гэтыя абсталяваныя кампаніі? Што яны вырабляюць? Ну тры іхнія назвы вядомыя, ну пяць... Мы робім стаўку на прафесійнікаў. На якой тэхніцы? На "Супер-ВХС". Не так і блага. У нас перш за ўсё — "усё астатняе". Спачатку галава і рукі. Тэхніка вартая чагосьці толькі ў звязку з імі.

**— Але ж на дзяржаўным тэлебачанні, здаецца, гарантаваная зарплата і, сяды-тады, права папрацаваць?..**

— Сяк-так, сяды-тады... Кампанія жывая, пакуль ёсць сродкі. Рэкламадаўцу цікавіць вядомасць (рэйтынг) перадачы. У нас ён — адзін з самых высокіх. Пачынаючы ад неверагоднай папулярнасці "Вясёленькага ўікэнду". У нас — сваё кола рэкламадаўцаў, ставімся мы да іх зацікаўлена, — аднойчы папрацаваўшы з намі, яны адразу адчулі эфект укладанняў. Сам "ФІТ" пакуль не выпрабляе рэкламы, аднак жыццё вымусіла ўтварыць сваё рэкламнае агенцтва.

**— Ну а хто ж — сярод вашых прафесійнікаў?**

— Адбіраць людзей заўжды складана. Хочам павялічвацца і пашырацца; нядаўна зладзілі конкурс вядучых. Прыйшло некалькі цікавых людзей, будучых карэспандэнтаў, але — некалькі... Мы не арыентуемся на дыктараў — на дыктарскую асобу, мовім так, незацікаўленую, адцягненую ў кадры. Мы ўвогуле мяркуем, што дыктары сябе зжылі. У кадры мусіць быць чалавек, які добра ведае тое, што распавядае. Наша Таццяна Сокава, вядучая "Эканамікста" (сёлета заканчвае аддзяленне рэжысёраў тэлебачання) — і ягоны ж аўтар, і часткова, рэжысёр. Яна засяродзіла на сабе ідэю праграмы для людзей справы. І яна, вядома, цяпер выдатна арыентуецца ў тым, што адбываецца ў эканоміцы. Таму яе праграма не адцягнена-халаднаватая, а па-чалавечы зацікаўленая, абдымная, грунтоўная. Яшчэ пазалетась з'явіўся праект "Праспекта", але стварыць такога кшталту інфармацыйную праграму надта складана, балазе, глядач пра гэта не здагадваецца...

**— Ну чаму ж не здагадваецца? Спраўдзіць перад афіцыйным эфірам інтэрв'ю са спадаром прэзідэнтам (на фоне тэлевізійнікаў, што рыхтуюць студыю), якое здатна зацікавіць больш за наступную гадзінную прамову... Ці трэба гэта ацэньваць або каменціраваць?**

— Павел Шарамет прыйшоў да нас выпускніком былога Інстытута народнай гаспадаркі (цяпер, здаецца, гэта Універсітэт прадпрымальніцтва і эканомікі). Быў цалкам падрыхтаваны для гэтай работы. Нешта падобнае намагаўся стварыць і да прыходу на "ФІТ"... Павел — прафесійнік, які працэсы ў эканоміцы ацэньвае не паводле газет. Увайшоў у палітыку, у сацыяльныя працэсы Беларусі. З таім карэспандэнтам сумоўцу любога ўзроўню зносіцца лёгка (у пэўным сэнсе). Журналісцкія здольнасці Паўла вымагаюць захаплення...

**— Як калега заўважу, што паводле грунтоўнасці ды глыбіні "Праспект" цяжка не паставіць вышэй за афіцыйныя навіны, прагнозы ды каментарыі... Шчыра шкадую, што ўслед за Таццянай Сокавай Павел яшчэ не загаварыў па-беларуску. Але, з другога боку, ёсць столькі праграм, якія не ўспрымаюцца ні на якой мове! Ну хоць адну — літаратурную — ну трэба ж вывучыць! Узровень культуры вашых вядучых ды іх перадач вымагае зайздрасці. Спраўнай, добразычлівай, прафесійнай. Чаму давядзецца пазайздросціць у самы бліжэйшы час?**

— Пашыраем нашу інфармацыйную службу, даводзім "Эканамікст" да пяці разоў на тыдзень, пачынаем даваць агляды беларускай прэсы, выйшлі ў эфір першыя выпускі праграмы "Абібок" (гэта расповяд пра тое, дзе можна адпачыць прыемна да карысна)... Праграмы — гэта жывыя арганізмы. І падобна таму, як мяняецца, скажам, "Астрапрагноз" ("Пад купалам Сусвету"), а там, як вы заўважылі, істотна паменела звестак пра трыгон Марса ды Венеры (спецыяльных), ды паболела пэўных, каштоўных парад. Змянілася і перадача "Пяць хвілін на жарты". Яе працяг — "Вясёленькі ўікэнд" — ужо паспяхова распачаўся, як паспяхова займеў і яшчэ адзін працяг — "Суботнік". Зрэшты, і нам пайшоў ужо трэці год. Альбо яшчэ — толькі трэці...

**Жыццём і перспектывамі "Фабрыкі інфармацыйных тэхналогій" цікавілася**
**Жана ЛАШКЕВІЧ**

# ДА СТАРОГА ЯК СВЕТ... ПАДРУЧНІКА

## ПАДОБНА, АДНО ФОНД СОРАСА ГАРАНТУЕ БЕЛАРУСІ ІХ НОВАЕ ПАКАЛЕННЕ

***"Ёсць пэўныя ўяўленні пра змест гуманітарнай адукацыі, — наўпрост патлумачыў акадэмік Анатоль Міхайлаў, рэктар Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта. — У тутэйшым асяродку, на жаль, пад філасофіяй, пад эканомікай, пад гісторыяй і да т. п., дзякуючы панаванню камідэалогіі, разумелася нешта зусім адрознае ад таго, што прынята разумець у свеце. Дый абнаўленне гуманітарнай адукацыі доўгі час вывальвалася з таго, што адбывалася ў свеце. Мы цяпер вырашылі пачынаць сваю праграму з аб'яднання тых нешматлікіх рэальных сіл, якія ёсць у Беларусі..."***

Праграму? Праграму — "Абнаўлення гуманітарнай адукацыі на Беларусі". Ініцыятыва зыходзіла ад Джорджа Сораса і пачала фармавацца ў кастрычніку 1993 года. Галоўная крыніца ўтварэння новага асяродку — прафесійнікі. Так і пазначана ў праграме Сораса. Тыя нешматлікія рэальныя сілы... Яна ж, праграма, сведчыць, што зроблены самыя адметныя намаганні, каб прыцягнуць да супрацоўніцтва ўсіх выкладчыкаў ды навукоўцаў, якія жадаюць змен і падрыхтаваны да іх. Нешматлікіх рэальных... Каб іх прыцягнуць, зацікавіць ды заахвоціць, трэба было стварыць бездакорны вобраз праграмы — навуковы і прафесійны. Менавіта таму яна грунтавалася на прынцыпах адкрытасці і празрыстасці ўсіх яе структур, на выніковасці ўвасобленых праектаў ды арыентавалася на традыцыі і каштоўнасці, уласцівыя так званаму адкрытаму грамадству."Мы пачалі сваю дзейнасць, — працягваў акадэмік Міхайлаў, — увасабляючы тыя прыярытэты, што ўжо ўвасобілі ў Расіі ды яшчэ сям-там на прасторах былога Саюза: абвясцілі конкурс на дапаможнікі, даследчыя праекты і г. д. Конкурсы, перадусім, выклікалі шмат прапаноў. А потым — самі для сябе — мы пацвердзілі тое, што маглі б і ад пачатку мець на ўвазе: з нічога не будзе нічога. Буйныя доследныя цэнтры з масаю даследчыкаў-навукоўцаў не ствараліся на Беларусі. У нас амаль не было дастаткова глыбокіх доследаў у галіне гуманітарных навук, таму цяжка было чакаць ды прычакаць важкіх праектаў-унёскаў у навуку. Цяпер трэба заахвоціць гэтыя доследы ў нас і меркаваць, і мець на ўвазе, што існуюць пэўныя агульнапрынятыя прынцыпы выкладання дысцыплін, — прынцыпы, якімі нам не дазволена грэбаваць... Мы ж па-ранейшаму фармуем светапогляд па-за тым, што неабходна напраўду і перадусім, — неабходна, каб спраўдзілася асоба. Мы працуем у час, калі шмат хто разумее новы падручнік так: менш цытат з класікаў, у тым ліку — марксізму-ленінізму, больш — сучаснай фразеалогіі. Шмат намаганняў наіўных, дамарослых. Не кожны здатны ацаніць сябе, ствараючы падручнік для іншых. Няможна выкладаць, ведаючы сваю дысцыпліну... з такіх самых падручнікаў! Патрэбны прафесійнікі."

З Анатолем Міхайлавым мы спаткаліся на адным з пасяджэнняў удзельнікаў праграмы "Абнаўлення гуманітарнай адукацыі ў Беларусі", і, выслухаўшы шаноўнага акадэміка, немагчыма было не папытаць — а дзе ж, а скуль жа браць тых, хто патрэбны? Грамадства дылетантаў, хоць сабе і добрых, і праўдзівых, і цярплівых, — ці шмат агорае яно сёння — пры ўмове, што пра заўтрашні дзень яму рупіцца ўжо позна, варта пільней зважыць на дзень паслязаўтрашні? І спадар Міхайлаў адказаў: "Беды і бедкі краіны надараюцца праз тое, што мысленне, якое вырашае пэўныя праблемы, не ўзброена дастатковым інтэлектам, веданнем, разуменнем, — нетрадыцыйным, адметным, гнуткім. Гаворка — не пра асобныя навукі. Гаворка менавіта пра тыя веды, праз якія грамадства ўсведамляе ды разумее свае ўласныя праблемы. Мы, на жаль, разумеем іх пакуль што надта прымітыўна, нават убога. Як чакаць дасканалай, выніковай палітыкі змен у грамадстве на ўзроўні прымітыўных ведаў? Таму менавіта ў Фондзе Сораса мы вядзём гаворку пра сцягванне ў адзін кулак рэальнага інтэлектуальнага патэнцыялу Беларусі. Чаму ў Фондзе? Так сталася, і гэта надта засмучае, — што грамадства выдаткуе на падобныя ж мэты вялікія, буйныя сродкі, але вынікаў амаль не відаць і ўся спадзяванка — на Фонд. Мяркую, вы зараз жа папытаеце пра ўцёкі мазгоў за мяжу, але я вам адкажу — а як яны, з-за мяжы, вызначаюць, чые мазгі вартыя гэтых уцёкаў? Нейкім жа чынам яны іх знаходзяць! А што робім мы, грамада, маючы куды большую, куды дакладнейшую інфармацыю? А мы... усё раўняемся. Ураўнілаўка тутэйшая і даводзіць да прыкрасці: ініцыятыва не ў нас, разуменне выйсця з праблем — не ў нас, вызначэнне нават бліжэйшае будучыні — інтэлектуальнай, вядома, — не ў нас..."

Жарты ўбок — Беларусь насампраўдзе не выявіла б пэўных глыбінных сваіх праблем без Фонду Сораса! Без Фонду, які, прапагандуючы ды кіруючыся каштоўнасцямі адкрытага грамадства, з цяжкасцю пакуль што ўштукоўваецца не тое што ў наша грамадства — у свядомасць шмат каго з грамады. А выдаткі спадара Сораса на нас, між тым, ужо паддаюцца параўнанню з выдаткамі нашага дзяржаўнага бюджэту, — пра гэта абвяшчаецца адкрыта на пасяджэннях не адно сорасаўцаў. І, мовім шчыра, спадзяванні высокага, вытанчанага, выкшталцонага інтэлекту Беларусі, — а без яго ж якое паслязаўтра? — усё шчыльней злучаюцца з грантамі Сораса. "Шырокая вядомасць, маштаб дзейнасці змушаюць параўнаць ягоную буйную фігуру з фігурай Нобеля, — мовіў акадэмік Віктар Каваленка. — Вядома, што фонд Нобеля падтрымлівае навуковыя ды даследчыя дасягненні ўжо на іх завяршальным, канчатковым этапе, а Сорас — на ўзлёце, не маючы цвёрдай гарантыі, што адкрыццё спраўдзіцца. Уся ягоная дзейнасць скіравана на пошук талентаў. І гэта не менш важна за дзейнасць фонду Нобеля!"

Дык што ж спадар Сорас падтрымлівае "на ўзлёце"! Шмат і... няшмат. Віктар Антонавіч прызнаўся, дарэчы, што камісія беларусістыкі, якую ён узначальвае, атрымала зашмат праектаў, якія мусіла адкінуць. З-за нізкага прафесійнага ўзроўню. Але ў адказ на маё неспадзяванае ўзрушэнне спадар Каваленка ўдакладніў сваё стаўленне да гэтага "шмат чаго" — драматызаваць, упадаць у роспач нявbooарта. Гэтую дадзенасць наскокам не выправіш. Паказчыкам, хай сабе пакуль што вонкавым, але — спрыяльнага ўплыву на стан гуманітарнай адукацыі, — з'яўляецца актыўнасць навукоўцаў. Актыўнасць разам з колькасцю пададзеных заяў ды праектаў.

Роспач, прыкрасць, незадаволенасць... Доктар Гуры Барышаў не ўпадае ў роспач, але і прыкрасці, і незадаволенасці, працуючы ў вялікім журы праграмы "Абнаўлення гуманітарнай адукацыі..." яму паспытаць выпала. Няма ніводнага добрага падручніка ні па адной галіне мастацтва, — захапляючага, добра ілюстраванага, напісанага добраю моваю; шмат якія работы хворыя на фактаманію — маўляў, дзе, калі, хто... Але другі тур конкурсу падручнікаў выявіў новыя даследчыцкія таленты, і дзевятнаццаць работ атрымала гранты. І доктар мусіў засведчыць, што гэта — нечакана высокі ўзровень. Беларускія з'явы, нарэшце, пададзены аўтарамі ў кантэксце агульнаеўрапейскім! Але.. "Калі б нас не падтрымаў Фонд Сораса, цяжка сказаць, што было б цяпер з мастацтвазнаўствам..." Божухна, якія горкія прызнанні, — Фонд, які прапагандуе і падтрымлівае ўсё новае і самае-самае, мусіць у Беларусі толькі што не ўскладаць на сябе дзяржаўны абавязак — натуральную падтрымку прыстойнай навуковай думкі. А яе цяпер фармулююць проста: змена задач грамадства перадусім азначае змену адукацыі. Акадэмік Мікалай Бамбалаў давёў гэта адным з самых драматычных прыкладаў з сучаснай беларускай гісторыі: дзесяткі гадоў у нас культывавалі так званае рацыянальнае прыродакарыстанне. Гучала прыгожа. Сэнс мела стратны ды спусташальны. І для прыроды, і для грамадства. Калі трэба было выбіраць між экалогіяй ды эканомікай, перавагу заўжды аддавалі апошняй. Што цяпер маем? Ды хоць бы васемсот спраставаных рэчак, што само па сабе каментарыя не вымагае. Новае гуманітарнае мысленне мусіць настроіцца на біясферны лад, таму што праблема ўзаемадачыненняў чалавека ды біясферы — заўсёдная, адвечная. А па ёй, такой неабходнай, ніякія падручнікі ведаў у краіне Беларусі не даюць. І найпэўна дзейнічаць праз Сорасаў Фонд — каб з'явіліся, нарэшце, такія, якія б — давалі, прапагандавалі, заахвочвалі гэтыя веды...

Спадары навукоўцы і перад аўдыторыяй, і ў прыватных гаворках, і ў інтэрв'ю для

*(Працяг на стар. 12)*

## ДЗМІТРУ БЕЛАВУСУ — 75

**Дзмітро Белавус вядомы ў сябе на радзіме як аўтар сатырычных вершаў, гумарэсак, баек, а таксама вершаў і паэм для дзяцей. Акрамя таго, працуе ў галіне перакладу. І не ў апошнюю чаргу — з беларускай мовы. Дзякуючы Дзмітру Рыгоравічу па-ўкраінску загучалі творы Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, П. Броўкі, П. Панчанкі, М. Танка, А. Вялюгіна, М. Калачынскага, Н. Гілевіча, П. Макаля і іншых. У сваю чаргу творы ўкраінскага пабраціма на беларускую мову перакладалі А. Бялевіч, С. Дзяргай, Н. Гілевіч... У 1960 годзе, дзякуючы А. Вялюгіну, у Мінску пабачыў свет зборнік вершаў Д. Белавуса для дзяцей "Птушыныя галасы".**

**З днём нараджэння, шаноўны Дзмітро Рыгоравіч! Няхай Вам і надалей добра жывецца і плённа працуецца!**

## КАЛЯНДАР РЭДАГАВАЎ ЯНКА КУПАЛА...

**2 мая спаўняецца 75 гадоў з дня выхаду ў Мінску першага нумара штомесячнага ілюстраванага літаратурна-мастацкага часопіса "Рунь", рэдактарам якога з'яўляўся Янка Купала. Праіснавала выданне нядоўга, усяго да 4 ліпеня таго ж года, але пакінула ў гісторыі прыкметны след.**

**Ужо важны сам па сабе факт з'яўлення перыядычнага выдання ва ўмовах акупацыі Беларусі войскамі буржуазнай Польшчы. А калі прыняць пад увагу змест матэрыялаў, што публікаваліся ў "Руні", то становіцца відочным: нават у самых неспрыяльных умовах рабілася ўсё магчымае (а хутчэй немагчымае!), каб жыла беларуская нацыянальная ідэя.**

**Часопіс абгрунтоўваў права беларускага народа на нацыянальную дзяржаўнасць, пленнае развіццё эканомікі, культуры. І, зразумела, згодна свайму профілю, асабліва пільную ўвагу надаваў пытанням літаратуры. А гэтыя задачы стаялі ў цэнтры ўвагі дзякуючы таму, што ў рэдакцыі сабраліся па сутнасці аднадумцы. Акрамя Я. Купалы, у выданні "Руні" прымалі самы непасрэдны ўдзел Л. Родзевіч, М. Чарот, мастак Я. Драздовіч і іншыя.**

**Дзякуючы "Руні" да чытача прыйшлі такія творы Я. Купалы, як вершы "Габруся ў жаўнерку ўзялі...", "Будзь здаровы, бацька, маці...", "Гэй, у лесе пры даліне" і іншыя, сцэнічны жарт "Прымакі", артыкул "Справа беларускага нацыянальнага гімну". Былі апублікаваны апавяданне М. Багдановіча "Апокрыф", асобныя творы З. Бядулі, А. Гаруна, М. Чарота, К. Буйло...**

**Не абміналіся і пытанні літаратура- і мовазнаўства, гісторыі, аб чым сведчаць артыкулы "Духоўныя вершы і канты штучна створаныя", "Беларускі пісьменнік-народнік А. Р. Пшчолка", "Арцём Дарэўскі-Вярыга" Я. Карскага, "Кароткі гістарычны нарыс Гродзеншчыны" У. Ігнатоўскага, пераклад з нямецкай мовы артыкула "Штукарства мовы і красамоўства" І. Гердэра.**

**Змяшчаліся і ілюстрацыі — малюнкі і здымкі беларускага пейзажу, помнікаў нацыянальнай гісторыі і культуры.**

**Адным словам, "Рунь" шчодра заквітнела, няхай і не надоўга...**

## ПІЦЕРСКІЯ МАСТАКІ Ў ГОМЕЛІ



**Выстава трох піцерскіх мастакоў — Ігара Іванова, Юрыя Мядзведзева і Вячаслава Забеліна прайшла ў Гомелі. Гэтыя аўтары — з кагорты "шасцідзесятнікаў", яны стаялі ля вытокаў савецкага андэграўнда.**

**Цяпер работы ўжо вядомых майстроў захоўваюцца ў музеях і прыватных калекцыях многіх краін Еўропы і Амерыкі, уключаны ў розныя мастацкія каталогі.**

*На здымку: мастакі з Санкт-Пецярбурга Юрый Мядзведзеў, Ігар Іваноў і Вячаслаў Забелін — госці Гомеля.*

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ**

Часопісы ў сакавіку

# "АПОШНІ ШАНЦ ДАЛА ГІСТОРЫЯ..."

Надзіва адлавядае раману В. Гардзея яго назва — "Бедна басота" (пачатак твора змешчаны ў трэцім нумары "Маладосці", заканчэнне — у чацвёртым). Цяжкае пасляваеннае жыццё беларускай вёскі паўстае са старонак твора. Вёскі,. што знаходзіцца ў былой Заходняй Беларусі. Усім, безумоўна, нялёгка даводзілася пасля выгнання акупантаў, а тут, дык і зусім нявыкрутка. Як кажуць, куды ні кінь — усюды клін. Пісьменнік уводзіць чытача ў свет, дзе мала радасці, а пануюць галеча, няшчымніца. Не сказаць, праўда, каб раней мелі тут людзі вялікі дастатак, але ж неяк знаходзілі выйсце нават з самага складанага становішча. А цяпер...

Яшчэ незадоўга да вайны быў парушаны звыклы ўклад жыцця, калі, пасля ўз'яднання з Савецкай Беларуссю, пачалі людзей прымусова заганяць у калгасы. Працягвалася гэта пасля вайны. Хоць многія і працівіліся, ды не змаглі ўстаяць перад настырнасцю "балбатлівых чырвоных агітатараў": "Вострыя, дасціпныя языкі надзіва лёгка ўгаварылі сялян, і тыя, жадаючы хутчэй убачыць наабяцаныя залатыя горы, з адвечнай беларускай пакорлівасцю, без асаблівых душэўных пакут развіталіся з уласнымі надзеламі, а коней, хто меў, завялі ў даўжэзную, як абора, стайню, на скорую руку скіданую наводшыбе вёскі".

Многія, але не ўсе паддаліся на гэтыя абяцанкі. Сярод апошніх аказаўся і Сцяпан Аліфер. Ні якім багацеем, зразумела, не з'яўляўся, але хацеў чалавек сам вырашаць асабісты лёс, а да ўсяго аказаўся з характарам: "...наадрэз адмовіўся пісацца ў калгас, ды, мала таго, навідавоку ў прыезджага начальства пачаў калупацца з плугам на сваім, не такім ужо і марным, засеўку".

В. Гардзей не абцяжарвае сябе падрабязнасцямі высвятлення, чаму той жа Аліфер дзейнічаў менавіта так, а не інакш. Гэтаксама аўтар лаканічны, калі гаворыць пра тое, як новыя ўлады ўздзейнічалі на непаслушэнцаў. Справядліва мяркуе, што наўрад ці можна дадаць у гэтых адносінах нешта новае, таму надае толькі зыход падзей: "І яны (прадстаўнікі ўлады. — **А. М.**) прыйшлі, бяззбройныя, добрыя, лагодныя, забралі наравістага пустэльніка з поля, ледзь не пад белы ручкі павялі ў хату. Аб чым яны там размаўлялі — ніхто толкам не ведаў, але ўжо на другі дзень спахмурнелы Сцяпан Аліфер выкаціў з гумна калёсы, зашчаміў у аглоблі рухавага коніка, кінуў у драбіны плуг, радоўку, барану і марудна паклыгаў на калгасны двор. Дахаты пакрыўджаны, нарваны селянін прынёс толькі кавеньку і пракураную арэхавую люльку, ды і тую без тытуню".

Сам то Аліфер уратаваўся, а дачка яго, якая выйшла замуж за Язэпа Невяроўскага ("калісь за аб'ездчыка служыў" у пана Абуховіча), апынулася ў Казахстане. І ўвогуле, як і паўсюдна ў трыццатыя гады, у Заходняй Беларусі ахвярамі некаторыя станавіліся нават з-за свайго характару, а то і з-за звычайнай непісьменнасці. Адзін з іх "балбатлівы Пятрук Заяц" "калісьці славіўся вялікім дзіваком: нап'ецца ці прыкінецца, што п'яны да покату і крычыць: "Зося, хавайся! Бальшавікі з Саветамі б'юцца". У памяці людзей яшчэ свежым быў сталінскі паход на Заходнюю Беларусь, і багата хто доўга не мог зразумець, чаму замест адной улады пры паляках стала цяпер ажно дзве: нейкія бальшавікі і нейкія Саветы". Дабалбатаўся Аліфер, аднойчы прыехалі на чорным "варанку" і за ім. Было азваўся перад вайной, а пасля і след загубіўся — "ці то памёр у лагеры на Калыме, ці то загінуў на фронце ў штрафным батальёне".

Асноўныя падзеі, якія адбываюцца ў глухой палескай вёсцы, у рамане пасвечваюцца яркімі лірычнымі адступленнямі. Ды і твор пачынаецца з таго моманту, як бабрыная сям'я вырашыла перабрацца на новае месца: "Стары занудлівы бабёр нейкім дзесятым чуццём абнюхаў гэтую цудоўную балацявіну сярод густога мяшанага лесу і ўвосень, яшчэ па чарнатропе, задоўга да першага снегу, прывёў сюды, у глухую нетру, маладую і надзіва бесталковую бабрыху". Нядоўга радаваліся гэтыя насельнікі новаму жытлу, абодва неўзабаве загінулі. Ці не так і ў чалавечым жыцці?

Як быццам ранняя вясна сама спрыяла, каб у жыцці адной з галоўных гераінь рамана Ядзюні Чыркун, усё складвалася як найлепш. Закахалася яна ў маладога старшыню калгаса Аляксея Хамутовіча: "Маладому вар'яцтву і шаленству спрыяла незвычайна дружная вясна з сонечнымі надвячоркамі, цёплымі вечарамі і шчасліва трывожнымі начамі. І ніхто не папярэдзіў Ядзюню, што ўсё ж трэба асцерагацца гэтай цудоўнай вясны, што нельга залішне давярацца густой і падманлівай цемры і што, у рэшце рэшт, трэба баяцца грымотных начных навальніц.."

Падобная прысутнасць аўтара ў рамане назіраецца вельмі часта. Прытым В. Гардзей часта карыстаецца дасціпным гумарам, што надае твору яшчэ большую прыцягальнасць, а інтанацыі становяцца шчырымі, непасрэднымі, да герояў пранікаецца з даверам, асабліва, калі адчуваеш, наколькі адкрытыя яны. А Ядзюня менавіта такая. Хоча шчасця, радасці, безаглядкава, быццам у вір галавой, кідаецца ў мора пачуццяў і за гэта жорстка расплачваецца. Аляксей Хамутовіч, даўно прывык да лёгкіх перамог, і ў жонкі бярэ сабе іншую дзяўчыну. Ядзюня ж застаецца з дзіцем на руках.

І як бы ні асвечвалі старонкі, дзе расказваецца пра каханне Ядзюні, раман чымсьці сонечным, узвышаным, тым не менш у творы радасці мала. І тут пісьменнік не ідзе насуперак жыццёвай праўдзе, а ўзнаўляе вясковы побыт заходнебеларускай вёскі такім, якім ён быў. Няцяжка заўважыць, што пэўныя эпізоды ўзяты аўтарам непасрэдна з жыцця яго землякоў. Але гэтаксама лёгка пераканацца, што В. Гардзей нікольькі не "фатаграфуе" рэчаіснасць. Як вопытны творца, ён выбірае са шматлікіх фактаў і падзей найбольш важнае, прытым лішняе, непатрэбнае адсейвае, а ў выніку застаецца галоўнае, а за ім — лёс вёскі, лёс народа, лёс Бацькаўшчыны.

Здавалася б, нават сюжэтныя лініі ў чымсьці другасныя, як напрыклад, узаемаадносіны Тафіліі і Сцяпана Аліфера (дарэчы, пра гэта пісьменнік раней па-майстэрску расказаў у адным з сваіх апавяданняў, канечне, значна лакалізаваўшы сітуацыю), не страчваюць свайго значэння. Больш таго, надаюць падзеям у рамане яшчэ выразнейшую канкрэтнасць, дазваляючы адчуць, наколькі шмат у народзе яркіх індывідуальнасцяў. Апошняе тычыцца і двух "паноў" — Бронюся і Вінцуся. Надзіва яркія, каларытныя іх характары. Часам думаецца, што твор выйграў, калі б гэтыя вобразы атрымалі сваё далейшае развіццё. Але, як кажуць, што маем, тое маем. У В. Гардзея была свая задума і ён імкнуўся яе ажыццявіць. І мы павінны гаварыць пра тое, што ёсць, а зусім не пра тое, што магло б быць. А ёсць раман — праўдзівы, з добрым веданнем народнага побыту.

Час, калі "хлусіла чырвоная зорка" (М. Сяднёў), адлюстраваны і ў паэме С. Законнікава "Цівалі", змешчанай у "Полымі". Хацелася б, каб наша крытыка пагаварыла пра гэты твор падрабязней, усё ж ён з шэрагу тых, што становяцца з'явай у літаратуры. Надзіва пераканаўча аўтару ўдалося адчуць пульс страшнага часу беззаконня. У аснову паэмы пакладзены факт, які меў месца ў сапраўднасці. Бальшавіцкія нелюдзі, знішчыўшы перад вайной па загадзе наркома Л. Кагановіча вялікую групу беларускіх чыгуначнікаў, каб схаваць сляды злачынства, пахавалі расстраляных каля вёскі Цівалі пад Мінскам у могільніку, дзе знаходзілася жывёла, памерлая ад эпідэмій.

Адштурхоўваючыся ад гэтага факта, С. Законнікаў прыглядаецца найперш да падзей даўніх. У паэме дакладна выверана кожнае слова, а думка лаканічная, узважаная. Наколькі аўтару ўдалося ўжыцца ў тэму, яскрава відаць хоць бы з гэтага невялікага раздзела "На Беларусі — мор", які прыводжу цалкам:

**На Беларусі — мор.**
**Мор — у кожную хату і двор.**
**На жывёлу — эпідэмія:**
**Сібірская язва,**
**Яшчур,**
**Сап**
**Ды пошасць, якой не чулі.**
**На людзей —**
**Ненавісці класавай інфекцыя:**
**У Сібір,**
**На Поўнач — этап**
**Або ў патыліцу — куля...**
**На Беларусі — мор.**

І адначасна пераход да сённяшніх падзей: "Хоць ёсць незалежнасць, // Але і сягоння // Павагі няма да сівой даўніны. // У новых нападках // На Сцяг, // На Пагоню // Мне чуецца гул грамадзянскай вайны". І як бы падагульненне гаворкі, якая стала для паэта маральнай патрэбай — казаць набалелае, жаданне зірнуць у перспектыву:

**Апошні шанц дала гісторыя...**
**Свой шанц,**
**Народ мой,**
**Скарыстай.**
**І ажыве прыгнётам змораны,**
**Забыты Богам**
**Родны край.**

А яшчэ ў "Полымі" радуюць матэрыялы аддзела крытыкі і літаратуразнаўства — артыкулы У. Гніламёдава "Літаратурнае жыццё на Беласточчыне: паэзія, проза, крытычныя рэфлексіі", С. Лаўшука пра І. Навуменку "З пакалення, што не стала на калені", Л. Савік пра В. Іпатаву "Беларусь! Твая дачка я...". А С. Грахоўскі, як, бадай, ніхто да яго, хораша напісаў пра свайго сябра Я. Скрыгана — "Скрыганіяна". Душой напісаў, сэрцам прачула расказаў. Каб жа часцей з'яўляліся падобныя мемуарныя матэрыялы. Глядзіш — і жанр гэты набыў бы важнае значэнне, а не тое, што назіраецца часам, калі той, хто ўспамінае, найперш імкнецца падаць у выгадным святле самога сябе. Ды і паэзія не абмяжоўваецца "Цівалі" С. Законнікава — імёны П. Макаля, Х. Гурыновіча, В. Яраца самі гавораць за сябе.

У "Маладосці" ж У. Дзюба ў драматычнай аповесці "Памінальная па Банапарту каля беларускага тракту" па- сучаснаму (а галоўнае, прытрымліваючыся аб'ектыўнасці) асэнсоўвае падзеі вайны з Напалеонам. М. Кусянкоў прапаноўвае чарговыя творы з новай сваёй кнігі паэзіі "Чага", якая яшчэ пішацца і па апублікаваных творах з якой (не толькі ў "Маладосці") ужо бачна, што яна **прагучыць.**

Дарэчы, у "Нёмане", у перакладзе У. Машкова, пачатак рамана М. Кусянкова "Явар з калінаю". Рускамоўнаму чытачу адрасаваны і іншыя творы — М. Аўрамчыка, П. Васючэнкі, М. Мятліцкага. З літаратурна-крытычных матэрыялаў вылучаецца артыкул В. Каваленкі "Трагічная мара аб буйным калашэнні", што мае падзагаловак "філасофія нацыянальнага жыцця ў творчасці М. Гарэцкага".

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ДА СТАРОГА ЯК СВЕТ... ПАДРУЧНІКА

*(Пачатак на стар. 11)*

"ЛіМа" ставілі ды называлі праблемы, агульны сэнс зводзячы да старога як свет... падручніка. Для малодшай, для сярэдняй, для вышэйшай, для нармальнай, для сучаснай, для нацыянальнай — школы, школы, школы... Для тых, каго вучаць, — нароўні з тымі, хто вучыць. Выканаўчы дырэктар названай праграмы Людміла Дзяменцьева звярнула ўвагу на тое, што "цудоўныя рукапісы ёсць па педагогіцы, псіхалогіі, экалогіі, геаграфіі, эканоміцы, кіраванні, культуры, філалогіі, літаратуразнаўстве, філасофіі, сацыялогіі, правазнаўстве, паліталогіі, беларускай мове і літаратуры, гісторыі — па ўсіх тэматычных конкурсных напрамках". На сустрэчы Людміла Яўгенаўна назвала лічбу ўдзельнікаў, якіх удалося прыцягнуць да працы: больш за тысячу дзвесце чалавек. Чатырыста дваццаць (на розных узроўнях) атрымалі гранты. Новае пакаленне падручнікаў з'яўляецца на нашых вачах...

А знарок для "ЛіМа" спадарыня Дзяменцьева ўдакладніла вельмі й вельмі далікатны момант: для Беларусі не будзе прыдатным тое, што адкінулі, скажам, у Парыжы. Для Беларусі найпрыдатным будзе тое, што ў тым самым Парыжы ўжо прызнана класічным і вытрымала некалькі перавыданняў, — гэта значыць, адметныя, класічныя падручнікі па шмат якіх галінах ведаў. Іх будуць перакладаць і ўжо перакладаюць. І толькі якасць напісанага вырашыць, што перакладаць, а што ўсё-такі пакінуць за беларускім бокам. У некаторых галінах ведаў гэтае сваё будзе не горш за сусветнае. Усё нешараговае ды карыснае для Беларусі будзе падтрымана...

... Калі нешматлікія рэальныя сілы, перш як аб'яднацца, знойдуцца. Імя ім — прафесійнікі. Прафесійнікі ў краіне бед ды бедкаў, якія спарадзіла і спараджае мысленне, не ўзброенае дастатковым інтэлектам, веданнем, разуменнем. Пакуль што — драбнюткія, мізэрныя адсоткі грамады ды нацыі.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

# БЕЛАРУСКАЯ "АГАТКА" ДЫ АЎСТРЫЙСКІ "ФІГАРА"

## ОПЕРНА-ГІСТАРЫЧНЫЯ ПАРАЎНАННІ

У другой палове XVIII ст. камедыйныя жанры ў драматычных ды оперных тэатрах былі для верхніх пластоў грамадства своеасаблівай трыбунай сцвярджэння ідэй роўнасці. Тэматыка гэтых жанраў увогуле зводзіцца прыкладна да наступнага: бедныя, але высакародныя маладыя людзі змагаюцца за сваё шчасце з дурнымі, пыхлівымі, але багатымі, пастаўленымі на больш высокую прыступку сацыяльнай іерархіі, панамі. Калі функцыю "рэпрэзентатыўнасці" трэцяга саслоўя выконвала опера-buffa, дык функцыю "рэпрэзентатыўнасці" арыстакратыі — опера-seria. Так нас і вучылі, так мы, музыканты, пераважна й думаем.

Але оперы і балеты, трагедыі ды камедыі пісалі адны і тыя ж аўтары. Значыць, у выпадку, калі пісаўся твор сур'ёзны, "высокага стылю", — ён нібыта ўмацоўваў рэальны сацыяльны ўклад. Калі ж кампазітар пісаў твор "лёгкага", забаўляльнага характару (за грошы таго ж графа ці маркіза), ён быццам бы тым самым "разгойдваў" гэты ўклад, бо аб'ектыўна ў такім выпадку мастацтва выконвала місію Асветы. Цікавая дыялектыка.

Вядома, што пры вялізнай цікавасці да музычнай творчасці ў XVIII ст. ва ўсіх пластах грамадства, кампазітараў, мастакоў, музыкантаў, пісьменнікаў — наогул тых, хто творчасцю зарабляў сабе на жыццё, у Еўропе залічвалі ў разрад рамеснікаў, г. зн. у трэцяе саслоўе. Бывае, што імёны "гаспадароў жыцця" згадваюць цяпер толькі ў сувязі з тым, што іхнія шляхі нейк скрыжоўваліся з Бахам і Моцартам, Гайднам і Стаміцам. Хаця бездань пралягала між вярхамі ды нізамі грамадства, арыстакратыя дапускала мастацкі плюралізм паміж "buffa" і "seria". Ідэі Асветы нават выклікалі цікавасць манархаў, напрыклад, Кацярыны II. Але так было да тых часоў, пакуль гэтыя ідэі не зрабіліся рухальнай сілай рэвалюцыйнага працэсу. Вялікая французская рэвалюцыя, якая пазбавіла галоў (у літаральным і пераносным сэнсе) арыстакратыю, знішчыла сацыяльную і матэрыяльную аснову "seria".

1784 год. У Парыжы і ў Нясвіжы адбываюцца дзве мастацкія падзеі, досыць блізкія сваім унутраным сэнсам. У Францыі ды Рэчы Паспалітай набліжаўся час вялікіх узрушэнняў, якія паўплывалі на лёс еўрапейскай гісторыі. Сцэнічныя творы — "Вяселле Фігара" і "Агатка" — амаль аднолькава адыгралі ролю палітычных маніфестаў, якія па-мастацку вельмі моцна выказалі інтарэсы трэцяга саслоўя ў Францыі ды, адпаведна, шляхты ў Рэчы Паспалітай.

Трылогія Бамаршэ неадназначная. "Севільскі цырульнік", дзе драматургічны талент аўтара выявіўся вельмі яскрава, два гады чакаў свайго шанцу, пакуль не з'явіўся на сцэне. Хаця фабула падзей у гэтай п'есе тыповая і адпавядае камедыйным канонам свайго часу, нетыповы быў яе герой — Фігара, чые выказванні, дзякуючы Бамаршэ, сяды-тады ўжо ўспрымаліся як выклік арыстакратыі.

"Гэта рэвалюцыя ў дзеянні" — так ахарактарызаваў Напалеон "Вяселле Фігара". Героі Бамаршэ — Фігара ды Сюзана — распачынаюць барацьбу за сваё права на шчасце, барацьбу з арыстакратыяй у асобе графа і ягонага "атачэння". Змагаюцца з норавамі, што пануюць у вышэйшым свеце, і перамагаюць. Адносна надзейным іхнім саюзнікам робіцца графіня.

Французская публіка, а ў залах прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх пластоў грамадства, неадназначна ўспрыняла новую п'есу Бамаршэ. Паслядоўнікі ідэй Асветы і трэцяе саслоўе — з захапленнем. Арыстакратыя — негатыўна. Потым, у канцы 80-х, на вуліцы Парыжа выйдзе Вялікая рэвалюцыя, на скрыжалях якой будзе напісана: "Свабода. Роўнасць. Брацтва", — словы, што наганялі жах на еўрапейскіх манархаў. Але ўсё гэта будзе потым. Пакуль жа трэцяе саслоўе ў абліччы герояў Бамаршэ выйшла на сцэну, дэкляруючы сваю чалавечую годнасць.

Хто мог тады падумаць, што вялікія ідэі французскіх асветнікаў будуць рэалізаваныя ў далёкіх Злучаных Штатах Амерыкі, што да практычнай іх рэалізацыі падыдзе Рэч Паспалітая сваім канстытуцыйным актам ад 3 мая 1791 года, а ў Францыі пачнецца крывавая вакханалія... Не адразу зразумеў французскі народ, што рэалізацыя дэмакратычных ідэй вымагае ўмоў грамадзянскага міру, а не грамадзянскай вайны, што пагібельны экспарт рэвалюцыі нясе краіне ганьбу, а не славу.

Пры канцы свайго жыцця Бамаршэ, які жыў тады на эміграцыі, у Дрэздэне, чалавек па натуры гуманны, не прыняў, верагодна, метадаў барацьбы "рэвалюцыйных мас" ды іхніх правадыроў. Інакш дзеля каго й чаго ён піша п'есу, дзе мы зноў сустракаемся са знаёмымі героямі: "Злачынная маці" зноў дорыць нам спатканне з нескароным Фігара, якога Бамаршэ... замірае са сваім гаспадаром.

Ідэі Асветы не сустракалі ў Рэчы Паспалітай такога жорсткага непрыняцця, як у арыстакратычных вярхах Францыі, Аўстрыі, Прусіі, Расіі. Ці не таму "buffa" зрабілася асноўным жанрам для сцэн у нашым краі, а "seria" не стала модай?

Так, сацыяльная рознасць між шляхтай і астатнім насельніцтвам у Вялікім княстве Літоўскім існавала. Але сама шляхта не была аналагам французскай арыстакратыі. У тутэйшых умовах яна прадстаўляла і першае, і другое, і трэцяе саслоўе. Была дастаткова шматлікая і дэмакратычная (у пэўным сэнсе). Кожны шляхціц меў права быць абраны каралём! Шляхта была, паводле сацыяльнага становішча, і арыстакратыяй, і сялянствам, і буржуазіяй, і мастацкай інтэлігенцыяй, і нават... "шынкарствам"!

Тое, за што змагалася трэцяе саслоўе ў Францыі, у Рэчы Паспалітай, у межах шляхецкага саслоўя, ужо было натуральным становішчам. І калі ў Францыі ідэя роўнасці звялася да роўнасці на ўзроўні нізоў, шляхам ліквідацыі (фізічнай) вярхоў, дык ідэя класавай згоды і міру, што сыходзіла ў Рэчы Паспалітай "зверху ўніз" па сацыяльнай лесвіцы, зрабілася прычынай сталага галаўнога болю (у палітычным, зразумела, сэнсе) Пецярбурга, Берліна ды Вены. Ідэі класавага міру, якія падзяляў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, былі шмат у чым дэкларатыўныя. Але хто ведае, у што б яны выліліся, калі былі б практычна рэалізаваны артыкулы канстытуцыі 3 мая 1791 г., калі б не другі ды трэці падзелы дзяржавы. Бо менавіта ж супраць іншаземнага захопніка (якому бяздумна дапамагала й частка непатрыятычнай шляхты), за аднаўленне менавіта гэтай дзяржавы, угрунтаванай менавіта на гэтых ідэях, і змагаліся паўстанцы ў 1794, 1830, 1863 гадах.

Кожны з драматургаў — Бамаршэ і Радзівіл — арыентаваўся на сваю публіку. Для тых, хто з'яўляецца прыхільнікам канцэпцыі: "Гісторыя чалавецтва ёсць гісторыя барацьбы класаў" — ідэі аўтараў розняцца яўна на карысць Бамаршэ з ягоным "Вяселлем Фігара". Бо ў Радзівіла Агатка ды Антак Цалка таксама змагаюцца за сваё шчасце, але перамогу атрымліваюць з рук добрага пана, а не ў выніку сваіх дзеянняў, учынкаў. Агатка невыпадкова звяртаецца ў першай жа арыі да "братоў нашых меншых" з такімі словамі:

**Буду вам панам,**
**А не тыранам,**
**Буду вам бацькам і маткай!**

Барацьба ідэй, а не людзей, гуманізм і высакароднасць душы — вось асноўныя прыкметы п'есы Радзівіла.

У музыказнаўчых працах былі неаднаразовыя спробы параўнаць музыку "Агаткі" ды "Вяселля Фігара". Глянем і мы, чым родняцца, а чым розняцца класіцысцкія ўзоры аўстрыйскага ды беларускага "buffa".

Вядома, што "Севільскі цырульнік", які задумваўся Бамаршэ як опернае лібрэта, стаў двойчы літаратурнай першаасновай цудоўных опер — Дж. Паізіелы і Дж. Расіні. Дый Грэтры збіраўся, але па нейкіх прычынах не ажыццявіў свайго праекта па стварэнні оперы "Злачынная маці".

Як Бамаршэ чакаў у Парыжы два гады пастаноўкі "Севільскага цырульніка", так два гады ў Вене Моцарт чакаў манаршай літасці дзеля стварэння "Вяселля Фігара". У 1786 г. адбылася прэм'ера, якую наведаў імператар. Без захаплення ўспрыняў ён новую оперу: "Зашмат нот, Моцарт, зашмат", — гэткая была манаршая "рэцэнзія".

А вось Голанду чакаць не давялося. Ініцыятарам стварэння оперы "Агатка" стаў гаспадар Нясвіжа князь Караль Радзівіл — самы багаты беларускі магнат. Верагодна, і самі ідэі, прапанаваныя аўтарамі музыкі (Голанд) і вершаў (Мацей Радзівіл), былі яму блізкія, ён іх цалкам падзяляў.

Аўтар, калі хоча, каб яму паверыў глядач, імкнецца да праўдападабенства абстаноўкі, у якой існуюць ягоныя героі, да т. зв. "малой праўды" (Б. Пакроўскі). Бамаршэ перанёс дзеянне сваёй камедыі ў Іспанію. Для французскіх гледачоў з ліку арыстакратаў гэткім чынам ён закамуфляваў французскія рэаліі. Гледачы смяяліся (як яны думалі) не з сябе, а з дурнаватых іспанцаў. Следам за Бамаршэ дзеянне сваёй оперы перанеслі ў Іспанію Моцарт і Ларэнца да Понтэ (аўтар лібрэта "Вяселля Фігара"). А вось стваральнікі "Агаткі", бясспрэчна, наўмысна малююць дзеянне сваёй п'есы ў родных сценах. І нясвіжскія рэаліі (пра гэта — пазней) даюць нам спажыву для роздуму наконт маральнасці ды палітычных поглядаў Радзівілаў.

Унутраны (галоўны) змест твора, натуральна, не ў фабуле падзей. Справа гонару аўтараў — зрабіць оперу займальнай для гледача. Аўтары "Агаткі" бліскуча справіліся з гэтай задачай. Паколькі опера — жанр, у якім менавіта музыка стварае характары і з'яўляецца "рухавіком" падзей, перагорнем некаторыя старонкі "Агаткі" ды яе Моцартава родзіча — "Фігара".

Звярну ўвагу на чатыры моманты. Першы. Ідэнтычныя па форме, імклівасці тэмпа, эмацыянальнай атмасферы уверцюры абедзвюх опер. Другі. У "Вяселлі Фігара" над усім дзеяннем пануе вобраз графа. Калі яго няма на сцэне — пра яго гавораць, супраць яго плятуцца (у процівагу ўласным графскім) інтрыгі. У "Агатцы", пакуль пан не з'яўляецца сам, над усім дзеяннем уладарыць атмасфера чакання пана.

Трэці момант. Фармаўтваральнымі элементамі, тэмпарытмам, памерам ($\frac{6}{8}$), ідылічнай атмасферай, у нейкім сэнсе нават мелодыкай родніцца хор сялянак з III дзеі "Вяселля Фігара" і N 16 (III д.) з "Агаткі" — хор, сустрэча пана. І — чацвёртае. Нават для дылетанта ў музыцы пасля праслухоўвання відавочнае не проста падабенства, а амаль поўнае супадзенне мелодый пачатку каваціны Фігара з I д. "Вяселля..." і другой часткі арыі Агаткі з I д. оперы Голанда.

Паколькі "Агатка" напісана на 2 гады раней за "Фігара", меркаванне наконт, здавалася б, натуральнага пераасэнсавання Голандам творчасці Моцарта адпадае само сабою. Можна і вышэйзгаданым супадзенням даць тлумачэнне. Тэматызм, мастацкія ідэі, што называецца, луналі ў паветры Еўропы XVIII стагоддзя. Можна і з прыемнасцю ўсвядоміць, што свежыя мастацкія ветры даляталі ў Вену і з Нясвіжа таксама...

Цяпер — пра адрозненні. Вытанчаны меладызм, калі ў оперы дзейнічаюць героі розных саслоўяў, Моцарт захоўваў для характарыстыкі вышэйшых пластоў грамадства. Праўда, у "Вяселлі Фігара" ў IV д. Сюзана пяе менавіта такую арыю, але... пераапрануўшыся ва ўбор графіні.

У оперы Голанда вытанчаным, высакародным меладызмам надзяляюцца Агатка і Антак Цалка — прыгонныя сяляне. А пан? Іхні пан увогуле пазбаўлены меладычнай характарыстыкі!

Выдатна адукаваныя ў мастацтве, як стваральнікі оперы, так і ініцыятар яе стварэння Караль Радзівіл (кларнетыст-аматар), так і Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (флейтыст-аматар) — той, дзеля каго пісалася гэтая опера, хто быў першым слухачом, — усе яны цудоўна разумелі пікантнасць сітуацыі. Голанд не без падтрымкі Радзівілаў свядома парушыў тагачасныя традыцыі. З боку Караля Радзівіла гэта быў своеасаблівы намёк для караля: дзейнічай у адносінах да падданых гэтак, як робіць у оперы пан у адносінах да сваіх падданых. Калі так і будзе, у наступнай оперы, маўляў, надзелім цябе меладызмам... Вядома ж, гэта мае фантазіі, але... Але, калі не маглі кампазітары ў Польшчы польскаму каралю намякаць, як яму належыць сябе паводзіць, дык у Нясвіжы ён быў госцем фактычна некаранаванага караля Вялікага княства Літоўскага, які ўсё жыццё быў у "напятых" стасунках з манархам, быў чалавекам незалежным і мог дазволіць сабе гэткую вольнасць (маўляў, я — такі пан, табе ж яшчэ трэба такім стаць) у адносінах да караля Станіслава Аўгуста.

Першая назва оперы — "Агатка". "Прыезд пана" — яшчэ адзін назоў, які з'явіўся пазней і заняў... пазіцыю за імем прыгоннай гэтага пана! Такім чынам, "Агатка, або Прыезд пана". Двайная назва для класіцысцкіх п'ес і опер — звычайная практыка свайго часу. Але каб гэтак не паважаць "блакітную кроў"! Той, хто даў гэтай оперы другую назву, не мог не ведаць, што "**Прыезд пана**" прымяркоўвалі да **прыезду караля** ў Нясвіж. А мэтаю наведання каралём Нясвіжа былі іхнія палітычныя кансультацыі з Каралем Радзівілам напярэдадні выбараў у Сейм Рэчы Паспалітай. Дык як жа адрэагаваў кароль на "свавольны" намёк у оперы? Вечарам таго ж дня, падчас банкета, ён падняў тост у гонар гаспадара. Мовіў яго ў вершаванай форме на беларускай мове! Брава, Радзівілы! Брава, кароль!

Ну, і апошняе. Вядома, што некаторыя нумары з опер Моцарта ў лічаныя гадзіны пасля прэм'ер рабіліся венскімі шлягерамі. Так сказаць, Моцарт пісаў "народныя" песні. Голанд жа выкарыстоўваў (і гэта прызнаюць усе музыказнаўцы) мясцовы нясвіжскі фальклор, працуючы над "Агаткай". Як тут не згадаць выслоўе М. Глінкі: "Стварае музыку народ, а мы, кампазітары, яе толькі аранжыруем".

Моцарт эстэтычна падрыхтаваў новую эпоху ў музычным мастацтве — эпоху Рамантызму. Голанд, у спрэчцы з эстэтыкай класіцызму, магчыма, і сам таго не ўсведамляючы, кіраваўся рамантычнымі ідэямі. Эстэтычныя ідэі "Агаткі" не ўспрымаліся абсалютысцкімі імператарскімі сцэнамі Еўропы. Толькі ў беларускіх ды польскіх тэатрах гэтая опера мела досыць працяглае пастановачнае жыццё. І ні разу не ставілася ў ніякай іншай краіне свету. Не мастацкая недасканаласць прычына таго: хто знаёмы з музыкай гэтага цудоўнага твора, не мае патрэбы ў доказах вартасцяў "Агаткі".

Бамаршэ, Ларэнца да Понтэ, Мацей Радзівіл, Моцарт і Голанд напісалі свае творы **пра** сваіх гледачоў і **для** сваіх гледачоў — людзей XVIII ст., парыжан, венцаў ды нясвіжцаў адпаведна. Якое шчасце, што іхні талент дазваляе сцвярджаць: гэта напісана і для нас з вамі.

І яшчэ заўвага. Хачу, каб мяне правільна зразумелі. Бясспрэчна, шмат у чым Нясвіж ды Слонім былі неканкурэнтаздольныя з Парыжам ды Неапалем, Венай і Дрэздэнам, нават з Пецярбургам. Але тое, што ў гэтых беларускіх гарадах бруілася мастацкая думка, што нараджаліся тут новыя мастацкія ідэі, якія далі годныя ўзоры творчасці з нацыянальнай беларускай адметнасцю, — гэта факт, які трэба не проста ведаць і паважаць. Гэта мае быць зачэпкай для кожнага, для каго дарагая ягоная радзіма, — зачэпкай і стрэмкай да таго часу, пакуль мы не адновім цудоўнае мастацтва зямлі беларускай у поўным аб'ёме. Дзеля памяці найдастойных продкаў, дзеля сябе і дзеля будучых пакаленняў беларускага народа.

**Віктар СКОРАБАГАТАЎ**

## А Ў ЛІДЗЕ — КОНКУРС...

**По ініцыятыве Лідскага музычнага вучылішча, якая атрымала падтрымку абласнога ўпраўлення культуры і друку, арганізаваны і праведзены 1 конкурс юных выканаўцаў ДМШ і ДШМ. Конкурсу дадзена імя вядомага ў музычных колах скрыпача, педагога, кампазітара, ураджэнца Ліды — Канстанціна Канстанцінавіча Горскага. Паводле задумы арганізатараў конкурсу, ён будзе праводзіцца раз у два гады па розных музычных інструментах і ўзроставых групах. Сёлета выступалі піяністы і струннікі (скрыпачы, віяланчэлісты), вясной будучага года пройдзе першы конкурс сярод юных выканаўцаў на народных і духавых інструментах. У 1-м конкурсе імя Горскага ўдзельнічалі 60 лепшых юных выканаўцаў (20 струннікаў, 40 піяністаў) з музычных школ Лідскага метадычнага аб'яднання: Навагрудка, Ашмян, Карэліч, Іўя, Воранава, Дзятлава, Радуні, Бярозаўкі, Першамайска... Дыпломамі 1 ступені адзначаны струннік Р. Антошкін, А. Драко і піяністы І. Трубеева, Д. Мазітава. Конкурс стаў сапраўдным святам для ўдзельнікаў і іх настаўнікаў. Прызавы фонд склаў амаль 5 мільёнаў рублёў. Зацікаўленасць у падтрымцы юных выканаўцаў праявілі кіраўнікі прадпрыемстваў і бізнесмены г. Ліды: камбінат хлебапрадуктаў (В. Вішнеўскі), гарадскія цеплавыя сеткі (П. Гардзіёнак і І. Некраш), рэгіянальны цэнтр гандлю нерухомасцю (І. Янкоўскі), фірмы "Марыола" (А. Велікан), "Фіеста" (В. Алюшкевіч), "Верас" (А. Чысцякоў), мемарыяльна-культурнае таварыства (Т. Барадач). Конкурс стаў сапраўднай падзеяй у музычным жыцці Ліды.**

**Т. ГУСЕВА,**
**намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце Лідскага музычнага вучылішча**

## "МІНСКІ ФОРУМ-95"



**У Рэспубліканскай мастацкай галерэі адкрылася выстава фатаграфіі "Мінскі форум-95". Арганізатарам яе выступіла аб'яднанне мінскіх фатографаў. Розныя творчыя накірункі ў фотамастацтве прадстаўлены тут 66 аўтарамі і іх 273 работамі. Экспазіцыя, якая дэманструе высокі ўзровень фатаграфічнага мастацтва Беларусі, адкрыла многія новыя імёны.**

**Вялікую дапамогу ў арганізацыі "Мінскага форума-95" аказаў спонсар фірма "BEIEXFILM".**

*На здымку: знаёмства з выставай.*

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ.**

## МЕМУАРЫ — ЖАНР ЦІКАВЫ

**У гэтым пераканала прэм'ера кнігі Сымона Белага "На бацькоўскай зямлі" (выпушчана выдавецтвам "Мастацкая літаратура"), што праходзіла ў Доме літаратара.**

**С. Белы — пляменнік Якуба Коласа, неаднойчы сустракаўся з Канстанцінам Міхайлавічам, добра знаёмы з тымі, хто мае самае непасрэднае дачыненне да Коласавай сям'і. Найбольш цікавыя згадкі і знайшлі свваё адлюстраванне ў кнізе. Адначасова С. Белы расказаў і пра жыццё жыхароў Коласавай Мікалаеўшчыны.**

**У час абмеркавання кнігі выступілі вядучы вечарыны Я. Лецка, сын Я. Коласа Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч, Я. Хвалей, А. Мальдзіс, У. Юрэвіч, І. Курбека, Т. Мархель...**

**Тое, што з'явілася з-пад пяра нястомнага краязнаўцы, прапагандыста Коласавай спадчыны і яго жыцця, было ацэнена высока. Праўда, Даніла Канстанцінавіч зрабіў і пэўныя заўвагі, якія тычацца асобных фактычных недакладнасцей. Але яны, у чым былі пераканаы выступоўцы, не змяншаюць значэння гэтага патрэбнага і карыснага выдання.**

# ЯКІЯ Ж ЯНЫ, АМЕРЫКАНСКІЯ БЕЛАРУСЫ?

***Дзесяцігоддзямі дапытлівы чытач зведваў голад на аб'ектыўную інфармацыю аб жыцці беларускай эміграцыі. Цяпер ужо такога не скажаш. Цікавыя і праўдзівыя звесткі пра мінулае і сучаснае жыццё беларускіх эмігрантаў рэгулярна змяшчаюць нашы газеты і часопісы. Паспелі з'явіцца прысвечаныя данай праблеме брашуры і кнігі, у тым ліку напісаныя і самімі эмігрантамі. Пра адну з іх — "Беларусы ў ЗША" Вітаўта Кіпеля — і пойдзе ніжэй гаворка.***

### ПА СТАРОНКАХ КНІГІ ВІТАЎТА КІПЕЛЯ

З'явілася яна (дзякуючы клопатам выдавецтва "Беларусь") у 1993 годзе і хутка знікла з прылаўкаў кнігарняў. Спраўдзілася тое, што пісалася ў анатацыі да кнігі: "...зацікавіць як спецыялістаў — гісторыкаў, так і шырокія колы чытачоў, неабыякавых да праблем гісторыі Беларусі". Здзіўляе толькі, што гэтая, несумненна, вельмі патрэбная кніга належным чынам не ацэнена ў друку, хаця і мінула нямала часу з выхаду яе ў свет. А яна вартая ўвагі, бо роўнага ёй яшчэ не з'яўлялася ў айчынным і замежным друку.

Змест кнігі В. Кіпеля значна шырэйшы за яе назву. Тут ёсць і матэрыялы, якія датычаць тых ці іншых аспектаў эміграцыйнага жыцця ў іншых краінах, асабліва ў заходняй Нямеччыне, дзе ў першыя пасляваенныя гады сабралася вельмі шмат бежанцаў з Беларусі. Аўтар не абмяжоўваецца толькі тэрыторыяй ЗША і тады, калі аналізуе хвалі і прычыны эміграцыі з Беларусі, разглядае дзейнасць розных беларускіх эміграцыйных арганізацый, выдавецкую справу, беларусіку ў сродках масавай інфармацыі.

Дзеля ажыццяўлення пастаўленай мэты В. Кіпель правёў стараннае, грунтоўнае вывучэнне велізарнай колькасці рознага роду літаратурных крыніц і статыстычных даведнікаў, дзе хоць што-небудзь можна адшукаць са звестак аб эміграцыі з Беларусі. Цяжкасцяў на гэтым шляху было нямала і галоўная з іх, што вельмі доўгі час у літаратуры і афіцыйных дакументах беларусы проста не выдзяляліся з агульнай катэгорыі "расейцаў". Часта нашых суродзічаў яшчэ адносілі і да палякаў. "Стварылася парадаксальная сітуацыя, — справядліва заўважае аўтар, — з аднаго боку, вядомы факт, што беларусы прыязджалі ў Амерыку ў вялікай колькасці, а з другога боку, аб іх няма ніякае афіцыйнае статыстыкі. Гэта й было адной з галоўных прычын таго, што сотні прац аб амерыканскіх славянах зусім не згадваюць пра беларусаў".

Але тое, чаго не жадала паказаць афіцыйная статыстыка, імкнуліся хоць прыблізна адлюстраваць даследчыкі. Як вынікае з кнігі В. Кіпеля, адным з першых звярнуў увагу на гэтую праблему ў сярэдзіне 20-х гадоў Ф'ерыл Хэс. Ён выказаў меркаванне, што з агульнай колькасці расейскіх імігрантаў каля 200 тыс. чалавек на долю беларусаў даводзіцца 40 працэнтаў.

В. Кіпелем устаноўлены і такі цікавы факт, што першым у амерыканскай перыёдыцы ўжываў у 30-х гадах тэрмін "Беларусь" (Belorussia) прафесар Альберт Пэры.

З кнігі В. Кіпеля мы даведаемся і аб тым, калі ж усё-такі амерыканская афіцыйная статыстыка палічыла патрэбным назваць беларусаў іх сапраўдным імем. Вельмі позна — у 1980 годзе, калі праводзіўся перапіс насельніцтва. Беларусаў налічылі 7381 чалавек, з чым аўтар не згодзен і тлумачыць гэта досыць аргументавана.

Толькі пасля падрабязнага разгляду велізарнай колькасці літаратурных крыніц В. Кіпель пераходзіць да выкладу асноўных пытанняў праблемы. Першую хвалю эміграцыі з Беларусі ён з поўнай падставай адносіць да канца XVIII стагоддзя. Хто тады з беларусаў ступіў на амерыканскую зямлю, чытачу лёгка даведацца, прачытаўшы адпаведныя старонкі кнігі. Не выклікае пярэчанняў сцвярджэнне В. Кіпеля, што масавую эміграцыю з Беларусі трэба пазначаць апошнім дзесяцігоддзем XIX стагоддзя — пачаткам Першай сусветнай вайны. У адрозненне ад многіх даследчыкаў В. Кіпель справядліва лічыць, што, акрамя эканамічнага (як асноўнага) фактара масавай эміграцыі з Беларусі, істотна ўплывалі на гэта і палітычныя падзеі.

Выкарыстанне багатага фактычнага, найчасцей зусім невядомага нашым чытачам матэрыялу дазволіла аўтару глыбока і ўсебакова раскрыць нялёгкае жыццё беларусаў гэтых дзвюх эмігранцкіх хваляў. Пахвальна, што сярод асветленых пытанняў ёсць і такое, якое нас сёння ў найбольшай ступені хвалюе: "Абуджэнне беларускае свядомасці". Яе стану на пачатку XX стагоддзя даецца такая — і вельмі слушная — характарыстыка: "Большыня пакідала родную глебу некранутая беларускім адраджэннем. Імігранты называлі сябе "тутэйшымі". Расейскія і амерыканскія службоўцы называлі іх "расейцамі" або "палякамі". Гэтыя чужыя ім біркі, на жаль, прысталі да многіх". Але сярод беларускіх эмігрантаў усё больш і больш з'яўлялася людзей, якія глядзелі на сябе, як на прадстаўнікоў самастойнай этнічнай супольнасці. Спрыяла гэтаму і стварэнне на эміграцыі беларускіх нацыянальных арганізацый, дзейнасць якіх паказана з дастатковай паўнатой. Не абмінуты ўвагай і погляды прадстаўнікоў розных расейскіх эміграцыйных арганізацый на беларускае пытанне. Аўтар характарызуе іх пераважна з адмоўнага боку: "Большыня расейскіх арганізацый, цэркваў, газет, асабліва тыя, што ўзначальваліся этнічнымі расейцамі (вялікаросамі), вельмі адмоўна рэагавалі на абуджэнне беларусаў. Яны зацята супраціўляліся любой праяве нацыянальнай свядомасці, нават найменшай згадцы пра асобнасць беларусаў". Гэтая выснова пацвярджаецца даволі пераканаўчымі прыкладамі, узятымі з практыкі ўзаемадачыненняў паміж расейскімі і беларускімі эмігрантамі ЗША.

З усіх хваляў беларускай эміграцыі самай масавай была пасляваенная. Паколькі гэтая хваля непасрэдна закранула і юнага В. Кіпеля, ён пастараўся самым грунтоўным чынам апісаць падзеі таго часу, бо інакш было б цяжка зразумець, чаму многія беларусы праз пэўны час выбралі сабе шлях у ЗША.

Выклікаюць зацікаўленасць спробы аўтара вызначыць адрозненні паміж беларускімі эмігрантамі, што накіроўваліся ў ЗША на пачатку і ў 40-я гады XX ст. У першым выпадку — гэта пераважна абяздоленыя сяляне, а ў другім — адукаваныя і палітычна свядомыя людзі, "як асобная, дакладна вызначаная этнічная група з сваім нацыянальным назовам". Гэта тлумачыць прычыну, чаму беларусы па прыбыцці ў Заходняе паўшар'е так імкнуліся да стварэння сваіх уласных палітычных, грамадскіх, культурна-асветніцкіх, рэлігійных арганізацый, чаго, вядома, аўтар не мог абмінуць у сваёй кнізе. На мой погляд, гэта адны з самых цікавых і вельмі патрэбных для такой кнігі старонак, знаёмства з якімі дае вычарпальныя адказы на многія пытанні з гісторыі беларускай эміграцыі ў ЗША. Прачытаўшы кнігу В. Кіпеля, становіцца зразумелым, чаму па многіх пазіцыях так і не ўдалося дасягнуць згоды паміж "беларусамі-старажыламі" ў ЗША і навічкамі.

Працягласць існавання, захаванне кожнай этнічнай групы на чужыне калі не цалкам, дык у вельмі вялікай ступені залежыць ад таго, наколькі гэтай групе ўдаецца ладзіць сваё жыццё паводле толькі ёй адной уласцівых нацыянальна-культурных традыцый. Гэта не было сакрэтам для паваеннай беларускай эміграцыі ў ЗША, улічваючы яе высокі ўзровень адукаванасці і нацыянальнай самасвядомасці. Прыведзеныя ў кнізе шматлікія факты актыўнага нацыянальна-культурнага жыцця нашых эмігрантаў шчыра радуюць. Гэтая радасць яшчэ больш узрастае ад усведамлення, што яны так моцна трымаліся, развівалі, узбагачалі свае духоўныя традыцыі ў час, калі апошнія ў Савецкай Беларусі падпалі пад мэтанакіраваную дэнацыяналізацыю. Усім сённяшнім беларусам метраполіі, што хварэюць на нацыянальны нігілізм, рэкамендую прачытаць у кнізе В. Кіпеля старонкі, дзе падаюцца шматлікія факты самых паважлівых адносін нашых супляменнікаў да роднай культуры і мовы.

У адрозненне ад амаль суцэльна атэістычных жыхароў Савецкай Беларусі жыццё яе сыноў і дачок у эміграцыі было і ёсць моцна знітаваным з рэлігіяй. Паказу яе В. Кіпель надае шмат увагі. І вельмі важна, што праблема гэта асвятляецца без усялякага прыхарошвання. Асабліва шмат цяжкасцей з арганізацыяй рэлігійнага жыцця амерыканскіх беларусаў існавала на пачатку іх прыбыцця ў гэтую краіну.

Адводзячы найбольш месца раскрыццю рэлігійнага жыцця беларускай праваслаўнай і каталіцкай канфесій, В. Кіпель не пакінуў без увагі тых нашых супляменнікаў, што спавядаюць уніяцкую і пратэстанцкую веры. Шчыраму беларусу не можа не падабацца адданасць як першай, так і другой канфесій нашай нацыянальнай ідэі. Не цуралася, прыкладам, беларускай мовы ў час богаслужэння і заснаваная ў 1955 годзе ў Чыкага грэка-рымская беларуская парафія Хрыста Збаўца, першым духоўным лідэрам і заснавальнікам якой быў добра вядомы ў ЗША рэлігійны дзеяч а. Ян Хрызастом Тарасевіч. Пра яе сучасны стан так пішацца ў кнізе: "Хоць гэтая парафія параўнаўча невялікая, царква Хрыста Збаўцы адыгрывае важную ролю ў беларускім жыцці Чыкага. Сваімі выданнямі, канферэнцыямі й выставамі парафія сталася добра вядомая амерыканскім беларусам". Ад 1974 года вядзе беларускія радыёперадачы праз радыёстанцыі ў Сан-Францыска і Монтэ-Карла Беларускае Евангельска-Баптысцкае Брацтва. Вялікі актывіст беларуска-пратэстанцкага руху а. Даніла Ясько ўклаў і пераклаў на беларускую мову ў 1979 годзе спеўнік "Гімны Хрысціян", куды ўвайшлі 604 рэлігійныя тэксты.

Цікавыя звесткі знойдзе чытач аб беларускіх стараверах, іудзеях і мусульманах.

Цікавы і раздзел "Адукацыйная дзейнасць". Ад апошняй і раней, і цяпер вельмі шмат залежыць, якой будуць беларуская нацыя і яе дыяспара. У метраполіі з-за выразна антынацыянальнага характару адукацыйнай дзейнасці беларуская нацыя падчас "гарбачоўскай перабудовы" ўжо ледзь не дыхала на ладан, чаго не скажаш пра нашу дыяспару. Тое, што рабілася ў гэтым плане беларускай эміграцыяй, мае сталае не толькі тэарэтычнае, але і прыкладное значэнне.

Прывабіць чытачоў і раздзел кнігі "Выдавецкая справа. Беларусіка ў сродках масавае інфармацыі". У ім вельмі скрупулёзна разглядаецца, дзе, калі і што з беларускай перыёдыкі і кніг з'яўлялася за мяжой. Няцяжка ўявіць, наколькі гэта аблягчае працу тых, хто займаецца даследаваннем праблемы беларускай эміграцыі. Прычым аўтар не проста дае звычайную даведку пра той ці іншы перыядычны орган, а і гаворыць пра яго асноўныя накірункі, вызначае месца і ролю ў жыцці эмігрантаў. Дзякуючы карпатлівай працы В. Кіпеля мы атрымалі магчымасць даведацца, што пісалася пра Беларусь у розных англамоўных, украінскіх, рускіх і польскіх газетах. Чытачы, а сярод іх асабліва навукоўцы, будуць вельмі ўдзячнымі яму за раскрыццё той ролі, якую адыгрываюць амерыканскія бібліятэкі, навуковыя і навучальныя ўстановы ў прапагандзе і захаванні беларускай спадчыны. Найбагацейшы беларускі кнігазбор мае Нью-Йоркская публічная бібліятэка. Шкада толькі, што аўтар не знайшоў месца ў кнізе, каб пералічыць хаця б самыя каштоўныя і рэдкія кнігі гэтай вядомай ва ўсім свеце бібліятэкі.

Заключае кнігу вельмі актуальны на сёння раздзел "Сацыяльны партрэт амерыканскіх беларусаў". Працяглае жыццё аўтара за мяжою дапамагло яму не толькі стварыць аб'ектыўны сацыяльны партрэт эмігранта, але трохі заглянуць і ў яго будучае. В. Кіпель мае рацыю, калі піша, што ў далёкім мінулым пераважная большасць нашых суродзічаў у ЗША не мела выразнага ўяўлення пра сваю нацыянальнасць з прычыны адсутнасці ў іх на радзіме ўласнай дзяржавы. Аднак і пасля атрымання Беларуссю такога статуса мала хто з яе карэннага насельніцтва, падаўшыся ў міжваенны перыяд у эміграцыю, называў тут сябе беларусам. Калі яны чаго-небудзь моцна трымаліся, дык гэта той рэлігіі, якую спавядалі ў сябе на радзіме. Затое пасляваенную беларускую эміграцыю, большасць з якой вызначалася высокай нацыянальнай самасвядомасцю, характарызавала вялікая прыхільнасць да сваіх этнічных каранёў, культуры і мовы. Кожнага шчырага беларуса не могуць не радаваць такія радкі з кнігі В. Кіпеля: "Мова беларускіх эмігрантаў у ЗША адлюстраваная і ў мастацкай літаратуры. Беларуская мова разам з шматлікімі іншымі ўнесеная ў "Лінгвістычны банк Злучаных Штатаў".

Надаючы велізарнае значэнне ролі роднай мовы ў захаванні беларусаў ЗША як самастойнай этнічнай групы, аўтар справядліва лічыць, што яе існаванне зусім не зводзіцца да гэтага фактару. Свядомае імкненне беларусаў да самаідэнтыфікацыі праяўляецца таксама ва ўласцівых нашаму народу строях, умельствах і рамёствах, кухні, народных песнях і танцах, нацыянальных традыцыях.

Вялікага аптымізму адносна будучага лёсу эміграцыі ў кнізе няма, але, скажам, такое месца з яе не кідае ў роспач: "Беларускія традыцыі й звычаі са зменаю пакаленняў паступова трансфармуюцца й адаптуюцца да амерыканскага жыцця, аднак не знікаюць зусім, пакідаючы ў душы маладзейшых пакаленняў імігрантаў адзнаку непаўторнасці й

Леанід ЛЫЧ

Музыка

# АРКЕСТР НА ПАЛУБЕ "ТЫТАНІКА"

Здавалася б, нічога дзіўнага не чакалася: звычайны планавы справаздачны канцэрт духавога аддзялення Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі. Знаёмыя твары на сцэне, усхваляваныя педагогі, як заўсёды, незапоўненая зала...

Чаму ж нахлынула раптам столькі няпрошаных думак, на першы погляд, зусім і не звязаных з гэтай канкрэтнай падзеяй: думак пра гераізм і падзвіжніцтва музыкантаў у наш апакаліптычны час, пра парадаксальнае несупадзенне ўнутранага і знешняга ў аблічды сучаснай моладзі, пра незапатрабаванасць духоўных каштоўнасцей у свеце, сапсаваным камерцыяй?






Канцэртнае выступленне — гэта толькі верхняя частка "айсберга", магчыма, самая прыгожая. Так і павінна быць, і мы ў гэтым пераканаліся. Прыгажосць была ва ўсім: у асляпляльна святочным уступе (трыо трубачоў), у адухоўленых тварах усіх выканаўцаў, у іх высокім прафесіяналізме, нарэшце, у самой музыцы. Але за ўсім гэтым — бездань працы і цярпення. Сапраўды падзвіжніцтвам можна назваць працу выдатных педагогаў духавога аддзялення Н. Аўраменкі, М. Волкава, У. Будкевіча, В. Зайцава, У. Скараходава, Г. Мінюковіч, У. Майсеенкі, В. Грыгор'ева, Э. Фарберава, якія з дня ў дзень карпатліва вучаць дзяцей усяму, што ўмеюць самі, — не за грошы, а проста таму, што не могуць інакш.

А ці ж штодзённыя шматгадзінныя заняткі нашых дзяцей у практычна невыноснай экалагічнай абстаноўцы не ёсць свайго роду подзвіг? Яны ж ахвяруюць не толькі вольнаю хвілінай, але часта і здароўем.

І вось — іграюць музыканты. І колькі таленту і нечаканай духоўнай сталасці ў іх выступленнях! Кожны выканаўца — несумненна творчая індывідуальнасць. Самы юны ўдзельнік канцэрта Сярожа Рабулец з першых жа тактаў зачараваў публіку вытанчанасцю, віртуознасцю, тонкім пачуццём стылю выконваемага твора. Слухачам запомніўся і другі пачатковец — Дзіма Солтан, які вельмі пранікнёна і лірычна выканаў п'есу свайго бацькі, вядомага кампазітара У. Солтана. Безумоўна самых добрых слоў заслугоўваюць сольныя выступленні Андрэя Кавалінскага, Сашы Веруханава, Алёшы Яскельчыка, Валерыя Пунчанкі.

Але сапраўдным упрыгожаннем канцэрта, на наш погляд, былі Віка Дрыгіна, Жэня Журовіч і Валодзя Красуля. Выключная пластычнасць, пяшчотнасць гучання, пачуццё формы ва "Ундзіне" Рэйнікеў Вікі, глыбокае псіхалагічнае пранікненне ў вобразную сферу вебераўскага кларнетавага канцэрта ў Жэні, дзівосная ўнутраная свабода і эмацыянальнасць Валодзі ў іспанскай п'есе Равеля, — усё гэта сведчыць пра досыць высокі ўзровень прафесіяналізму і, галоўнае, пра вялізныя патэнцыяльныя магчымасці юных музыкаў.

Дарэчы, выканаўчы патэнцыял духавога аддзялення ліцэя ў цэлым надзвычай высокі: усе ўдзельнікі канцэрта — лаўрэаты нацыянальных і міжнародных конкурсаў, і няма сумнення, што большасць з іх у перспектыве можа стаць выдатнымі музыкантамі нашай рэспублікі.

Асобна адзначым цікавасць педагогаў і навучэнцаў духавога аддзялення да ансамблевага грання і відавочныя творчыя дасягненні ў гэтым жанры. У канцэрце былі прадстаўлены самыя разнастайныя ансамблі, як па складзе, так і па колькасці ўдзельнікаў. Цікавай знаходкай арганізатараў канцэрта было яго атачэнне двума яркімі ансамблямі медных духавых інструментаў: ужо прыгаданае трыо трубачоў у пачатку і брас-секстэт у канцы (выканаўцы: А. Кавалінскі, Я. Лятэ, С. Петрашкевіч, А. Татарыцкі, А. Амосаў, Г. Салоха). Заключны нумар асабліва крануў публіку настальгічна-рэтраспектыўным каларытам, зладжанасцю ансамбля і цудоўнымі тэхнічнымі магчымасцямі салістаў Андрэя Кавалінскага, Жэні Лятэ ды Сашы Татарыцкага.

Вядома, поспех канцэрта ў многім залежаў ад яго натхняльніка — нязменнага вось ужо на працягу амаль 20 гадоў кіраўніка духавога аддзялення Л. Гучка, і ў вялікай ступені вызначаўся высокім прафесійным узроўнем канцэртмайстраў, адданых сваёй працы і музыцы.

... Але вернемся да пачатку нашых разваг. Няхай свет вакол нас ляціць у бездань разам з усёй яго базарна-"шапікавай" сумятнёй, але — гучыць музыка! І гэта супакойвае сваёй звычнасцю, таму што музыка іграла заўсёды, і ў ёй заўсёды была патрэба. Яна ёсць і сёння: на жаль, не ў "мільёнаў", як марыў Бетховен... Але ж і тых соцень, каму яна патрэбная, дастаткова, каб свет не загінуў.

Кажуць, калі тануў пасажырскі параход "Тытанік", на палубе да апошняга моманту граў карабельны духавы аркестр. На "палубе" сённяшняга патанаючага свету іграюць нашы дзеці...

**В. ГУСТАВА,**
**І. ДЗЯНІСАВА**

*На здымку: імгненні канцэрта.*
*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

---

святасці далёкае бацькаўшчыны".

Прыемна дапаўняе сацыяльны партрэт паваеннага беларускага эмігранта ў ЗША яго зайздросная напорыстасць любой цаной выбіцца ў людзі, не адстаць ад астатніх. Пацвярджаецца гэта такімі фактамі: 80% дзяцей нашых суродзічаў у ЗША вучылася ў каледжах. Пасля заканчэння адпаведных навучальных устаноў яны працуюць настаўнікамі, урадаўцамі, інжынерамі, менеджэрамі, лекарамі, адвакатамі.

На сёння кнізе В. Кіпеля няма роўных па колькасці выкарыстаных для напісання гісторыі беларускай эміграцыі ў ЗША замежных архіўных крыніц. Неацэнную каштоўнасць маюць і тыя фактычныя матэрыялы, што здабыты аўтарам падчас шматлікіх сустрэч з вядомымі асобамі беларускай дыяспары ці атрыманы ад іх у выніку ліставання. Вялікую стараннасць праявіў аўтар пры складанні геаграфічнага і імяннога паказальнікаў.

Сваю рэцэнзію хацеў бы закончыць тымі словамі, якімі канчаецца сама кніга: "Паўнейшае вывучэнне беларускае дыяспары як ў ЗША, гэтак і ў цэлым свеце павінна быць распачатае на бацькаўшчыне, і дзейнасць ды здабыткі эміграцыі павінны быць улучаныя ў агульны кантэкст развіцця беларускае нацыі й культуры". Сапраўды нельга ўскладаць надзею, што гэтую зусім нялёгкую для вучоных праблему можна вырашыць толькі за кошт высілкаў нашых супляменнікаў за мяжой. З пазіцый задач сучаснага нацыянальнага Адраджэння слушнымі падаюцца словы аўтара аб неабходнасці ўключэння духоўных здабыткаў нашых суродзічаў за мяжой у агульную скарбонку беларускай агульнанацыянальнай культуры, бо ад гэтага яшчэ больш узрасце аўтарытэт апошняй у вачах яе свядомых носьбітаў і тых, хто ўсё яшчэ ніяк не адважыцца ўключыцца ў працэс аднаўлення, умацавання нацыянальных пачаткаў нашага жыцця. Ставячы ў поўным аб'ёме духоўную спадчыну беларускай дыяспары на службу агульнанацыянальных інтарэсаў, вельмі важна не абмінуць каштоўных здабыткаў яе літаратараў і навукоўцаў ва ўзбагачэнні лексічнага патэнцыялу, у адпрацоўцы фанетычных і марфалагічных форм нашай роднай мовы. З яе багаццяў і адметнасцяў у творы нашых эмігранцкіх аўтараў трапіла гэтак шмат арыгінальнага, адмыслова беларускага, што яно проста само просіцца на старонкі мастацкай, публіцыстычнай і навуковай літаратуры.

---



## БЕЛАРУСКІ ФОНД СОРАСА

абвяшчае пра пачатак конкурсу
на атрыманне грантаў у рамках

## "Маладзёжнай праграмы"

Праграма падтрымлівае разнастайныя віды дзейнасці дзяцей і маладых людзей, у тым ліку клубы, гурткі, грамадскія арганізацыі, якія працуюць з падлеткамі моладдзю.

**Прыярытэт аддаецца такім напрамкам, як:**
— экалогія;
— навукова-тэхнічная і мастацкая творчасць;
— кантакты з усходне-еўрапейскімі краінамі;
— маладзёжная выдавецкая дзейнасць;
— правядзенне выставаў, конкурсаў, семінараў;
— асветніцкая дзейнасць у галіне аховы здароўя.

**Увага!** Маладзёжнай праграмай не падтрымліваюцца праекты, звязаныя са спортам; паездкамі ў заходнія краіны (выключэнне можа быць зроблена толькі для фіналістаў міжнародных конкурсаў); рэлігійнай дзейнасцю; набыццём камп'ютэрнай тэхнікі (акрамя абсталявання для выдання школьных або студэнцкіх газет); арганізацыяй летніх лагераў; атрыманнем стыпендый і розных надбавак да іх.

Праекты падаюцца ў выглядзе заявак на грант паводле распрацаванай формы. Форму заяўкі можна атрымаць у Белрускім Фондзе Сораса альбо ў Віцебскім і Гомельскім аддзяленнях БФС. Заяўкі, пададзеныя не па форме, разглядацца не будуць.

Праекты дасылаюцца на адрас:
**220027 г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 65, корп. 11а, п. 103, Беларускі Фонд Сораса.**

На канверце і ў правым верхнім куце заяўкі пазначаецца назва праграмы і конкурсу.

Апошні тэрмін падачы заявак (па паштовым штэмпелі) — **31 мая 1995 года.** У далейшым конкурс будзе праводзіцца штоквартальна.

**З пытаннямі звяртайцеся па тэлефонах:**
**(0172) 32-70-64, 39-31-21, 32-77-13, 39-93-46.**

---

# РАДЗІМЫ ВЕЧНЫ ДАННІК

Я так марыў пабыць на тваёй Радзіме...

І вось паехаў. З табою.

Толькі дарогу да гомельскай вёскі Заспы, што пад Рэчыцай, мы з сябрамі распытвалі самі, бо ты падказаць не мог. Ані слоўкам. Ляжаў ва ўвесь рост у крытым грузавіку, што сотня за сотняй кіламетраў адмерваў твой апошні шлях з сталіцы, куды ты гэтак ірваўся і дзе гады паўтары , як атрымаў кватэру. Але нажыцца ў ёй не паспеў.

Памёр раптоўна, сярод белага дня, на 9-ым паверсе "Дома кнігі", што на праспекце Машэрава, дзе год таму выйшаў твой адзіны самастойны паэтычны зборнік "Рэха журбы" (дагэтуль быў калектыўны зборнік "Нашчадкі" з тваёй нізкай "Даннік").

Зусім побач з выдавецтвам стаіць цагляны пяціпавярховік — універсітэцкі інтэрнат, дзе ў далёкім 1976 годзе мы, першакурснікі філфака, жылі разам. Ад тых дзён ты і ўвайшоў у памяць сваёй няўрымслівасцю, неспакоем і разам з тым дзіўнай для маладзёна разважнасцю ды зацятай стрымансцю.

Даўно вядома: смерць наканавана ўсім смертным. Але калі такое здараецца з маладымі, у тым адчуваеш нейкую несправядлівасць. Бог кліча да сябе працаўніка, які тут мог бы яшчэ працаваць ды працаваць.

Зрэшты, Богу відней.

Поўная медыцынская экспертыза раптоўнай смерці беларускага паэта Віктара Стрыжака будзе гатова толькі праз месяц. Так паведамілі ў сталічным моргу, выдаючы на рукі тваёй жонцы Валянціне кароткую і загадкавую даведку з прысудам: "Чарнобыльская зона. Група N 1". Гады працы карэспандэнтам Веткаўскага раённага радыё, хіба, не мінулі бясследна. Ты сплаціў Радзіме сваю даніну ў яе страшэннай бядзе XX стагоддзя.

Па боскаму наканаванню ў жыцці Віктар прыйшоў як паэт. Ім ён у гісторыі нашай культуры і застанецца.

**У Радзімы вечны даннік,**
**Вечны катаржнік душы,**
**Улягаю за гадамі,**
**А за мной — крыжы...**



Пагодным красавіцкім днём 1995 года на высокім дняпроўскім адхоне, што насупраць рачной лукавіны з паэтычнай назвай "Белы Бераг", паболела яшчэ на адзін пагорак. Поруч з магілай бацькі, Івана Данілавіча (1919—1975), дзеда Сцяпана (1897—1981) узняўся яшчэ адзін, дачасны, крыж — сына і ўнука — Віктара Стрыжака (1955—1995). Паэта, настаўніка, журналіста.

Даруй, сябра, што не зберaглі.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ**

---

**Калектыў творчай фірмы "Тэмікс" глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці супрацоўніка паэта СТРЫЖАКА Віктара Іванавіча і выказвае спачуванне родным і сябрам нябожчыка.**

---

**Саюз беларускіх пісьменнікаў глыбока смуткуе з прычыны раптоўнай смерці паэта Віктара СТРЫЖАКА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

Надзённа!

***Пяць гадоў мы ўжо гаворым пра беларусізацыю нашых школ. Але нешта не сустракаў я ў нашым друку лічбаў, якія б сведчылі, як ідзе на Беларусі гэтая самая беларусізацыя. Дзеля гэтага і накіраваўся ў Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь і атрымаў у Галоўным упраўленні агульнай сярэдняй адукацыі вось такія, цікавыя, на мой погляд, дадзеныя.***

***Па стану на пачатак 1994/95 навучальнага года ў рэспубліцы дзейнічала 4859 дзённых агульнаадукацыйных школ, у якіх навучалася 1.515.270 чалавек. З агульнай колькасці вучняў на беларускай мове вучацца 614 020 чалавек, або 40,5 працэнта, на рускай — 900 796 (59,5 працэнта). Сярод школ з беларускай мовай навучання пераважная большасць сканцэнтравана ў Мінскай вобласці; у 720 агульнаадукацыйных школах (76,3 працэнта) навучаюцца 76 578 чалавек, з якіх 6978 чалавек у гэтым годзе заканчваюць сярэднія школы. Наогул па рэспубліцы дзейнічае 3137 беларускіх школ, дзе вучацца 308 750 чалавек (20,4 працэнта), 239 рускамоўных школ з 167 133 (11,0 працэнта) навучэнцамі, і 1482 школы з дзвюма мовамі навучання — рускай і беларускай. Колькасць вучняў у іх складае на сённяшні дзень 1.039.372. Што тычыцца гэтага тыпу школ, то тут лідэрам з'яўляецца Гомельская вобласць: у 276 школах (36 працэнтаў) вучацца 157 867 чалавек (66,6 працэнта).***

***Разглядаючы прадстаўленыя мне матэрыялы, я заўважаў адну цікавую асаблівасць: не зважаючы на тое, што ў гэтым, 1994/95, навучальным годзе 13 721 чалавек складуць выпускнікі беларускіх школ, у нашым родным Мінску няма ніводнай беларускай школы. З гэтым, а таксама з некаторымі іншымі пытаннямі я і звярнуўся да галоўнага інспектара Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Тамары САЎЧУК.***

# СУХОЮ МОВАЙ ЛІЧБАЎ

**— Тамара Мікалаеўна, з тых 3137 беларускіх школ, што дзейнічаюць у нашай рэспубліцы, у горадзе Мінску няма ніводнай. Чаму? Чым гэта абумоўлена?**

— Справа ў тым, што Закон аб мовах быў прыняты толькі 5 гадоў таму. За такі невялікі тэрмін перавесці школу на беларускую мову немагчыма. Мы пачыналі яе пераводзіць з першых класаў і на сёння ў нас у Мінску ў школах з дзвюма мовамі навучання пачатковыя класы (з 1 па 4) працуюць на беларускай мове. Увогуле ж па рэспубліцы ў нас працуюць 756 такіх школ, прычым толькі 5 з іх размешчаны ў гарадах. У Мінску ж мы маем толькі адну школу N 108, дзе некалькі асобных 11-ых класаў працуюць на беларускай мове. Цалкам беларускіх школ у нас пакуль што няма. А некалькі гадоў таму было такое становішча, што ў нас па рэспубліцы ў гарадах было толькі 5 беларускіх школ (1991/1992 навучальны год. Тут і надалей — заўвагі мае. — **Т. І.**). Гэта ж дзесяцігоддзямі так рабілася, што ўсе школы пераводзіліся на рускую мову. І павярнуць гэты працэс зараз вельмі цяжка.

**— А вось школы з дзвюма мовамі навучання — што гэта за школы?**

— Школы з дзвюма мовамі навучання — гэта якраз і ёсць, я сказала б, асноўнае звяно ў працэсе беларусізацыі школ. Менавіта ў такіх школах, на базе такіх школ і ідзе праца па пераводу агульнай сярэдняй адукацыі на беларускую мову навучання. Двухмоўныя школы — гэта ў перспектыве беларускія школы. Ва ўсіх гэтых школах 1—4-ыя класы працуюць на беларускай мове.

**— У гарадах пераважаюць менавіта двухмоўныя школы і школы з рускай мовай навучання. Якія крокі прадпрымаліся за гэтыя 5 гадоў у накірунку пераводу гарадскіх школ на беларускую мову, што робіцца зараз і якія планы на будучыню?**

— Давайце, да прыкладу, спынімся на горадзе Мінску. У нас 9 раёнаў. З таго моманту, як быў прыняты Закон аб мовах, нашым упраўленнем для кожнага раёна была распрацавана свая праграма пераводу школ на беларускую мову навучання. У кожным мікрараёне мы пакінулі адну рускамоўную школу, а ўсім астатнім быў нададзены статус школ з дзвюма мовамі навучання, якія ў перспектыве павінны стаць беларускімі. Так было зроблена, каб задаволіць патрэбу тых бацькоў, якія жадалі вучыць сваіх дзяцей на рускай мове. На сённяшні дзень мы маем усяго па рэспубліцы 239 рускамоўных школ (для даведкі: у 1991/92 навучальным годзе іх было 911, у 92/93 н. г. — 397, 93/94 н. г. — 257. — **Т. І.**). Абсалютным лідэрам тут з'яўляецца Мінск — 37 школ з 41 338 вучнямі, а па абласцях — Магілёўская, Брэсцкая і Віцебская (51, 44 і 43 школы; 22 175, 29 853 і 24 916 вучняў адпаведна). Ва ўсіх астатніх школах ідзе працэс пераводу школ на беларускую мову. У адпаведнасці з Законам аб мовах — ён павінен завяршыцца да 2000 года. Аднак у гэтым годзе, пасля заявы прэзідэнта, у якой ён сказаў, што дэкларуе бацькам свабоду выбару мовы навучання, стала рэзка памяншацца колькасць першых беларускіх класаў. Сталі пераводзіцца на рускую мову і 3-ія класы, і 4-ыя і нават 5-ыя пасля патрабаванняў бацькоў. Дарэчы, калі мы пачыналі гэты працэс, а было гэта пры Шушкевічу, мы мелі добрую падтрымку з боку ўрада. Зараз жа наадварот, нам кажуць, што мы "нагнятаем гэтыя пытанні" і падтрымкі ў нас няма. Таму сказаць, як пойдзе гэты працэс надалей, вельмі цяжка.

**— Тамара Мікалаеўна, Беларусь — краіна інтэрнацыянальная. Акрамя беларусаў, тут жывуць і рускія, і ўкраінцы, і татары, і літоўцы, і шмат іншых людзей, якіх завуць у афіцыёзе "прадстаўнікамі нацыянальных меншасцей". Зразумела, што ў іх могуць быць пэўныя цяжкасці з вывучэннем роднай мовы. Што робіцца міністэрствам у гэтым накірунку?**

— Па стану на пачатак 1994/95 навучальнага года ў рэспубліцы дзейнічала 218 школ, дзе навучаліся 10 444 прадстаўнікі нацыянальных меншасцей. Сярод іх у 212-і школах 10173 чалавекі вывучаюць родную польскую мову. 59 вучняў—родную літоўскую ў 4-х школах і ў 2-х школах 212 вучняў вывучаюць родную яўрэйскую мову.

**— Акрамя вышэйназваных, ёсць яшчэ школы, дзе вывучаюцца іншыя мовы нацыянальных меншасцей?**

— Не, такіх спецыялізаваных школ у нас больш няма. На сённяшні дзень у сістэме агульнай адукацыі, г. зн. у агульнаадукацыйных школах, на Беларусі вывучаюцца толькі польская мова і яўрэйская, як школьныя прадметы, а на польскай і на літоўскай мовах нават вядзецца навучанне. Гэта, яшчэ раз паўтаруся, у сістэме агульнай адукацыі. На Гарадзеншчыне жывуць палякі. У свой час яны звярнуліся да нас з просьбай — і на сённяшні дзень, як бачыце, для іх працуюць дзве сотні агульнаадукацыйных школ. Літоўцы, якія жывуць на мяжы з Літвою, таксама звярнуліся да нас — і для іх мы адчынілі школы. Мы ўвогуле ніколі не пакідаем без увагі падобныя просьбы. Але ж зразумейце, што і гэта зрабіць не так ужо й проста. Перш-наперш, трэба знайсці настаўніка, які б валодаў пэўнай мовай, скласці і выдаць падручнікі, але мы заўсёды рэагуем на ўсе такія заявы. Калі якая-небудзь нацыянальная меншасць звяртаецца да нас, яна можа быць упэўнена, што іхнія праблемы не застануцца без вырашэння. На сённяшні дзень такія заяўкі былі пададзены палякамі, літоўцамі, яўрэямі, украінцамі, татарамі і нават таджыкамі з Віцебшчыны, таму што там жыве група перасяленцаў з гарачых кропак. Аднак, акрамя першых трох, мовы астатніх нацыянальных меншасцей вывучаюцца толькі ў нядзельных школах, таму што ўключаць іх у сістэму агульнай адукацыі на сённяшні дзень няма патрэбы.

**— Давайце напрыканцы нашай размовы звернемся да аднаго пытання, якое тычыцца галоўнай тэмы. Зараз ідзе працэс беларусізацыі сярэдняй адукацыі, узнікаюць, безумоўна, праблемы з аваладаннем беларускай мовай самімі настаўнікамі. Не беручы пад увагу настаўнікаў беларускай мовы й літаратуры, спытаю, ці ёсць праблемы з аваладаннем беларускай мовай настаўнікамі-прадметнікамі?**

— Я не стану ўтойваць, бо гэта сапраўды ганьба для нас, але ў нас ёсць настаўнікі беларускай мовы й літаратуры, якія вельмі дрэнна валодаюць беларускай мовай. І гавораць на ёй толькі на занятках дый то з памылкамі. Такія настаўнікі псуюць не толькі беларускамоўнае выкладанне, а й увогуле вобраз, ці, калі хочаце, імідж настаўніка беларускай мовы. І мы прымаем меры, падчас даволі жорсткія, каб выкараніць гэтую з'яву. Што ж тычыцца іншых настаўнікаў-прадметнікаў, то пасля прыняцця Закона аб мовах мы правялі міністэрскую калегію і распрацавалі сваю праграму пераводу выкладання на беларускую мову. Ва ўсіх інстытутах удасканалення настаўнікаў (ІУН) былі арганізаваны курсы для настаўнікаў-прадметнікаў па аваладанні беларускай мовай. Большасць настаўнікаў былі тыя, хто ведаў мову, яны вучылі яе ў школе, але ім была патрэбна перападрыхтоўка ў плане чыста прафесійным, прадметная. Раней гэта рабілася ў метадычных кабінетах пры школах, вучылішчах — ствараліся такія курсы. Калі ж мы зараз пасылаем запыты ў ІУНы, у абласныя ўпраўленні аукацыі, просім спісы настаўнікаў, якім патрэбна яшчэ курсавая падрыхтоўка, то нас запэўніваюць, што моваю авалодалі ўсе настаўнікі. Праўда, калі мы робім інспекцыі, то гэта не заўсёды пацвярджаецца. Высвятляецца, што нехта валодае моваю лепш, нехта горш, многія валодаюць ёю дрэнна, адным словам, пэўная колькасць праблем яшчэ існуе. Але закон прыняты, і мы будзем яго выконваць.

**— Вялікі дзякуй за размову і поспехаў вам у працы.**

Вось такая размова атрымалася ў мяне з Т. Саўчук. Як бачыце, за пяць гадоў зроблена шмат, нягледзячы на існуючыя праблемы й перашкоды. Хацелася б дадаць яшчэ й тое, што ў параўнанні з мінулым навучальным годам колькасць вучняў, якія вывучаюць прадметы на рускай мове, паменшылася на 8709 чалавек, у той час як на 103 102 чалавекі болей сталі вывучаць прадметы на беларускай мове, а па Гарадзенскай і Мінскай абласцях такіх вучняў стала больш за 50 працэнтаў. Статыстыка, кажуць, сухая рэч, але за ёй стаяць канкрэтныя асобы, нашыя дзеці. І вучыцца ім у нас. Так, жыць і вучыцца ім на Беларусі, і не мы, а яны будуць ствараць новую Беларусь, новую краіну, новае жыццё. Трэба не забываць пра гэта, ідучы на рэферэндум.

**Тарас ІВАНОЎ**

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

*Х.Дунец (1932-35)*
*І.Гурскі (1935-41)*
*А.Куляшоў (1945-46)*
*М.Горцаў (1947-49)*
*П.Кавалёў (1949-50)*
*В.Вітка (1951-57)*
*М.Ткачоў (1957-59)*
*Я.Шарахоўскі (1959-61)*
*Н.Пашкевіч (1961-69)*
*Л.Прокша (1969-72)*
*Х.Жычка (1972-76)*
*А.Асіпенка (1976-80)*
*А.Жук (1980-86)*
*А.Вярцінскі (1986-90)*

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Жана ЛАШКЕВІЧ
Алесь МАРЦІНОВІЧ
Барыс ПЯТРОВІЧ, *першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА
Віктар ШНІП, *намеснік галоўнага рэдактара*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі -- *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара -- *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі -- *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі -- *331-985*
літаратурнага жыцця -- *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі -- *332-204*
паэзіі і прозы -- *332-204*
музыкі -- *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання -- *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- *332-462*
навін -- *332-462*
мастацкага афармлення -- *332-204*
фотакарэспандэнт -- *332-462*
бухгалтэрыя -- *268-640*

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11264.
Нумар падпісаны 27. 4.1995 г.
ЗАКАЗ 1243
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Паліглоты. — Не навёў на розум гэтых грэкаў Бог: "маналог" — сам-насам, "дыялог" — удвох, ну а што мы кажам, як бяром утрох? Трое — гэта кворум, п'янка, эйфарыя, пераходзім на італьянскую і гаворым "трыо".

●

Апытанне на вуліцах: "Людзі, чаму мы маўчым?" — "Бо няма пра што гаварыць". — "Захоўваем таямніцу". — "Усё ўжо сказана". — "Крычы, не крычы — не паможа". — "Забаронена парушаць цішыню". — "Менш балбатаць трэба". — "А раптам дазнаюцца, пра што крычаў?" — ..."Так і будзем трымаць язык за зубамі?" — "Дык крычым жа нема "Маўчу"!

●

Пазваніў свату Ігнату. "Ля апарата", — адазваўся сват. Пачуліся нейкія падазроныя сігналы. "Непрафесіяналы", — пажартаваў сват. Не спадабалася Ігнатава слоўца, бо агрызнуліся: "Глядзі ты, прамоўца". Хацелася верыць — выпадковае падключэнне, ды прэзідэнт кажа: "Пашыраем сачэнне".

●

У неба лбом упіраюся і спелыя рву суніцы... Нялёгка жыць, разрываючыся між жураўлём і сініцай.

●

— Што гэта за дом, дзядуля, мемарыяльных дошак больш, чым кватэр? — Усё без падману, крошка, ёсць адваротны бок у дошак. Кватэру замардаванага Галадзеда займеў Панамарэнка. Ягоным суседам быў літаратар, які жыў у кватэры знікнуўшага невядома калі, можа, і свайго брата-літаратара. Адзін за адным змяняліся расстрэльныя каралі. Так і жылі. Вырашылі нарэшце спыніцца, і дом у цэнтры сталіцы перадалі аддзяленню міліцыі. Гэта ягоную шыльду, крошка, ты прыняў за чарговую мемарыяльную дошку.

●

Паводле А. Вазнясенскага. Ня-ма-ня-ма-ня-ма-маніня-ма. "Мані" няма, а з другой стараны колькі ма-ны-ма-ны-ма-ны.

●

Чаму не абзаводжуся будзільнікам? І так дакладна ведаю час. Перастала іграць на піяніна суседская дачка — дзесяць. Сціхла радыё за сцяной — адзінаццаць. Пачалі прыбіраць сталоўку на першым паверсе — дванаццаць. Закончыўся падоўжаны сеанс у кіно — палова першай. Пайшоў у парк апошні тралейбус — палова другой. Прывезлі хлеб у "Гастраном" — чатыры. Пратарахцеў першы аўтобус — пяць. Зашморгаў дворнік пад вакном — палова шостай. Прыехалі паліваць кветкі ў скверы — шэсць. Я ўжо амаль сплю, калі неба над домам расколвае гром — самалёт на Пецярбург, палова сёмай. Пара ўставаць, рабіць зарадку.

●

Адзінота — працэс калектыўны. Самотны — значыць нікому не патрэбны.